(працяг гл. на стар. 99—100)

ПРОЛЕТАРЫ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАРТЫЙНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XII

№ 8
Жнівень 1938 г.



ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.,
ЦК КП(б)Б, пакой 7.
Тэлефон рэдакцыі
па камутатару 20 000, даб. 50.



# Другая Сесія Вярхоўнага Совета СССР

Закончыла сваю работу Другая Сесія Вярхоўнага Совета Саюза ССР. На працягу дванаццаці дзён абраннікі народа вырашалі важнейшыя дзяржаўныя пытанні, накіраваныя на ўмацаванне магутнасці нашай краіны, на абарону соцыялістычнай радзімы, на яшчэ лепшае, радаснае і заможнае жыццё працоўных.

Уся работа Другой Сесіі праходзіла пры велізарным уздыме і несакрушальным маральна-палітычным адзінстве совецкага народа. За работай сваіх абраннікаў з неаслабнай увагай сачыў увесь совецкі народ. Усе працоўныя адобрылі гістарычныя рашэнні самага дэмакратычнага, сапраўды соцыялістычнага парламента, выбранага на аснове Сталінскай Канстытуцыі.

Дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР у выключна дзелавой абстаноўцы з усёй уласцівай ім сур'ёзнасцю абмяркоўвалі важнейшыя дзяржаўныя пытанні і аднадушна выносілі свае рашэнні. У гэтым аднадушшы заключаецца стыль работы сапраўды народнага парламента, які нельга параўнаць ні з адным парламентам капіталістычных краін, нават тых, якія лічаць сябе дэмакратычнымі.

Апраўдаць высокае давер'е народа—вось мэта, якую кожны дэпутат совецкага парламента ставіў перад сабою, збіраючыся на Сесію для вырашэння адказнейшых дзяржаўных пытанняў. І пад гэтым знакам праходзіла ўся работа Другой Сесіі, прасякнутая сталінскімі клопатамі аб народным шчасці, няўхільнай барацьбой за трыумф комунізма.

Сабраўшыся на Сесію, лепшыя людзі краіны, выбраныя воляй мільёнаў, горача віталі свайго першага ўсенароднага дэпутата, друга працоўных усяго свету, любімага Сталіна, які забяспечыў нашай краіне шчаслівае жыццё і стварыў усе ўмовы для мірнага соцыялістычнага будаўніцтва.

Сесія абмеркавала і аднадушна прыняла рашэнні па важнейшых дзяржаўных пытаннях: «Аб адзіным дзяржаўным бюджэце СССР на 1938 год», «Закон аб судаўстройстве СССР, саюзных і аўтаномных рэспублік». «Аб выбранні Вярхоўнага Суда СССР». «Закон аб грамадзянстве СССР», «Закон аб парадку ратыфікацыі і дэнансацыі міжнародных дагавораў СССР», «Закон аб дзяржаўным падатку на коней аднаасобных гаспадарак» і іншыя.

Усе гэтыя пытанні вырашаны на аснове поўнай дэмакратыі, у адпаведнасці з патрабаваннямі вялікай Сталінскай Канстытуцыі, якая замацавала перамогі, заваяваныя працоўнымі краіны соцыялізма.

З аднадушным адабрэннем сустрэлі і зацвердзілі прадстаўнікі народа адзіны дзяржаўны бюджэт СССР на 1938 год, які мае велізарнае значэнне ў жыцці нашай краіны.

Дзяржаўны бюджэт СССР па даходах на 1938 год, зацверджаны Сесіяй у суме 132 мільярдаў 637 мільёнаў 993 тысяч рублёў, сведчыць аб вялікай магутнасці соцыялістычнай дзяржавы, аб яе нязмерным росце, аб сіле і непарушнасці Совецкага Саюза.

І сапраўды, якую-б галіну соцыялістычнай гаспадаркі мы ні ўзялі, мы ўсюды бачым бурны рост. Аб гэтым сведчаць новапабудаваныя гіганты прамысловасці, уведзеныя ў строй электрастанцыі, тысячы складанейшых машын, тэхнічная ўзброенасць нашых МТС, калгасаў і соўгасаў, рэканструкцыя гарадоў, вялікія асігнаванні на соцыяльна-бытавыя патрэбы, на ахову працы совецкіх грамадзян. Усё гэта з'яўляецца яркім довадам таго, што наш бюджэт складзен у інтарэсах найшырэйшых мас працоўных, накірован на далейшае працвітанне радзімы.

Зацверджаны бюджэт з'яўляецца сапраўды народным, бо ён цалкам і поўнасцю адлюстроўвае інтарэсы і волю ўсіх народаў нашай неабсяжнай краіны. Адзіны дзяржаўны бюджэт—прамы адказ на задачы далейшага развіцця народнай гаспадаркі і культуры, павышэння матэрыяльнага ўзроўню працоўных, умацавання абароназдольнасці соцыялістычнай дзяржавы.

З вялікім здавальненнем народ даведаўся, што з агульнай сумы бюджэта на абаронныя мерапрыемствы зацверджана 27 мільярдаў рублёў. Гэтыя асігнаванні на абарону радзімы яшчэ раз сведчаць аб вялікім клопаце, які праяўляе наша партыя, совецкі ўрад аб мірнай працы працоўных, аб абароне вялікіх заваяванняў, запісаных залатымі літарамі ў Сталінскай Канстытуцыі.

Працоўныя нашай краіны любяць сваю Чырвоную армію, свой магутны Чырвоны флот і Чырвоную авіяцыю, якія зорка стаяць на варце заваёў вялікага Кастрычніка і ніколі і нікому іх не ўступяць.

Таварыш Сталін гаварыў:

Нідзе ў свеце няма такіх любоўных і клапатлівых адносін з боку народа да арміі, як у нас. У нас армію любяць, яе паважаюць, аб ёй клапоцяцца. Чаму? Таму, што ўпершыню ў свеце рабочыя і сяляне стварылі сваю ўласную армію, якая служыць не панам, а вызваленым з-пад прыгнёту капіталістаў рабочым і сялянам».

Так гаварыў таварыш Сталін, так гаворыць увесь маналітны совецкі народ, які бязмежна любіць сваю непераможную Чырвоную Армію.

Бюджэт СССР на 1938 год з'яўляецца выражэннем правільнага вырашэння ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. Факты росквіту Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі пацвярджаюць гэта.

Бюджэт БССР на 1938 год складае 1 мільярд 167 мільёнаў 210 тысяч рублёў.

Толькі ў выніку Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі, якая назаўсёды прагнала з совецкай зямлі памешчыкаў і капіталістаў, Беларусь атрымала сваю дзяржаўнасць і магчымасць развіваць сваю прамысловасць, сельскую гаспадарку, культуру, навуку, мастацтва.

БССР пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, пры дапамозе гераічнага рускага народа дабілася нябачаных поспехаў ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

Пры совецкай уладзе змянілася аблічча Беларускай рэспублікі. За годы двух сталінскіх пяцігодак прадукцыя мясцовай прамысловасці павялічылася ў 10 раз. У БССР створаны такія галіны вытворчасці, як тарфяная, хімічная, фасфарытная, галантарэйная, паліграфічная, станкабудаўнічая, сельскагаспадарчага машынабудаўніцтва, лёгкая, лясная, харчовая і іншыя.

Валавая прадукцыя 1927 года складала 17 мільёнаў 417 тысяч рублёў. У 1937 годзе яна дасягнула 161 мільёна 295 тыс. рублёў. Па бюджэту БССР у 1938 годзе на далейшае развіццё прамысловасці павінна быць выдаткавана 74,9 мільёна рублёў, што яшчэ вышэй узніме вытворчасць і створыць усе умовы для новых перамог у бягучым годзе.

Велізарных зрухаў дабілася Беларуская рэспубліка і ў сельскай гаспадарцы. На гэтым участку многа нашкодзілі ворагі народа, якія арудавалі ў сістэме Наркамзема БССР. Партыя, урад, вялікі Сталін, органы НКВД на чале са сталінскім наркомам таварышом Ежовым дапамаглі беларускаму народу выкрыць і знішчыць заклятых ворагаў народа.

Партыя і совецкі ўрад аказалі вялікую дапамогу беларускаму сялянству ў справе перабудовы сельскай гаспадаркі. Да рэволюцыі беларуская вёска прадстаўляла сабою дробныя распыленыя гаспадаркі, якія знаходзіліся пад цяжкім уціскам памешчыкаў і кулакоў. Совецкая ўлада, Кастрычніцкая рэволюцыя вызвалілі працоўнае сялянства ад гэтай кабалы і стварылі ўмовы для творчай працы ў калгасах.

Зараз у Беларусі налічваецца каля 10 тысяч калгасаў, якія засяваюць 96,4 процанта ўсёй пасеўнай плошчы, 200 МТС з колькасцю 7662 трактароў, 1001 камбайнаў, 3800 малатарань, 1200 льноцерабілак, 3415 аўтамашын.

Асігнаванне па бюджэту 1938 года 54 мільёнаў 353 тыс. рублёў на сельскую гаспадарку стварае ўсе ўмовы для далейшага ўмацавання калгасаў, для барацьбы за высокі ўраджай, за сталінскія 7—8 мільярдаў пудоў зярна ў год, за заможнае і шчаслівае жыццё калгаснікаў.

На соцыяльныя і культурныя мерапрыемствы ў бягучым годзе будзе выдаткавана 829 мільёнаў 149 тысяч рублёў, што супроць 1937 года дае павелічэнне на 22,4 процанта. Большая частка гэтых сродкаў прызначана на спецыяльныя культурныя мерапрыемствы: на асвету 572 мільёны 740 тысяч рублёў і ахову здароўя—213 мільёнаў 509 тысяч рублёў.

Беларуская рэспубліка за годы совецкай улады стала краінай суцэльнай граматнасці. БССР мае 7069 школ, у якіх навучаецца 1.068.000 дзяцей працоўных, 97 тэхнікумаў, у якіх навучаюцца 32.000 студэнтаў, 23 вышэйшыя навучальныя ўстановы, у якіх 15.000 студэнтаў. У школах працуюць 33.000 настаўнікаў. Кожны год ВНУ і тэхнікумы выпускаюць тысячы маладых совецкіх спецыялістаў, актыўных удзельнікаў будаўніцтва соцыялізма. З моманту выдання закона аб дапамозе многадзетным выдана дзяржаўнай дапамогі 55 мільёнаў 212 тысяч рублёў.

Так з года ў год расце матэрыяльны і культурны добрабыт працоўных Совецкай Беларусі, якая стала роўнапраўнай квітнеючай рэспублікай у сузор'і адзінаццаці брацкіх совецкіх соцыялістычных рэспублік.

Бюджэт Совецкага Саюза на 1938 год з'яўляецца выражэннем сілы і магутнасці нашай радзімы, выражэннем совецкай дэмакратыі, выражэннем каласальнай магутнасці, з якой абрушыцца вялікі СССР на любога, хто пасмее пасягнуць на багацці социялістычнай дзяржавы.

Вялікая хартыя социялізма—Сталінская Канстытуцыя ўзняла на небывалую вышыню прынцыпы социялістычнай дэмакратыі. Важнейшая дзяржаўная функцыя—правасуддзе—павінна ажыццяўляцца ў нашай краіне ў поўнай адпаведнасці са Сталінскай Канстытуцыяй.

Вось чаму з такім-жа поўным аднадушшам вырашылі дэпутаты Вярхоўнага Совета Саюза ССР важнейшае пытанне гістарычнага значэння—аб судаўстройстве СССР, саюзных і аўтаномных рэспублік.

Закон аб судаўстройстве выклікаў агромны інтарэс совецкага народа. Далейшае ўмацаванне совецкага суда і рэволюцыйнай законнасці звязана з кроўнымі інтарэсамі працоўных. І таму зацвярджэнне новага закона аб судаўстройстве выклікала велізарнае здавальненне совецкіх патрыётаў.

Правільнае вырашэнне пытанняў судаўстройства яшчэ раз прадэманстравала перад усім светам маналітнасць нашага народа, яго маральна-палітычнае адзінства, гатоўнасць да канца змагацца за сваё шчасце. Закон аб судаўстройстве паказвае, наколькі цэніцца ў нас, у СССР, правасуддзе, на якую нябачаную ва ўсім свеце вышыню ўзнімаецца наш совецкі суд у барацьбе за радаснае жыццё працоўных.

Новы закон аб судаўстройстве СССР, саюзных і аўтаномных рэспублік пабудован на аснове і ў поўнай адпаведнасці з патрабаваннямі Сталінскай Канстытуцыі. Гэты закон зыходзіць з устаноўленых главой IX Сталінскай Канстытуцыі задач социялістычнага правасуддзя і адпавядае ўсім гістарычным асаблівасцям сталінскай эпохі.

Сталінская Канстытуцыя ўзняла совецкі суд на такую вышыню, на якой ён не стаяў ніколі і нідзе ў свеце. Наш совецкі суд—самы дэмакратычны, сапраўды народны суд, бо ён з'яўляецца магутным сродкам аховы заваяванняў социялістычнай дзяржавы рабочых і сялян, абароны праў і інтарэсаў совецкага народа.

Зусім іншы выгляд мае суд капіталістычны. Буржуазны суд служыць інтарэсам капіталістаў і ахоўвае прыватную капіталістычную ўласнасць. Суды ў любой буржуазнай краіне служаць інтарэсам капіталістаў, банкіраў, заводчыкаў, памешчыкаў для яшчэ большага прыгнечання працоўных мас. Буржуазны суд стаіць на абароне эксплаататараў супроць эксплаатуемых, на абароне багатых супроць бедных. Аб судзе царскай Расіі народ склаў прыказку: «С сильным не борись, с богатым не судись». Буржуазны суд і суддзі з'яўляюцца прадстаўнікамі эксплаататарскіх класаў, ажыццяўляюць волю пануючых у капіталістычным грамадстве класаў, ахоўваюць устоі капіталізма.

Толькі наш совецкі суд з'яўляецца адзіным у свеце дэмакратычным судом, бо толькі ў Совецкім Саюзе народы вызвалены ад эксплаатацыі і невуцтва, ажыццяўляюць сапраўдную дэмакратыю, будуюць сваё цудоўнае жыццё.

Велізарны задачы совецкага суда. На працягу свайго 20-гадовага існавання совецкі суд на справе даказаў, што ён здолен з гонарам выканаць усе пастаўленыя перад ім задачы па ахове вялікіх заваяванняў Кастрычніка, па ўмацаванню рэволюцыйнай законнасці.

На ўсіх этапах барацьбы за соцыялізм совецкі суд з'яўляўся магутнай зброяй рабочага класа па ахове дзяржаўнага ладу і грамадскай безапаснасці Краіны советаў, па абароне палітычных, працоўных, жыллёвых і іншых асабістых праў і інтарэсаў працоўных.

Сталінская Канстытуцыя значна расшырыла і ўмацавала дэмакратычныя асновы совецкай дзяржавы. Адсюль і патрабаванні да совецкага суда сталі павышанымі. Зацверджаны Сесіяй закон поўнасцю адлюстроўвае гэтыя патрабаванні.

У аснову закона аб судаўстройстве пакладзен адзіны прынцып арганізацыйнай пабудовы суда—выбарнасць суддзяў на аснове ўсеагульнага, прамога, роўнага выбарчага права пры тайным галасаванні.

Артыкул 112 Сталінскай Канстытуцыі гаворыць, што суддзі незалежны і падпарадкваюцца толькі закону. Так запісана і ў законе аб судаўстройстве СССР. Гэта значыць, што прынцып незалежнасці суддзі, абвешчаны Сталінскай Канстытуцыяй і ўвасоблены ў новым законе аб судаўстройстве, ліквідуе ўсякую, нават малейшую залежнасць народнага суддзі ад мясцовых органаў улады. У рабоце совецкага суда не павінна быць ніякага адхілення ад закона. Рэволюцыйная законнасць—вось асноўнае патрабаванне, якое прад'яўляе совецкі народ да свайго суда.

Совецкі суд, выбраны народам, акружаны яго давер'ем, падпарадкаван толькі соцыялістычнаму закону. Совецкі суд з'яўляецца магутнаю зброяй у барацьбе за абарону граніц СССР, за далейшы росквіт культурнага, радаснага і заможнага жыцця працоўных нашай соцыялістычнай краіны.

Совецкі суд абараняе ад усякіх пасяганняў соцыялістычны лад і яго свяшчэнную недатыкальную аснову—соцыялістычную ўласнасць.

Бязлітасная барацьба з подлымі здраднікамі і прадажнікамі—трацкісцка-бухарынскімі, буржуазна-нацыяналістычнымі і іншымі шпіёнамі, шкоднікамі і забойцамі—была і застаецца галоўнай задачай совецкага суда. Знішчыць наймітаў фашызма, як знішчаюць гадзюк,—такава воля многамільённага совецкага народа. Выконваючы гэту волю, совецкі суд знішчаў і ў далейшым будзе сурова і бязлітасна знішчаць ворагаў народа, караць віноўных ва ўсялякіх злачынствах супроць соцыялістычнай дзяржавы і грамадства.

Сваёй дзейнасцю совецкі суд заваяваў заслужаную павагу працоўных. Выносячы справядлівы суровы прыгавор бандам наёмных фашысцкіх забойц, трацкісцка-бухарынскім і буржуазна-нацыяналістычным здраднікам радзімы, наш суд выражаў волю ўсяго совецкага народа.

Бязлітаснай і непрымірымай барацьбе з ворагамі народа, няўхільнаму правядзенню рэволюцыйнай законнасці штодзенна вучаць работнікаў совецкага суда большэвіцкая партыя, сталінскі Цэнтральны камітэт. Выдатным прыкладам для совецкіх суддзяў з'яўляецца работа слаўнай арміі совецкіх разведчыкаў, якая пад кіраўніцтвам сталінскага наркома Нікалая Іванавіча Ежова рашуча і беспамылкова выкрывае і знішчае ўсіх і ўсякіх ворагаў народа.

Закон аб судаўстройстве падкрэслівае велізарную выхаваўчую ролю совецкага суда. Усёй сваёй дзейнасцю наш суд выхоўвае грамадзян Саюза ССР у духу адданасці радзіме і справе соцыялізма, у духу соцыялістычнай законнасці, беражных адносін да соцыялістычнай уласнасці, дысцыпліны працы, добрасумленных адносін да

дзяржаўнага і грамадскага доўгу, паважання правіл соцыялістычнага агульнажыцця.

Выбарнасць суддзі і народных засядацеляў, гласнасць суда,—усё гэта ўмацоўвае аўтарытэт совецкага суда сярод працоўных, яшчэ больш прыцягвае шырокія масы да выканання судовых функцый. Так на справе ажыццяўляецца ўказанне Леніна аб пагалоўным удзеле совецкіх грамадзян у кіраванні дзяржавай.

Закон аб судаўстройстве канкрэтна вызначае функцыі і парадак работы судовай сістэмы, набліжае совецкі суд да народных мас. Гэты закон паслужыць справе далейшага палепшання работы совецкага суда на карысць соцыялізма, на карысць квітнеючай нашай радзімы.

Совецкі народ жыве ў выключна напружанай міжнароднай абстаноўцы, калі японская ваеншчына, польскія паны і капіталісты, германскія фашысты прабуюць напасці на нашу пакуль што адзіную ў свеце соцыялістычную дзяржаву.

Таварыш Сталін папярэдзіў нас, і совецкія патрыёты гэтага ніколі не забываюць, што мы знаходзімся ў капіталістычным акружэнні, што «пакуль існуе капіталістычнае акружэнне, будуць існаваць у нас шкоднікі, шпіёны, дыверсанты і забойцы, засылаемыя ў нашы тылы агентамі замежных дзяржаў».

Закон аб грамадзянстве Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік таксама мае велізарнейшае значэнне не толькі для нашай дзяржавы, але і далёка за яе межамі. Зацвярджэнне закона аб грамадзянстве СССР, якое праходзіла з вялікім патрыятычным уздымам, сведчыць аб новым усенародным і міжнародным трыумфе совецкай дэмакратыі.

Сталінская Канстытуцыя ўзняла званне грамадзяніна СССР на небывалую вышыню. Совецкі Саюз—краіна свабоднага, добраахвотнага і роўнапраўнага супрацоўніцтва народаў. Гэтыя адзнакі соцыялістычнай дзяржавы і знайшлі сваё выражэнне ў новым законе аб грамадзянстве СССР. Кожны грамадзянін саюзнай рэспублікі ў той-жа час з'яўляецца і грамадзянінам Саюза ССР. Гэты закон гаворыць аб павазе да працоўнага чалавека, аб поўнай яго свабодзе і незалежнасці.

Дзе, у якой яшчэ краіне так высока цэніцца чалавек, у якой краіне грамадзянін акружан такой увагай і клопатам сваёй дзяржавы?

Толькі ў нас упершыню ў гісторыі чалавецтва слова грамадзянін узнята на такую вышыню. Совецкі грамадзянін—роўнапраўны творэц і ўдзельнік вялікага соцыялістычнага будаўніцтва. Сталінская Канстытуцыя гарантавала нашым грамадзянам вялікія правы на працу, асвету, адпачынак, забяспечаную старасць.

Вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя вызваліла народы Краіны советаў ад кабалы, жабрацтва, бяспраўя, беспрацоўя. Партыя большэвікоў, совецкі ўрад забяспечылі працоўным усе магчымасці для творчай працы, развіцця здольнасцей і талентаў, забяспечылі ўмовы для ўдзелу ў грандыёзным будаўніцтве комунізма.

Вялікі гонар быць грамадзянінам такой краіны, якую ўзначальвае і вядзе ад перамогі да перамогі вялікая партыя Леніна—Сталіна, якою кіруе правадыр, друг і настаўнік працоўных усяго свету—Іосіф Вісарыёнавіч Сталін.

Правільнае вырашэнне ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі забяспечыла развіццё ўсіх народаў, малых і вялікіх, росквіт раней

адсталых, прыгнечаных нацыянальных рэспублік, дружбу паміж народамі. А дружба паміж народамі—вялікая сіла. Пакуль тэта дружба будзе існаваць, нашы народы будуць неперáможны. Яны свабодны і роўнапраўны, аб'яднаны непераможнай сталінскай дружбай.

Таленавіты паэт нашай эпохі Владзімір Маякоўскі пісаў: «Читайце, завидуйте, я—гражданин Советского Союза». Мільёны працоўных капіталістычных краін хацелі-б быць такімі-ж шчаслівымі, свабоднымі, роўнапраўнымі, як працоўныя СССР, і яны змагаюцца за гэта шчасце, за сусветны саюз совецкіх социялістычных рэспублік.

У слове грамадзянін закладзена ўся веліч нашай радзімы. Дзе-б ні быў грамадзянін Совецкага Саюза, усюды ён адчувае падтрыманне, сілу і магутнасць мацеры-радзімы, усюды думае аб яе шчасці, аб тым, каб прынесці ёй як мага больш карысці ў інтарэсах усяго совецкага народа.

Яркім паказчыкам выканання грамадзянскага доўгу з'яўляецца гераічная экспедыцыя на Паўночны полюс чатырох адважных сталінскіх пітомцаў—Папаніна, Крэнкеля, Ширшова і Фёдарава. З думкамі аб радзіме і Сталіне лётчыкі Чкалаў, Байдукоў, Белякоў, Громаў, Юмашэў, Данілін праклалі трасу з Масквы праз Паўночны полюс у Паўночную Амерыку. З імем Сталіна—сімвалам нашых перамог—Кокінакі і Брандзінскі за адны суткі пераляцелі з Масквы на Далёкі Ўсход. У імя сваёй радзімы, вялікага Сталіна совецкі народ імкнецца яшчэ вышэй узняць дастойнасць грамадзян совецкай краіны.

Ворагі народа, подлыя найміты фашызма, здраднікі социялістычнай радзімы спрабавалі аднавіць у нашай краіне капіталізм, каб зноў надзець ярмо эксплаатацыі на працоўныя масы, пазбавіць іх грамадзянскіх праў.

Але ворагі і здраднікі пралічыліся. Слаўныя чэкісты, кіруемыя сталінскім наркомам Нікалаем Іванавічам Ежовым, разграмілі варожыя гнёзды, забяспечылі нашай краіне далейшае мірнае развіццё.

Працоўныя СССР, як зяніцу вока, будуць берагчы і цаніць гонар совецкага грамадзяніна.

Быць грамадзянінам СССР—гэта значыць няўхільна працаваць над далейшым працвітаннем сваёй радзімы, пад кіраўніцтвам совецкага ўрада, большэвіцкай партыі і вялікага Сталіна ўпэўнена рухацца наперад, да поўнага трыумфу комунізма. Няма большай радасці і гордасці, як быць грамадзянінам вялікай краіны, дзе першым грамадзянінам з'яўляецца наш любімы друг і настаўнік таварыш Сталін.

На Другой Сесіі аднадушна зацверджан таксама закон аб парадку ратыфікацыі і дэнансацыі міжнародных дагавораў СССР.

Закон аб ратыфікацыі (зацвярджэнні) і дэнансацыі (страце сілы) дагавораў мае выключнае значэнне для далейшага забеспячэння мірнага жыцця нашай краіны. Прыняццем гэтага закона пацвярджаецца яшчэ раз адзіна правільная палітыка нашага ўрада, якая заключаецца ў тым, што вайны мы не хочам і будзем і ў далейшым змагацца за мір і захаванне дагавораў.

Прыняты закон вызначае, якія іменна дагаворы ратыфікуе Прэзідыум Вярхоўнага Совета, як гэтага патрабуе 49 артыкул Сталінскай Канстытуцыі. Міжнародны дагавор, падпісаны і ратыфікаваны Прэзідыумам Вярхоўнага Совета СССР, не ёсць проста кавалак паперы. Наша краіна заўсёды стаіць на пункце погляду выканання заключанага дагавора і ніколі яго не парушае.

Нашы законы непарушны, бо нашу палітыку накіроўвае вялікая партыя Леніна—Сталіна, бо мы з'яўляемся мірнай дзяржавай, багатай і моцнай, і нам не патрэбны чужыя тэрыторыі.

Нашы дагаворы непарушны яшчэ і таму, што мы іх нікому не дазваляем парушаць. Мы чужой зямлі не хочам, але і сваёй зямлі ніводнага вяршка не аддадзім нікому. Гэта мы даказалі на справе, даўшы дастойны адпор японскім самураям, якія прабавалі парушыць спакой нашых граніц.

Не менш важным з'яўляецца і прыняты закон аб дзяржаўным падатку на коней аднаасобных гаспадарак. Гэты закон падкрэслівае значную перавагу калгаснай гаспадаркі перад аднаасобнай. Прынццце гэтага закона дае магчымасць спыніць выкарыстанне коней аднаасобнымі гаспадаркамі ў мэтах спекулятыўнай нажывы, ён будзе садзейнічаць умацаванню дысцыпліны сярод аднаасобных гаспадарак у выкананні ўсіх дзяржаўных абавязацельстваў, далейшаму ўцягненню ў калгасы ўсіх чэсных аднаасобнікаў, далейшаму арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаванню калгасаў.

Закон аб дзяржаўным падатку на коней аднаасобных гаспадарак дапаможа яшчэ лепш паставіць работу ў калгасах, яшчэ больш зацікавіць калгаснікаў калектыўнай працай, яшчэ вышэй узняць барацьбу за большэвіцкія ўраджаі, за 7-8 мільярдаў пудоў зярна ў год, яшчэ больш радасным і заможным зрабіць іх жыццё.

Закон гэты сустрэў поўнае, аднадушнае адабрэнне ўсіх дэпутатаў Вярхоўнага Совета СССР і ўсёй масы калгаснікаў і калгасніц. Ён з'яўляецца лепшым довадам таго, як многа клапоцяцца аб інтарэсах калгасаў і калгаснікаў наша совецкая дзяржава, комуністычная партыя і асабіста таварыш Сталін.

* * *

Другая Сесія Вярхоўнага Совета Саюза ССР паказала ўсяму свету прыклад большэвіцкай арганізаванасці і дзелавітасці. Аднадушша дэпутатаў пры абмеркаванні і зацвярджэнні важнейшых дзяржаўных законаў з'яўляецца адлюстраваннем аднадушша ўсяго совецкага народа, аб'яднанага вакол партыі Леніна—Сталіна, вакол совецкага ўрада.

Задача ўсіх партыйных, прафесіянальных, комсамольскіх арганізацый Беларусі—як мага больш увагі ўдзяліць зараз растлумачэнню шырокім масам працоўных гістарычных рашэнняў Другой Сесіі Вярхоўнага Совета СССР, давесці да свядомасці рабочых, сялян, інтэлігентаў усё значэнне прынятых законаў. Для гэтага неабходна шырока скарыстаць нашых агітатараў і прапагандыстаў, асабліва вырашчаных у часе падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўныя Советы СССР і БССР.

Змагаючыся за ажыццяўленне вялікіх задач, пастаўленых соцыялістычным парламентам перад усім совецкім народам, мы яшчэ больш узмоцнім абароназдольнасць нашай радзімы, ва многа раз умножым перамогі на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва.

Пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў, любімага Сталіна совецкі народ, узброены рашэннямі Другой Сесіі Вярхоўнага Совета СССР, пойдзе наперад—да поўнай перамогі комунізма.



С. Новік

Пракурор БССР, дэпутат
Вярхоўнага Совета БССР

# Вынікі Першай Сесіі Вярхоўнага Совета БССР

Вышэйшы орган дзяржаўнай улады Беларускай ССР—Вярхоўны Совет БССР прыступіў да сваёй работы.

28 чэрвеня скончылася Першая Сесія Вярхоўнага Совета Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Адбывалася сесія самага дэмакратычнага ў свеце парламента. Засядаў соцыялістычны парламент той рэспублікі, народы якой да Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі знаходзіліся пад пятою памешчыкаў і капіталістаў, польскіх паноў і духавенства. Гэтыя людзі ўладалі ўсімі багаццямі краіны і ў іх-жа руках знаходзілася дзяржаўная ўлада. Багацце і ўлада давалі ім магчымасць сядзець на шыі беларускага народа і таўсцець за кошт непасільнай працы народа. Сам народ ведаў толькі галечу, паднявольную працу, цяжкае і пакутнае жыццё.

Але прыгнечанне беларускага народа не абмяжоўвалася толькі жорсткай эканамічнай эксплаатацыяй. На працягу вякоў беларусы цярпелі і маральны, і палітычны, і культурны гнёт. «Хлопы» і «быдла»—інакш не называлі беларускіх сялян польскія паны-магнаты, захаваўшыя свае буйнейшыя маёнткі да самай Кастрычніцкай рэволюцыі.

Беларускі народ не ведаў сваёй дзяржаўнасці. Рускі царызм, захапіўшы Беларусь, у саюзе з беларускімі памешчыкамі і з польскімі магнатамі насадзіў на шыю беларускага народа чыноўнікаў, земскіх начальнікаў з тых-жа памешчыкаў і капіталістаў і дзесяткамі год праводзіў пры дапамозе памешчыцкага бізуна і паліцэйскай нагайкі русіфікатарскую палітыку.

Беларус не мог і марыць аб школе і тэатры на роднай мове, аб сваёй беларускай літаратуры.

Вялікая Кастрычніцкая рэволюцыя пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі большэвікоў знішчыла спрадвечны прыгнёт з боку памешчыкаў і капіталістаў і пры дапамозе гераічных рускіх рабочых беларускі народ, беларускія рабочыя і працоўнае сялянства сталі гаспадарамі свайго жыцця, знішчыўшы векавое папіранне ўсіх сваіх правоў.

Выгнаўшы памешчыкаў і капіталістаў, беларускія рабочыя і сяляне пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, пры непасрэднай дапамозе правадыра народаў таварыша Сталіна стварылі Беларускую Совецкую Соцыялістычную Рэспубліку, якая, як і ўсе рэспублікі вялікага Совецкага Саюза, ідзе ад перамогі да перамогі.

У небывала кароткі тэрмін Совецкая Беларусь пры брацкай дапамозе рускага народа, пры асабістай штодзённай дапамозе таварыша Сталіна да непазнаваемасці змяніла свой эканамічны і культурны твар.

Беларусь стала рэспублікай соцыялістычнай прамысловасці. Яна мае гіганцкія прадпрыемствы, буйную машынізаваную сельскую гаспадарку. Даволі ўказаць, што ў 1937 годзе прадукцыя прамысловасці БССР павялічылася ў 23 разы супроць 1913 года.

Пры гэтым замест дробных і найдрабнейшых саматужных і поўсаматужных прадпрыемстваў выраслі гіганты прамысловасці саюзнага значэння, як Крычаўскі цэментны завод, Гомельскі шклозавод, шоўкавая фабрыка і інш. Створаны станкабудаўнічыя заводы, буйныя швейныя і абутковыя фабрыкі.

Раздробленая сельская гаспадарка ператварылася ў буйнейшую ў свеце соцыялістычную машынізаваную гаспадарку соўгасаў і калгасаў. Дарэволюцыйная саха, драўляная барана і серп заменены трактарамі і камбайнамі. 7662 трактары, 1001 камбайн і дзесяткі тысяч іншых складаных сельскагаспадарчых машын двухсот МТС абслугоўваюць калгасы БССР.

Краіна, у якой да рэволюцыі было 75 проц. няграматнага насельніцтва, стала краінай суцэльнай граматнасці. Краіна, дзе не было ніводнай вышэйшай навучальнай установы, мае цяпер 23 ВНУ і 97 тэхнікумаў.

Не гледзячы на шкоду, якую нанеслі сваёй падрыўной работай фашысцкія агенты—азвярэлыя трацкісцка-бухарынскія бандыты, наша рэспубліка расце і мацнее, бо ў ёй ажыццяўляецца правільная ленінска-сталінская нацыянальная палітыка, бо беларускі народ праяўляе цуды гераізма ў соцыялістычным будаўніцтве, маючы безупынную дапамогу рускага народа, працуючы пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, пры штодзенных клопатах і дапамозе лепшага друга беларускага народа—Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна.

Ператварэнне Совецкай Беларусі з адсталай аграрнай краіны ў краіну індустрыяльную, краіну буйнай машынізаванай сельскай гаспадаркі, нябачаны рост добрабыту працоўных, іх культурнага ўзроўню і палітычнай свядомасці зрабілі Беларусь непрыступнай крэпасцю на заходняй граніцы Совецкага Саюза з капіталістычным светам. Усякі, хто пасмее напасці на нашу цудоўную соцыялістычную радзіму, атрымае тут сакрушальны адпор.

Сваю адданасць і згуртаванасць вакол комуністычнай партыі і правадыра таварыша Сталіна, гатоўнасць абараняць соцыялістычную бацькаўшчыну беларускі народ прадэманстраваў на выбарах у свой соцыялістычны парламент. 99,65 проц. усіх выбаршчыкаў з'явілася ў дзень выбараў да урнаў, каб аддаць свае галасы за лепшых людзей нашай краіны, кандыдатаў несакрушымага блока комуністаў і беспартыйных. 100 проц. галасоў аддалі выбаршчыкі за лепшых з лепшых кандыдатаў блока: вялікага Сталіна і яго слаўных саратнікаў—членаў Палітбюро таварышоў В. М. Молатава, К. Е. Варашылава, Л. М. Кагановіча, М. І. Калініна, А. А. Жданава, А. А. Андрэева, А. І. Мікаяна і Н. І. Ежова.

Склад Вярхоўнага Совета гаворыць аб цеснай сувязі яго з рабочымі і сялянамі нашай краіны. Паводле даных мандатнай камісіі, у складзе Вярхоўнага Совета—206 членаў і кандыдатаў комуністычнай партыі і 67 беспартыйных. Гэта, як правільна ўказаў старшыня мандатнай камісіі тав. Шыбалка, сведчыць аб бязмежным давер'і совец-

кага народа да большэвіцкай партыі, аб яго адданасці справе Леніна—Сталіна, аб моцнасці блока комуністаў і беспартыйных.

У складзе дэпутатаў Вярхоўнага Совета—67 жанчын. Гэта гаворыць аб тым, што ў нас не на словах, а на справе ажыццяўляецца роўнапраўе жанчын.

У складзе Вярхоўнага Совета—рабочых 106, сялян 103, служачых і прадстаўнікоў совецкай інтэлігенцыі 64 чалавекі. Гэтыя даныя сведчаць аб тым, што ў нас няма больш антаганістычных класаў, што мы маем два прыязныя адзін другому класы—рабочых і сялян. Гэтыя даныя сведчаць аб тым, што ва ўладзе стаяць іменна гэтыя класы.

Таварыш Сталін на VIII Надзвычайным з'ездзе советаў гаварыў, што дзяржаўнае кіраванне належыць рабочаму класу, як перадавому класу грамадства. Гэтыя словы правадыра ярка пацвярджаюцца тым, што ў складзе Вярхоўнага Совета—106 рабочых з агульнага ліку 273 дэпутатаў.

Прыведзеныя даныя сведчаць і аб тым, што дэпутаты нашага Вярхоўнага Совета з'яўляюцца арганічнай часткай усяго беларускага народа. Маральна-палітычнае адзінства, згуртаванасць вакол партыі Леніна—Сталіна, бязмежная любоў і адданасць правадыру народаў, прыяцелю ўсіх працоўных таварышу Сталіну, так ярка праяўленыя ў дні выбараў, былі з новаю сілай праяўлены і на паседжаннях Першай Сесіі. Усе рашэнні прымаліся аднагалосна. Выключную аднадушнасць праявілі дэпутаты і ў крытыцы работы паасобных наркаматаў, і пры выбарах кіруючага органа Вярхоўнага Совета, і пры ўтварэнні Ўрада.

Вельмі важным рашэннем Першай Сесіі з'яўляецца абранне двух камісій: Законадаўчых прадпалажэнняў і Бюджэтнай.

Таварыш Сталін у сваім дакладзе на VIII Надзвычайным з'ездзе Советаў указаў:

> «Трэба, нарэшце, пакончыць з тым становішчам, калі законадаўствуе не адзін які-небудзь орган, а цэлы рад органаў. Такое становішча супярэчыць прынцыпу стабільнасці законаў. А стабільнасць законаў патрэбна нам цяпер больш, чым калі-б там ні было».

Камісія Законадаўчых Прадпалажэнняў з'яўляецца пастаянна дзеючым органам пры Вярхоўным Совеце БССР і таму яе абранне не супярэчыць 23 арт. Канстытуцыі БССР, які гласіць: «Вярхоўны Совет БССР з'яўляецца адзіным законадаўчым органам БССР». Гэта камісія будзе падрыхтоўваць законы, якія адлюстроўваюць волю народа ў яго барацьбе за пабудову комунізма. А законы ў нашай краіне заклікаsuccessful ахоўваць заваяванні Вялікай Соцыялістычнай рэволюцыі і далейшыя перамогі працоўных, абараняць наша шчаслівае радаснае жыццё ад ворагаў, якія-б асмеліліся падняць руку сваю супроць нашай радзімы, пасягнуць на шчасце народнае.

Першая Сесія абрала і другую важную пастаянна дзеючую камісію Вярхоўнага Совета—Бюджэтную. Неабходнасць яе ўтварэння правільна абгрунтаваў дэпутат тав. Мальцаў, які ўказаў, што бюджэт мае агромнае значэнне для ўсёй соцыялістычнай гаспадаркі нашай краіны, бо ён вызначае даходы ў інтарэсах совецкага народа, у інтарэсах развіцця і ўмацавання калгаснага ладу, соўгасаў і т. д. Бюджэтная камісія павінна ўважліва разглядаць бюджэт па ўсіх артыкулах даходаў і выдаткаў, улічваючы інтарэсы кожнай вобласці, кожнага раёна.

Выходзячы з хуткага развіцця нашай прамысловасці і сельскай гаспадаркі, росту культурных запросаў насельніцтва, а адсюль і ўсё больш складаных умоў работы адміністрацыйных і гаспадарчых устаноў і арганізацый, Першая Сесія Вярхоўнага Совета БССР прыняла важнае рашэнне аб стварэнні Менскай, Віцебскай, Гомельскай, Магілеўскай і Палескай абласцей. Гэта рашэнне Вярхоўнага Совета БССР выцякае з рашэння I Сесіі Вярхоўнага Совета СССР аб утварэнні абласцей і павінна адыграць велізарную ролю ў далейшым развіцці социялістычнай гаспадаркі і культуры рэспублікі, бо яно наблізіць кіраўніцтва да раёнаў, сельсоветаў, паасобных прадпрыемстваў, калгасаў, соўгасаў.

Ранейшае адміністрацыйнае дзяленне нашай рэспублікі затрудняла кіраўніцтва палітычнай і гаспадарчай дзейнасцю раёнаў і сельсоветаў. БССР займае тэрыторыю ў 123.630,5 тыс. квадратных кілометраў з насельніцтвам больш 5 мільёнаў чалавек. Яна налічвае 1.461 сельсовет, 9.665 калгасаў. Утварэнне абласцей будзе спрыяць больш гібкаму і аператыўнаму кіраўніцтву, бо дасць магчымасць лепш ведаць і хутчэй задавольваць патрэбы месц.

Зараз у артыкуле 14 Канстытуцыі БССР запісана:

> «Беларуская Совецкая Социялістычная Рэспубліка складаецца з абласцей: Менскай, Віцебскай, Гомельскай, Магілеўскай і Палескай».

У сувязі са зменай арт. 14 адпаведныя змены і дапаўненні ўнесены ў цэлы рад іншых артыкулаў Канстытуцыі БССР.

Асабліва важнай з'яўляецца змена артыкула 25, які ў новай рэдакцыі гласіць:

> «Законы, прынятыя Вярхоўным Советам БССР, публікуюцца на беларускай і рускай мовах за подпісамі старшыні і сакратара Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР».

Змена артыкула 25 Канстытуцыі сведчыць аб правільнасці ленінска-сталінскай палітыкі, якая згуртавала народы СССР у адну дружную неразрыўную сям'ю. Яна выражае волю народа, які імкнецца вывучаць і ведаць рускую мову, мову таго народа, які аказваў і аказвае дапамогу беларускаму народу. Правільна сказаў у сваім выступленні на Сесіі дэпутат тав. Захараў:

> «Народ наш хоча ведаць рускую мову, мову вялікага рускага народа, які стварыў самую багатую ў свеце социялістычную культуру з вышэйшым яе дасягненнем—ленінізмам».

На вялікай прынцыповай палітычнай вышыні з выключным аднадушшам прайшлі выбары Прэзідыума Вярхоўнага Совета і ўтварэнне Ўрада.

Перад утварэннем Урада, фарміраванне якога было даручана тав. Кісялёву, жорсткай большэвіцкай крытыцы падверглася дзейнасць усяго Соўнаркома, паасобных наркаматаў і іх кіраўнікоў.

Дэпутаты Вярхоўнага Совета тт. Мельнікаў, Маркін, Кавалькоў і Зусеў, якія выступілі па пытанню аб фарміраванні ўрада, асабліва рэзка і заслужана крытыкавалі дзейнасць Наркамзема, Наркомгандля, Наркомлеса, Упоўнаркомсувязі, Упоўнаркамзема, Камітэта па справах мастацтва і Камітэта Фізкультуры, кіраўнікі якіх зусім нездавальняюча праводзілі работу па ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў

сельскай гаспадарцы, у лясной прамысловасці, у нарыхтоўках і ў галіне мастацтва і фізкультуры.

Выступаўшыя дэпутаты, выражаючы думку працоўных Беларусі, асабліва падкрэслівалі недапушчальнасць зусім нездавальняючага выканання гістарычнай пастановы СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 2 жніўня «Аб аказанні дапамогі беларускаму сялянству і ліквідацыі рэштак шкодніцтва ў справе калгаснага ўпарадкавання», указанняў таварыша Сталіна аб разгортванні тавараз вароту, слабую работу па выпуску мясцовай прамысловасцю прадметаў шырокага спажывання. Гэтыя наркаматы, не гледзячы на велізарную дапамогу саюзнага ўрада і асабіста таварыша Сталіна, па сутнасці тармазілі своечасовае выкананне дырэктыў аб забеспячэнні далейшага росту соцыялістычнай гаспадаркі і ўздыме дабрабыту працоўных Беларусі.

Крытыка на Першай Сесіі Вярхоўнага Совета БССР аказалася «бізуном у руках насельніцтва супроць дрэнна працуючых органаў улады». Гэта крытыка забяспечыць далейшы рост соцыялістычнай гаспадаркі нашай рэспублікі і дабрабыту працоўных. Яна была ўлічана і пры фармаванні ўрада, які ўтворан з людзей, адданых справе Леніна—Сталіна і ўпаўне здольных выканаць волю народа, «быць слугою народа»—як гаварыў таварыш Сталін.

Работа Першай Сесіі Вярхоўнага Совета закончылася. Выбраннікі беларускага народа ў прынятых рашэннях выразілі яго волю да далейшых перамог соцыялізма, да ўмацавання магутнасці нашай слаўнай радзімы. Цяпер перад дэпутатамі стаіць задача—яшчэ больш умацоўваць сувязь са сваімі выбаршчыкамі, вывучаць іх патрэбы і запросы і ў штодзеннай рабоце прымаць меры да іх задавальнення. Кожны дэпутат павінен змагацца за поўнае ажыццяўленне рашэнняў партыі і ўрада, з малейшымі праявамі рэштак шкодніцтва, закаранеласці і бюракратызма ў апараце совецкіх і грамадскіх арганізацый. І гэту работу дэпутат зможа выканаць толькі ў непарыўнай сувязі з масамі.

Вярхоўны Совет нашай рэспублікі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і правадыра народаў таварыша Сталіна даб'ецца новых соцыялістычных перамог

---

А. Свам

# Быць у мабілізацыйнай гатоўнасці

170-мільённая сям'я совецкіх патрыётаў добра памятае словы таварыша Сталіна аб тым, што «трэба ўсямерна ўзмацніць і ўмацаваць нашу Чырвоную Армію, Чырвоны Флот, Чырвоную Авіяцыю, Асоавіяхім. Трэба ўвесь наш народ трымаць у стане мабілізацыйнай гатоўнасці перад тварам небяспекі ваеннага нападу, каб ніякая «выпадковасць» і ніякія фокусы нашых знешніх ворагаў не маглі засцігнуць нас знянацку».

Неабходнасць для мірнага працоўнага 170-мільённага народа трымаць порах сухім, быць у пастаяннай мабілізацыйнай гатоўнасці вынякае з таго, што наша цудоўная соцыялістычная радзіма знаходзіцца ў варожым капіталістычным акружэнні. Совецкі Саюз з'яўляецца пакуль што адзінай соцыялістычнай дзяржавай.

> «Мы жывем,—вучыў нас Ленін,—не толькі ў дзяржаве, але **і ў сістэме дзяржаў,** і існаванне Совецкай рэспублікі побач з імперыялісцкімі дзяржавамі працяглы час нямысліма. У канцы канцоў або адно, або другое пераможа» *).

Таму-ж вучыць нас і таварыш Сталін, указваючы:

> «Неабходна памятаць і ніколі не забываць, што капіталістычнае акружэнне з'яўляецца асноўным фактарам, які вызначае міжнароднае становішча Совецкага Саюза» **).

Варожае капіталістычнае акружэнне напамінае аб сабе нам, совецкім людзям, грамадзянам першай соцыялістычнай дзяржавы штогадзінна і штохвілінна. Судовыя працэсы над трацкісцка-бухарынскімі і іншымі бандытамі, выкрытымі слаўнымі органамі совецкай разведкі, якая ўзначальваецца сталінскім наркомам Нікалаем Іванавічам Ежовым, навочна паказалі, што свет гвалту і прыгнечання тысячамі засылае да нас сваіх прадажных агентаў, шпіёнаў, забойц, дыверсантаў, снабжае іх зброяй, атрутай, распальвае іх нянавісць да нашага народа, кіруе іх злачыннымі замахамі на магутнасць і шчасце нашай радзімы. У лічбах ваенных бюджэтаў фашысцкіх дзяржаў, у статыстыцы танажу марскога флота, у падліку гармат, танкаў, кулямётаў, паветраных караблёў гучыць, як асноўны матыў, напамінанне аб будучым апошнім і рашаючым баі паміж светам працы і светам капітала. Фашысцкі напад на Іспанію, вайна ў Кітаі, пагроза незалежнасці Чэхасла-

*) Ленін, Збор твораў т. XXIV, стар. 122.
**) Сталін, Даклад на пленуме ЦК ВКП(б) 3 сакавіка 1937 г.

вакіі, японская правакацыя на Далёкім Усходзе—адчуваюцца ўсімі совецкімі патрыётамі, як акты падрыхтоўкі фашысцкімі мракабесамі вайны супроць Совецкага Саюза, як стварэнне такой міжнароднай стратэгічнай і палітычнай абстаноўкі, якая дазволіла-б фашыстам і іх пасобнікам напасці на краіну перамогшага соцыялізма.

Але ніякія фокусы нашых знешніх ворагаў не засцігнуць знянацку вялікі совецкі народ, кіруемы партыяй Леніна—Сталіна. Няма большых прыяцеляў міру, чым бясстрашныя совецкія патрыёты, і іменна гэта любоў да міру параджае тую гатоўнасць у любы момант адказаць ударам на ўдар падпальшчыкаў вайны, гатоўнасць, якая робіць нашу радзіму непрыступнай крэпасцю соцыялізма і аплотам міру.

Толькі нядаўна вораг яшчэ раз на ўласнай скуры пераканаўся ў правільнасці гэтых палажэнняў. Мы гаворым аб наглай правакацыі японцаў на совецка-манчжурскай граніцы.

Падзеі ў раёне возера Хасан маюць гістарычнае значэнне.

Пасля двух год няўдалай вайны ў Іспаніі і года няўдалай вайны ў Кітаі японa-германа-італьянскі фашысцкі блок падпальшчыкаў вайны зрабіў, рукамі Японіі, спробу прамога нападу на Совецкі Саюз, які з'яўляецца галоўнай перашкодай на шляху захватніцкіх імкненняў фашысцкіх драпежнікаў. Фашысцкі блок рашыў прашчупаць сілу супраціўлення Совецкага Саюза ў найбольш аддаленых ад цэнтра пунктах яго граніцы.

У выпадку ўдачы гэтага «прашчупвання» фашысцкія падпальшчыкі вайны разлічвалі накінуцца на СССР усімі сіламі, або, хоць-бы, адцягнуць увагу СССР ад еўрапейскіх спраў з тым, каб, раздушыўшы Іспанію і Чэхаславакію, стварыць больш спрыяючыя ўмовы для нападу на СССР.

Японская ваеншчына, звязаная ваеннымі саюзамі з германскімі і італьянскімі фашыстамі, па настаянню сваіх «саюзнікаў» узяла на сябе гэту няўдзячную задачу.

У арсенале японскай дыпламатыі ёсць некалькі стандартна-грубых прыёмаў распальвання канфліктаў. Адным з такіх прыёмаў з'яўляецца правакацыя «мясцовых інцыдэнтаў», як повaду для ваеннага выступлення. Так было, напрыклад, пры нападзе ў 1931 г. Японіі на Кітай, пры пачатку японскай інтэрвенцыі на Далёкім Усходзе ў 1918 г. і ў радзе іншых выпадкаў.

І на гэты раз японская ваеншчына не адступіла ад сваіх «традыцый». 15 ліпеня японскія дыпламаты ў Маскве заявілі прэтэнзіі на пагранічны раён, прыналежнасць якога да тэрыторыі СССР з'яўляецца зусім бясспрэчнай. Японцам была паказана прыкладзеная да Хунчунскага пагаднення 1886 г. паміж Кітаем і Расіяй карта, якая дакладна вызначае граніцу ў гэтым раёне.

Праз некалькі дзён, 20 ліпеня, пасля няўдалай спробы сілай захапіць гэты раён, японскі пасол у Маскве, не лічачыся з безумоўнай бясспрэчнасцю праў СССР на гэты раён, «патрабаваў» адклікання з яго совецкіх войск і пусціў у ход пагрозу, што Японія прыменіць сілу. Гэты «дыпламатычны» метад шантажу быў таксама адным з момантаў «прашчупвання» магутнасці і рашымасці СССР. Вядома, што запалохванне і шантаж не раз практыкаваліся фашысцкімі агрэсарамі супроць іншых краін і ў радзе выпадкаў заканчваліся незаслужаным поспехам. Вось чаму совецкі народ і ўсё перадавое чалавецтва ві-

талі адпор, даны тав. Літвінавым ад імя совецкага народа і ўрада гэтай спробе запалохвання.

«..Што датычыць прымянення сілы,—сказаў тав. Літвінаў,— то калі п. пасол лічыць добрым дыпламатычным сродкам пагрозу і запалохванне... то ён павінен ведаць, што паспяховага прымянення гэтаму сродку ён у Маскве не знойдзе».

Следам за спробай прашчупвання метадам дыпламатычнага шантажу паследавала спроба прашчупаць рэальную сілу совецкай абароны. 29 ліпеня японскія войскі напалі на вышыню Заазерная, а 31 ліпеня, пасля артылерыйскай падрыхтоўкі, японскія войскі перайшлі совецкую граніцу ў раёне возера Хасан і сіламі адной дывізіі напалі на пагранічныя войскі СССР. Доблесная Чырвоная Армія, прымяніўшы танкі і авіяцыю, уступіла ў жорсткі бой з захватчыкамі, пасягнуўшымі на свяшчэнныя граніцы Совецкага Саюза.

Японскія захватчыкі і іх фашысцкія прыяцелі неўзабаве-ж зразумелі, як яны жорстка пралічыліся. Удар чырвонай пяхоты, танкістаў і лётчыкаў быў настолькі магутным і імклівым, што ўжо 4 жніўня японскі пасол вымушан быў прасіць Совецкі ўрад, прымаючы пад увагу, што «японскі ўрад меў намер вырашыць інцыдэнт мірным шляхам», спыніць баявыя дзеянні і ўступіць у перагаворы аб урэгуляванні інцыдэнта. Поўны ўсведамлення праваты сваёй пазіцыі, паколькі «узброены пераход совецкай граніцы і начную атаку на совецкую пагранічную ахову з прымяненнем артылерыі можна назваць мірнымі дзеяннямі толькі іранічна»,—Совецкі ўрад заявіў, што баявыя дзеянні будуць, натуральна, спынены, калі японскія войскі спыняць напад на нашу зямлю. У гэтым з усёй нагляднасцю яшчэ раз праявіў сябе сталінскі прынцып знешняй палітыкі СССР—чужой зямлі нам не трэба, а сваёй не аддадзім ні аднаго вяршка!

Японскай ваеншчыне, пасля некалькіх няўдалых спроб дабіцца поспеху ў ваенных дзеяннях, прышлося ўрэшце адступіць па ўсяму фронту. 11 жніўня а 13 гадзіне 30 мінут ваенныя дзеянні былі спынены. Увесь сусветны друк належным чынам расцаніў развіццё падзей, як буйнае паражэнне падпальшчыкаў вайны. Многія газеты адзначалі, што няўдача агрэсараў пад Заазернай умацавала справу міру, палегчыла барацьбу чэхаславацкага народа за незалежнасць, паказала ўсяму свету не толькі цвёрдасць і сілу СССР, але і той факт, што цвёрдасць і сіла—лепшы сродак барацьбы з агрэсарамі, барацьбы за мір.

Кроў, пралітая 236-ю забітымі і 611-ю раненымі совецкімі патрыётамі на далёкай Усходняй граніцы роднай зямлі, не прапала дарма. Адказ совецкага народа на правакацыі падпальшчыкаў вайны паказаў усяму свету відовішча незабыўнай велічы і харастве. Мнагамільённы совецкі народ у адзіным парыве нягадавання і нянавісці да ворага, любві і адданасці да сваёй радзімы, устаў у мабілізацыйнай гатоўнасці, маральна і палітычна адзіны, на ўсім неабсяжным прасторы краіны соцыялізма.

Тысячы мітынгаў, дэманстрацый, сходаў пракаціліся па ўсёй краіне. Вучоныя, спецыялісты, рабочыя, калгаснікі, марыйцы, чувашы, украінцы, рускія і грузіны, лётчыкі, шахцёры, настаўнікі падняліся як адзін чалавек, гатовыя па першаму закліку партыі і ўрада выступіць на абарону свяшчэнных рубяжоў соцыялістычнай радзімы.

Наглы напад японскай ваеншчыны супаў па часу з работамі Другой Сесіі Вярхоўнага Совета СССР. Лепшыя прадстаўнікі совецкага

народа сабраліся ў гэты час у Маскве. Вярхоўны орган совецкага народа адказаў на правакацыю падпальшчыкаў вайны так, як умеюць адказваць большэвікі,—вызначыўшы ў бюджэце 1938 года 27 мільярдаў рублёў на патрэбы ўмацавання абароны Совецкага Саюза!

Вораг адбіт і адкінут. Совецкі Саюз вышаў з гэтай «пробы сіл» яшчэ больш моцным і грозным для ворагаў міру, яшчэ больш гатовым у любы момант на адпор любому захватчыку.

Але адбіты і адкінуты вораг не знішчан. Капіталістычнае акружэнне яшчэ існуе. Яно рыхтуецца да новых наскокаў на нашу краіну. Неабходнасць трымаць увесь народ у мабілізацыйнай гатоўнасці захоўвае поўную сілу.

У жніўні 1938 г. вялікая сям'я совецкіх народаў дала аднадушную клятву ўраду, партыі, вялікаму Сталіну—быць на-чаку, адказаць у любы момант ударам на ўдар падпальшчыкаў вайны. Гэта народная клятва яшчэ больш узмацняе мабілізацыйную гатоўнасць нашай краіны перад тварам ворага.

---

Б. Зельцэр

# Палепшыць работу па прыёму ў партыю

У барацьбе за соцыялізм, за шчаслівае, радаснае, заможнае жыццё народаў нашай соцыялістычнай радзімы Комуністычная партыя выхавала агромную армію партыйных і непартыйных большэвікоў, беззаветна адданых вялікай справе Леніна—Сталіна.

Неразрыўная сувязь нашай большэвіцкай партыі з совецкім народам, найвялікшая любоў і давер'е народа да вялікай партыі Леніна—Сталіна, да любімага настаўніка і друга—таварыша Сталіна, знайшлі яркае выражэнне ў незабыўныя дні падрыхтоўкі і выбараў у Вярхоўны Совет СССР і ў Вярхоўныя Советы Саюзных і Аўтаномных Рэспублік.

Перад тварам усяго свету беларускі народ, як і ўсе народы вялікага Совецкага Саюза, прадэманстраваў сваю нязмерна выросшую палітычную актыўнасць, несакрушальнае маральна-палітычнае адзінства, магутную волю да далейшага, яшчэ больш імклівага руху ўперад пад сцягам вялікай большэвіцкай партыі—да вяршынь комунізма.

Адным з бліскучых вынікаў узросшай палітычнай актыўнасці народных мас з'яўляецца той знамянальны факт, што ў перыяд выбарчай кампаніі ў якасці арганізатараў, прапагандыстаў, агітатараў і бяседчыкаў, плячом к плячу з комуністамі, працавалі тысячы комсамольцаў, спачуваючых і беспартыйных. Большасць з іх паказала ўзоры агітацыйна-масавай работы, палітычнай даспеласці, найвялікшай адданасці справе нашай партыі, справе Леніна—Сталіна.

У Сталінскім раёне г. Менска актыўны ўдзел у гэтай вялікай палітычнай рабоце прымалі 902 чалавекі беспартыйных, комсамольцаў і спачуваючых, у тым ліку вялікая колькасць совецкай інтэлігенцыі—інжынераў, тэхнікаў, урачоў, настаўнікаў. Аднак гэтым далёка не вычэрпваюцца кадры актывістаў, выросшых за апошнія гады на нашых фабрыках, заводах, у арцелях, совецкіх і гаспадарчых установах.

Поспехі ў гэтай справе сапраўды вялікі. Яны непасрэдна вынікаюць з агромных перамог соцыялізма, шырокага разгортвання палітыка-масавай работы. Аднак мы не павінны на іх супакоіцца. Мы ўправе імі ганарыцца, але не зазнавацца.

Гэтыя поспехі абавязваюць партыйныя арганізацыі да многага: замацаваць і памножыць узросшую ў час выбарчай кампаніі палітычную актыўнасць мас, замацаваць і памножыць поспехі большэвіцкай агітацыі, узняць партыйна-масавую работу на новую, больш высокую ступень, спалучаючы яе з адказнейшай задачай—прыёмам у партыю.

Абавязак партыйных арганізацый—развіць і паглыбіць палітычную актыўнасць мас, а перадавікоў—лепшых людзей, непрымірымых



да ворагаў народа, людзей, якія на справе даказалі сваю вернасць і адданасць справе Леніна—Сталіна, здольнасць змагацца за яе працвітанне,—уцягваць у рады большэвіцкай партыі.

У некаторых пярвічных арганізацыях справа прыёму ў партыю пачала было патроху наладжвацца.

Тэхпроп швейнай фабрыкі імя Крупскай тав. Зарэцкая, якая выдатна працавала ў якасці нам. старшыні выбарчай участковай камісіі, пераведзена з кандыдатаў у члены партыі.

Спачуваючая, стаханаўка швейнай фабрыкі тав. Драгун Дар'я прынята ў кандыдаты партыі, вылучана намеснікам старшыні ЦП саюза швейнікаў і зараз абрана дэпутатам Вярхоўнага Совета БССР.

Прыняты ў партыю: тав. Брамборт—ініцыятар стаханаўскага руху швейнай прамысловасці БССР; комсамолка тав. Бляхер—адна з лепшых агітатараў, тэхнік кандзіцерскай фабрыкі «Комунарка», выдатна справілася з работай нам. старшыні ўчастковай выбарчай камісіі; тав. Рэйзіна—інжынер-канструктар машынабудаўнічага завода імя Варашылава, адна з лепшых прапагандыстак комсамольскай сеці ў раёне; тав. Лазарава Вера—тэхнік станкабудаўнічага завода імя Кірава, комсамолка-агітатар, працавала нам. старшыні ўчастковай выбарчай камісіі; тав. Сідаровіч Ксенія — слесар Менскай аўтарэмстанцыі, працавала членам акруговай выбарчай камісіі Прамысловай акругі, дзе балатыраваўся і выбран першым дэпутатам Вярхоўнага Совета БССР таварыш Сталін. Пераведзена з кандыдатаў у члены партыі юрысконсульт Менскага Горсовета тав. Рохліна І. І.

Ёсць яшчэ рад заяў аб прыёме ў партыю і ў комсамол ад лепшых людзей, актывістаў выбарчай кампаніі. Гэтыя заявы афармляюцца зараз у пярвічных арганізацыях і ў РК КП(б)Б.

Аднак на фоне велізарнага ўздыму палітычнай актыўнасці мас справа прыёму ў партыю пастаўлена ў нашым раёне далёка не добра.

20 з лішнім месяцаў прайшло з таго часу, як ЦК ВКП(б) аднавіў прыём у партыю. Ачышчаючы свае рады ад трацкісцка-зіноўеўскіх, бухарынска-рыкаўскіх і буржуазна-нацыяналістычных фашысцкіх шпіёнаў, наша партыя прымае ў свае рады лепшых людзей радзімы, адданых барацьбітоў за справу комунізма.

У сваім рашэнні ЦК партыі гаворыць:

> «Партыйныя арганізацыі, сурова праводзячы індывідуальны прыём новых членаў ВКП(б), павінны адбіраць у партыю сапраўды адданых справе рабочага класа, лепшых людзей нашай краіны з рабочых, перш за ўсё, а таксама з сялян і працоўнай інтэлігенцыі, праверанных на любых участках барацьбы за соцыялізм».

Прыём у партыю—не кампанія, а сістэматычная адказнейшая партыйная работа. На вялікі жаль, многія пярвічныя партыйныя арганізацыі нашага раёна забылі гэта важнейшае ўказанне ЦК ВКП(б).

На прадпрыемствах і ва ўстановах раёна працуюць тысячы рабочых, служачых, інжынерна-тэхнічных работнікаў, настаўнікаў, урачоў, работнікаў мастацтва і т. д. Мы маем багацейшыя рэзервы для папаўнення сваіх радоў лепшымі прадстаўнікамі рабочага класа і совецкай інтэлігенцыі.

Тым не менш, з дня аднаўлення прыёму ў ВКП(б) Сталінскі райком партыі прыняў у кандыдаты толькі 143 і ў члены партыі 138 чалавек. Гэтыя яўна недастатковыя лічбы гавораць перш за ўсё аб тым, што многія партыйныя арганізацыі пусцілі справу самацёкам,

што райком партыі не вёў сістэматычнай работы па арганізацыі прыёму ў партыю.

Рад буйнейшых партарганізацый раёна (завод «Большэвік», завод імя Кірава, Мясакамбінат, Акадэмія Навук, школьныя работнікі і інш.) да апошняга часу праяўляе поўную бяздзейнасць у справе прыёму. У раёне 101 партарганізацыя. За ўвесь час не прынялі ў партыю ні аднаго чалавека 50 партарганізацый. Гэта па сутнасці азначае, што яны не аднаўлялі яшчэ прыёму ў партыю, не вядуць партыйна-палітычнай работы, адарваліся ад мас.

Партарганізацыя Мясакамбіната прыняла ў рады партыі ўсяго двух чалавек, партарганізацыя Аўтарэмстанцыі—толькі аднаго. У партарганізацыю Акадэміі Навук, якая мае 64 комсамольцаў, 10 спачуваючых, 10 кандыдатаў партыі і больш сотні беспартыйных супрацоўнікаў, не паступіла яшчэ ні адной заявы. Партарганізацыі школьных работнікаў (настаўніцкі калектыў каля 500 чалавек) і ясельных работнікаў (да 800 чал.) не прынялі ў партыю ні аднаго чалавека. У партарганізацыю Тэатра оперы і балета, дзе працуе каля 300 чал., за ўвесь час падана толькі адна заява ад комсамольца, ды і тая больш поўгода марынуецца ў парткоме. Аналагічная з'ява ў партарганізацыях Паштамта, Тэлеграфа, Менхарчгандля і інш., якія ігнаруюць важнейшыя дырэктывы ленінска-сталінскай партыі аб росце яе радоў за лік лепшых, перадавых людзей нашай краіны.

Ёсць выпадкі, калі комуністы залішне страхуюць сябе, баючыся даваць рэкамендацыі добра ім вядомым і праверанным людзям.

У статуце ВКП(б) запісана: «Рэкамендуючыя нясуць за рэкамендуемых адказнасць, падвяргаючыся ў выпадку беспадстаўных рэкамендацый партыйным спагнанням аж да выключэння з партыі». Гэты параграф статута ВКП(б) мае на ўвазе не дапусціць засмечання партыі варожымі, чуждымі людзьмі і патрабуе ад яе членаў сур'ёзных адносін да рэкамендацый, сапраўды большэвіцкай праверкі палітычных і дзелавых якасцей таварышоў, якія ўступаюць у партыю. І вось некаторыя абываталі з партбілетам у кішэні, баючыся «як-бы чаго не вышла», лічаць за лепшае нікому не даваць рэкамендацый.

У 1937 годзе да члена партыі тав. Шміта (завод імя Варашылава) звярнуўся за рэкамендацыяй кандыдат партыі з пярвічнай арганізацыі дражджавога завода «Чырвоная зара» тав. Якабсон. Каля 5 месяцаў Шміт водзіць яго за нос. Тав. Якабсон да апошняга часу не можа знайсці сабе рэкамендацый ні на заводзе імя Варашылава, дзе ён працаваў некалькі год, ні на заводзе «Чырвоная зара», дзе ён працуе ўжо каля трох год.

Член партыі тав. Фрыдман (фабрыка «Комунарка») падрыхтавала стандартны адказ кожнаму, хто-б да яе ні звярнуўся за рэкамендацыяй: «Я цябе яшчэ добра не ведаю, а таму ад рэкамендацыі пакуль устрымаюся».

У партарганізацыі цэнтральнага менскага тэлеграфа, на якім працуе многа рабочых-стаханаўцаў, вялікая комсамольская арганізацыя, за ўвесь час прыёму не ўступіла ў партыю яшчэ ні аднаго чалавека. Адна з прычын—няма дзе дастаць рэкамендацыі. Партарганізацыя ў гэтым не дапамагае. Член партыі тав. Осіпчук на просьбу комсамольца даць рэкамендацыю адказаў: «Пагляджу раней, як цябе рэкамендуе комсамол».

У пастанове «Аб рабоце партыйных арганізацый па прыёму новых членаў у ВКП(б)» зусім ясна ўказваецца, што «большасць партыйных

арганізацый не растлумачвае няправільнасці паводзін тых комуністаў, якія з-за баязні ўзяць на сябе адказнасць, ухіляюцца ад дачы рэкамендацыі і ўцягнення ў партыю добра ім вядомых і вартых быць у радах ВКП(б) беспартыйных актывістаў».

Гэта ўказанне ЦК ВКП(б) абавязвае ўсе партарганізацыі і іх кіраўнікоў шырока растлумачваць членам партыі, што свяшчэнны абавязак кожнага комуніста—сістэматычна працаваць над уцягненнем у партыю лепшых людзей краіны.

Некаторыя партыйныя арганізацыі кідаюцца ў другую крайнасць. Яны гатовы прыняць у рады партыі любога чалавека без праверкі яго палітычнага твару. Так, на заводзе імя Кірава быў прынят у партыю выкрыты зараз вораг народа. У Белдзяржкіно падрыхтавалі да прыёму неправераную асобу, якая аказалася ворагам народа, а рэкамендаваў яе сакратар парткома тав. Гнедзько. На «Комунарцы» прынялі ў кандыдаты без дастатковай праверкі работніка фабрыкі, які скрыў ад партарганізацыі рад кампраметуючых яго момантаў. Падобныя выпадкі прытуплення пільнасці былі і на заводзе імя Кірава і ў ВКСХШБ.

Партыю мы павінны ахоўваць, як зяніцу вока, зорка сачыць, каб у яе рады ні ў якім разе не мог пралезці ні адзін фашысцкі лазутчык, шпіён, дыверсант, якія ўсяляк стараюцца злаўчыцца, каб аўладаць партбілетам або кандыдацкай карткай.

Правяраць індывідуальна кожнага прымаемага, праяўляць максімум большэвіцкай пільнасці—свяшчэнны абавязак кожнай партарганізацыі, кожнага члена партыі.

Нельга не адзначыць зусім недапушчальныя адносіны раду партыйных камітэтаў і арганізацый да афармлення дакументаў пры прыёме ў партыю. Асноўныя патрабаванні партыйнага статута і ўказанні ЦК ВКП(б) часта парушаюцца. У выніку райком партыі вымушан перасылаць дакументы прымаемых зноў у пярвічныя арганізацыі, дзе яны залежваюцца цэлымі месяцамі.

Партарганізацыя Менхарчгандля і бюро райкома прынялі тав. Абражэвіч у члены партыі па 2-й катэгорыі, тым часам як па статуту яе трэба было прыняць па 4-й. Справу прышлося пераафармляць, і прыём тав. Абражэвіч зацягнуўся амаль на год.

Партарганізацыя асфальта-бетоннага завода прыняла ў члены партыі тав. Фейгельман па 1-й катэгорыі на той падставе, што ў кандыдаты ён прымаўся як рабочы. Але тав. Фейгельман ужо некалькі год з'яўляецца служачым і па статуту павінен быць прыняты па 4-й катэгорыі. Гэта-ж партарганізацыя прыняла ў партыю дырэктара завода комсамольца тав. Мацюшына па 2-й катэгорыі ў той час, калі ён, як служачы, павінен быць прынят па 4-й.

Партарганізацыі ВКСХШБ і Кіж'а прынялі ў партыю Баразнёнка, Леткоўскага і рад іншых таварышоў па 2-й катэгорыі, а па статуту іх трэба было прыняць па 3-й і 4-й.

Такія няўважлівыя адносіны як пярвічных арганізацый, так і бюро райкома, асабліва яго апарата, да вызначэння катэгорыі зацягваюць афармленне спраў і моцна тармозяць рост партыі.

Пры выпраўленні гэтых памылак таварышам, якія ўступаюць у партыю, прыходзіцца дадаткова шукаць рэкамендацыі, пытанне зноў абмяркоўваецца на партсходзе, на бюро райкома і т. д. Пытанне аб прыёме ў партыю тав. Мацюшына разбіралася на заводзе тры разы і на бюро райкома 2 разы, пытанне аб тав. Фейгельмане 2 разы.

У справах часта не бывае характарыстык грамадскіх арганізацый і рэкамендацый прадстаўніка райкома для прымаемых па 3-й катэгорыі.

Кіраўнікі пярвічнай партарганізацыі павінны зразумець, што тэхнічнае афармленне справы, правільнае акуратнае запаўненне анкет нельга разглядаць толькі як простую фармальнасць, неабходна ведаць і памятаць, што статут партыі, указанне аб аднаўленні прыёму і пастанова ЦК ВКП(б) ад 16 лютага 1938 года «Аб аднясенні да статутных катэгорый новапрымаемых у кандыдаты і ў члены ВКП(б)» павінны дакладна выконвацца ўсімі партарганізацыямі.

Мы маем невычарпальныя рэзервы для росту партыі. Важнейшым рэзервам з'яўляецца комсамольская арганізацыя.

У нашым раёне 3500 комсамольцаў. З 205 заяў комсамольцаў, якіх бюро райкома ЛКСМБ рэкамендавала за ўвесь час прыёму, бюро райкома КП(б)Б разглядзела толькі 98.

Над уцягненнем лепшых комсамольцаў у рады партыі яшчэ вельмі слаба працуюць як комсамольскія, так і асабліва, партыйныя арганізацыі. Комсамольская арганізацыя завода імя Варашылава налічвае 120 членаў, але за ўвесь перыяд прыёму рэкамендавала ў партыю толькі 11 чалавек. На заводзе імя Кірава са 130 комсамольцаў рэкамендавана 14 чалавек, на фабрыцы «Комунарка» са 150 чалавек—11, на Мясакамбінаце, скурзаводзе «Большэвік», дражджовым заводзе «Чырвоная зара»—толькі па 1—2 чалавекі.

Пярвічныя арганізацыі і бюро райкома партыі мала клапоцяцца аб тым, каб дапамагчы комсамольцам дастаць рэкамендацыі. Вельмі дрэнна пастаўлена работа са спачуваючымі. У 1937 годзе па раёну амаль не было прытоку спачуваючых: за цэлы год прынята толькі 8 чалавек. Толькі пры 25 арганізацыях ёсць групы спачуваючых. Трэба прама сказаць, што многія сакратары парткомаў і парторгі працягваюць недаацэньваць работу сярод спачуваючых.

Яшчэ ў снежні 1935 года пленум ЦК ВКП(б) адзначыў, што «партарганізацыі павінны вербаваць спачуваючых у строга індывідуальным парадку». Гэта значыць, што, прымаючы ў спачуваючыя, трэба праявіць максімум большэвіцкай пільнасці, памятаючы, што трацкісцка-бухарынскія і буржуазна-нацыяналістычныя элементы, агенты фашызма прабавалі і будуць прабаваць пранікнуць у рады спачуваючых, каб палегчыць сабе доступ у партыю.

Калі большасць партарганізацый нашага раёна зусім не займалася вярбоўкай, то паасобныя арганізацыі прымалі ў спачуваючыя без індывідуальнай праверкі. Так было на заводзе імя Кірава, дзе прынятыя ў групу спачуваючых нехта В. аказаўся ворагам народа, на МГЭС-2, дзе прыняты ў спачуваючыя М. аказаўся ворагам, і т. д.

У тым-жа рашэнні Снежаньскага пленума ЦК (1935 г.) запісана, што для палітычнага выхавання спачуваючых і для выхоўвання ў іх навыкаў большэвіцкай арганізаванасці і дысцыпліны трэба «прыцягваць іх у адпаведнасці з патрабаваннямі статута партыі да выканання паасобных даручэнняў, даводзіць да іх ведама і тлумачыць ім важнейшыя рашэнні партыі і ўрада». Гэта ўказанне многімі партыйнымі кіраўнікамі зусім забыта.

На швейнай фабрыцы імя Крупскай—12 спачуваючых. Уся работа з імі выразілася ў тым, што іх прымацавалі да гурткоў партыйнай

асветы і іншых відаў вучобы. У партыйнае-ж і грамадскае жыццё спачуваючых не ўцягвалі, ні разу не збіралі сходаў і пасяджэнняў.

У партарганізацыі Акадэміі Навук—7 спачуваючых. Фармальна яны ахоплены палітвучобай, маюць даручэнні. Але як даручэнні выконваюцца, чаму двое спачуваючых не наведваюць палітзаняткаў,—аб гэтым ніхто ў парткоме не ведае.

Каб павысіць ідэйна-палітычны ўзровень маладых комуністаў, партарганізацыя абавязана сістэматычна працаваць над выхаваннем іх у духу ленінска-сталінскай партыйнасці. Гэты абавязак, на жаль, не ўсюды выконваецца.

Прынятая ў кандыдаты партыі тав. Токарава (швейная фабрыка імя Крупскай) заяўляе, што ні сакратар, ні хто-небудзь з членаў парткома з ёю пакуль не гаварыў. Яна выконвае тыя-ж даручэнні, што і раней, калі працавала сярод жанчын-матак. Таму не адчувае ніякіх перамен, уступіўшы ў кандыдаты партыі. На тое-ж скардзіліся зменны майстар фабрыкі «Комунарка» тав. Бляхер і рад іншых таварышоў, нядаўна прынятых у кандыдаты партыі на заводзе імя Кірава, імя Варашылава і інш. Пацвердзілася гэта і на пасяджэнні сакратароў парткомаў буйнейшых партарганізацый, спецыяльна скліканым бюро райкома па пытанню аб рабоце з новапрынятымі ў партыю.

Можна прывесці рад прыкладаў, калі пярвічныя партарганізацыі выхаваўчую работу з актывістамі вядуць толькі да часу іх уступлення ў партыю. А як толькі чалавека прынялі ў партыю,—пра яго забываюць. У лепшым выпадку прыняты ў партыю таварыш працягвае выконваць ранейшыя даручэнні, не адчуваючы ніякай перамены ў сваім жыцці.

Тым часам у рашэнні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) гаворыцца:

> «Неабходна дабіцца, каб пад кіраўніцтвам і з дапамогай сваёй партыйнай арганізацыі кожны новы кандыдат і член партыі адразу адчуў усю адказнасць пераходу ад беспартыйнасці да большэвіцкай арганізаванасці і пранікся ўсведамленнем адказнасці перад акружаючымі масамі за справу партыі».

Святы абавязак кожнай партарганізацыі—уцягваць кандыдатаў і членаў партыі ў актыўную партыйную работу, даючы ім даручэнні і дапамагаючы своечасова і добраякасна іх выконваць. Задача кожнай партыйнай арганізацыі—навучыць маладых комуністаў разбірацца ў пытаннях жыцця нашай краіны і ў міжнародным становішчы.

Комуністы павінны быць авангардам на вытворчасці, лепшымі агітатарамі за справу партыі Леніна—Сталіна. Таму маладых членаў і кандыдатаў партыі трэба штодзённа выхоўваць у духу большэвізма, прывіваючы ім большэвіцкую дысцыпліну і поўнае разуменне задач, што стаяць перад нашай партыяй і краінай.

* * *

Выбары ў Вярхоўныя Советы яшчэ вышэй узнялі палітычную актыўнасць мас, шчыльней згуртавалі іх вакол нашай партыі і таварыша Сталіна, яшчэ мацней спаялі нашу партыю з народам. На выбарах выраслі новыя кадры беспартыйных актывістаў.

Наша задача—ліквідаваць недахопы ў справе прыёму ў партыю. Кожная партыйная арганізацыя павінна памятаць, што прыём у партыю—адзін з адказнейшых участкаў работы. Неабходна намеціць прак-

тычныя меры па палітычнаму выхаванню кандыдатаў, спачуваючых, комсамольцаў, беспартыйных, прыцягваючы іх да партыйнай і грамадскай работы.

А рэзервы да росту партыі ў нас велізарны. Трэба толькі ўмела паставіць работу.

Штодзенна ўзнімаючы яшчэ вышэй большэвіцкую пільнасць, бязлітасна выкрываючы варожае ахвосце, наш абавязак—шырока разгарнуць работу па прыёму ў партыю на аснове ленінска-сталінскага прынцыпа: індывідуальнага падыходу да кожнага чалавека, які хоча ўступіць у партыю.

А. Казіміраў

# Работа партарганізацый Гомельскай вобласці са спачуваючымі

Група спачуваючых з'яўляецца школай, дзе найбольш блізкія да партыі людзі выхоўваюцца палітычна, набываюць навыкі большэвіцкай арганізаванасці, дысцыпліны і рыхтуюцца да ўступлення ў рады ВКП(б).

У час выбараў у Вярхоўныя Советы нацыянальных рэспублік вакол нашай партыі выраслі невычарпальныя рэзервы агітатараў з рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў, служачых, калгаснікаў і совецкай інтэлігенцыі. Гэтыя людзі горада і вёскі высока неслі палкае большэвіцкае слова ў гушчу працоўных мас, распальваючы энтузіязм і ініцыятыву ў рабоце, барацьбу за перамогу блока комуністаў з беспартыйнымі.

Па Гомельскай вобласці на гэтай ганаровай адказнай рабоце працавала агітатарамі да 10 тысяч чалавек. У адным толькі Рэчыцкім раёне было больш 1000 агітатараў. У Гомелі агітатары кіравалі 211 гурткамі, якімі было ахоплена да 60 тыс. чалавек. Пасля выбараў у Вярхоўны Совет БССР сотні гэтых людзей прыняты ў рады нашай партыі, у групы спачуваючых.

Спачуваючыя ахоплены партыйнай вучобай. Партыйныя арганізацыі даюць ім часовыя і сталыя партыйныя даручэнні, прымаюць у кандыдаты партыі.

Тав. Фамін—тэхнарук лесацэха дрэваапрацоўчага камбіната імя Ежова—да прыёму ў групу спачуваючых стаяў у баку ад грамадскай работы, не павышаў свой ідэйна-палітычны ўзровень. Зараз ён актыўна ўдзельнічае ў грамадскай рабоце, вучыцца ў партыйнай школе павышанага тыпу, з'яўляецца агітатарам на вытворчасці. Тав. Гладкоў—майстар электразварачнага цэха—пераведзен са спачуваючых у кандыдаты партыі. Працуе добра, як агітатар. Яго цэх—суцэльна стаханаўскі. За гэты год партарганізацыя камбіната прыняла ў спачуваючыя 25 лепшых рабочых-стаханаўцаў, акрамя гэтага, тут—34 спачуваючыя. Усе яны вучацца ў школе, маюць партыйныя даручэнні. На Добрушскай папяровай фабрыцы «Герой працы» ў групе спачуваючых 61 чалавек. Гэта—лепшыя рабочыя, інжынерна-тэхнічныя работнікі, служачыя, паказаўшыя сваю вернасць партыі Леніна—Сталіна. Спачуваючы Васілеўскі Н. Г.—лепшы майстар рольнага аддзела фабрыкі—пры выбарах у Вярхоўны Совет СССР быў членам акруговай выбарчай камісіі, а пры выбарах Вярхоўнага Совета БССР быў старшынёй Доб-

рушскай акруговай сельскай выбарчай камісіі. Спачуваючыя Краўцоў С., Пракоф'ева В., Дабрадзенкава В. былі актыўнымі агітатарамі на выбарчых участках. Большасць спачуваючых ахоплена рознымі відамі партыйнай вучобы. Яны наведваюць партыйныя сходы, палітгурткі, школы, займаюцца індывідуальна.

Добра арганізавана работа са спачуваючымі ў соўгасе «Брылёў» і на конзаводзе № 59. За апошні толькі час у групу спачуваючых прынята 15 лепшых ударнікаў і стаханаўцаў завода. 10 чалавек за апошні час прынята ў спачуваючыя на рэчыцкай запалкавай фабрыцы «Х Кастрычнік».

Хто яны, гэтыя лепшыя людзі? Тав. Чапялёнак—лепшы качагар фабрыкі, тав. Коршчык—стаханавец, вылучаны майстрам змены, тав. Млявы—памочнік машыніста, тав. Несцяронак—манцёр зборачнага цэха, тав. Пляскач і інш.

8 спачуваючых прынята ў рады партыі. Сярод іх—тав. Лысенка Анна, майстар красільных машын. Яе вытворчы стаж—27 год.

Заспенская партарганізацыя прыняла ў спачуваючыя лепшага актывіста вёскі, калгасніка калгаса «XVII Кастрычнік» тав. Сурту Александра, старшыню калгаса імя Варашылава тав. Еўдакімава Івана і настаўніка Левашоўскай няпоўнай сярэдняй школы актывіста выбарчай кампаніі тав. Науменка А.

Але трэба сказаць, што большасць партарганізацый Гомельскай вобласці амаль нічога не робіць для папаўнення сваіх радоў за лік спачуваючых.

За 1937 год у Свяцілавіцкай партарганізацыі не было прынята ў рады партыі ні аднаго чалавека. За гэты год пераведзена ў члены партыі 3 чалавекі і прынята ў кандыдаты партыі 11 чалавек, ды і то па 4-й катэгорыі. Тут не ўдзяляецца ўвагі ўцягненню ў рады спачуваючых лепшых людзей вытворчасці і калгасаў. Партыйныя арганізацыі не працуюць са спачуваючымі.

У 1937 годзе прынялі ў спачуваючыя работніка Свяцілавіцкага райфа тав. Мядзведзева, але пасля таго ніхто з ім не гаварыў, не цікавіўся, як чалавек расце, чым займаецца. Партарганізацыя не ведае, што тав. Мядзведзеў адарваны ад партыйнага жыцця. Ніхто з партарганізацыі РВК не цікавіцца і другім спачуваючым—тав. Бава, не дапамагае ў рабоце.

На прадпрыемствах гор. Рэчыцы і раёна працуюць сотні людзей, якія паказалі сябе дастойнымі быць у радах спачуваючых. Але Рэчыцкі райком партыі (сакратар тав. Рыжоў) недаацэньвае гэтую справу. За палавіну гэтага года ў спачуваючыя прынята па раёну ўсяго 31 чалавек, а партарганізацыі соўгаса «Х Кастрычнік», Ровенская, Слабадская, Вышамірская і інш. на працягу года ў спачуваючыя не прынялі ні аднаго чалавека.

З 500 рабочых лесазавода імя Халтурына за 1938 год у спачуваючыя прынята толькі 7 чал., а ў мінулым годзе—2. Партарганізацыя цвіковага завода «Інтэрнацыянал» у спачуваючыя прыняла толькі аднаго таварыша.

Райком партыі, пярвічныя партарганізацыі не склікаюць сходаў спачуваючых, не прыцягваюць іх да актыўнага ўдзелу ў адкрытых партыйных сходах, не даюць партдаручэнняў.

Партарганізацыя Задубскага сельсовета, Кармянскага раёна (парторг тав. Акуленка) за апошні час не толькі не прыняла ў спачуваючыя ні аднаго чалавека, але не праводзіць ніякай работы са спачуваючымі. Партарганізацыя РВК не мае групы спачуваючых . У Церахоўскім раёне тры месяцы не працуе школа спачуваючых пры Гардуноўскай партарганізацыі. Прапагандыст Вігера, прыкрываючы сваю бяздзейнасць, тлумачыць, што спачуваючыя ў яго не наведваюць партзаняткаў.

Немалая віна за адсутнасць росту групы спачуваючых кладзецца і на Гомельскі гарком партыі. На прадпрыемствах Гомеля працуе 23107 вытворчых рабочых, але спачуваючых тут налічваецца толькі 585 чалавек.

За 1936—1937 гг. на шклозаводзе імя Сталіна не прынята ў групу спачуваючых ні аднаго чалавека, а за палову бягучага года прынята толькі двое. Група спачуваючых нават паменшылася з 38 чалавек да 23. Выхаваннем спачуваючых партком не займаецца, заняткі часта зрываюцца, сходы не праводзяцца. Спачуваючыя не маюць партыйных даручэнняў.

Зусім слаба расце група спачуваючых і на Гомсельмашы. У групе 43 чал., тым часам як на заводзе лічыцца 800 стаханаўцаў. За поўгода партком ні разу не склікаў спачуваючых. Сакратар парткома не ведае, дзе займаюцца спачуваючыя. Недастатковы рост спачуваючых і на Гомельскім паравоза-вагонарамонтным заводзе. З 3181 рабочых у спачуваючыя прыцягнута 59 чал. За тры месяцы мінулага года партком завода (сакратар тав. Родзін) прыняў у спачуваючыя 3 чал., а за гэты год—17.

Прыведзеныя факты сведчаць аб тым, што многія сакратары райкомаў і парткомаў Гомельскай вобласці не ўлічылі і недаацанілі неаднаразовых пастаноў партыі аб рабоце са спачуваючымі, аб прыёме ў спачуваючыя лепшых людзей.

Трэба сказаць, што пытаннямі работы са спачуваючымі да апошняга часу не займаліся і раённыя газеты. Гэтую важнейшую справу выпускае з-пад увагі Гомельскі абком КП(б)Б.

---

А. Канавалёнак і Х. Рыўкіна

Інструктары аддзела прапаганды
і агітацыі ЦК КП(б)Б.

# Узняць работу партыйных кабінетаў

Владзімір Ільіч Ленін не раз указваў на тое, што ідэйна-палітычнае выхаванне ў партыйнай прапагандзе вызначаецца цалкам і выключна складам працуючых прапагандыстаў і агітатараў.

Ад узроўню падрыхтоўкі прапагандыста, ад яго ўмення наладзіць работу гуртка, перадаць свае веды залежыць паспяховасць слухачоў.

Роля парткабінета ў павышэнні якасці прапаганды і агітацыі бясспрэчна вялікая. Партыйны кабінет павінен навучыць прапагандыста і агітатара, дакладчыка, чытчыка і бяседчыка, як рыхтавацца да заняткаў, да сходу, як праводзіць гутарку, чытку газет і т. д.

Тав. Кагановіч у сваёй прамове на нарадзе загадчыкаў аддзелаў кіруючых партыйных органаў гаварыў:

> «Калі райкомы і абкомы з любоўю паставяць работу ў сваіх парткабінетах, яны зробяць вялікую культурную партыйную справу, якая патрэбна будзе кожнаму члену партыі, кожнаму прапагандысту і дакладчыку».

Гэтым указаннем тав. Кагановіч чотка вызначыў значэнне партыйных кабінетаў і іх задачы ў прапагандысцкай і агітацыйнай рабоце. Партыйныя кабінеты закліканы дапамагаць прапагандыстам, агітатарам, дакладчыкам, бяседчыкам, членам і кандыдатам партыі ў партыйнай вучобе і агітацыйна-масавай рабоце, дапамагаць ім парадамі і тлумачэннямі—тэарэтычнымі і метадычнымі, падборам вучэбных і інш. матэрыялаў сістэматычнага і справачнага характару.

Там, дзе парткомы, райкомы і гаркомы партыі сур'ёзна адносяцца да кіраўніцтва работай парткабінетаў, мы маем станоўчыя вынікі. Узяць, напрыклад, Асвейскі парткабінет. Ён мае, праўда, рад недахопаў, але ўсё-ж пры штодзённай дапамозе райкома партыі праводзіць вялікую карысную работу. Райком партыі забяспечыў яго кваліфікаванымі работнікамі, добрым памяшканнем, зацвердзіў план работы. У парткабінеце праводзяцца заняткі семінараў, даюцца кансультацыі. Для заняткаў і кансультацый падбіраюцца па кожнай тэме наглядныя дапаможнікі. Прапагандыст і агітатар заўсёды могуць атрымаць тут адказ і дапамогу, прачытаць літаратуру па любому пытанню. Бібліятэка добра ўкамплектавана марксісцка-ленінскай літаратурай, ёсць багаты аддзел літаратуры мастацкай.

Парткабінет пры фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі» таксама многа дапамагае прапагандыстам і агітатарам у падрыхтоўцы да заняткаў.

Ён з'яўляецца арганізуючым цэнтрам партыйнай вучобы і нізавой агітацыі. Недахопам з'яўляецца тое, што вакол парткабінета не створан дастатковы актыў, які-б дапамагаў яму ў рабоце.

Аднак не ўсе парткабінеты добра паставілі сваю работу. Райкомы партыі ў большасці не цікавяцца ёю, а іншы раз—вольна ці няволька—зрываюць яе. На сваіх пасяджэннях не разглядаюць планаў работы парткабінетаў, не ставяць іх справаздач, не накіроўваюць іх работу ні ідэйна, ні арганізацыйна.

Барысаўскі парткабінет існуе толькі фармальна. Загадчык тав. Ляўданскі ў парткабінеце бывае рэдка, бо лічыць за лепшае «кіраваць» па тэлефону. Прапагандысты і агітатары перасталі наведваць парткабінет, бо там няма да каго звярнуцца за дапамогай. Райком партыі ведае аб гэтым, але чамусьці вывадаў не робіць.

Такі-ж непрыглядны малюнак і ў Гомелі. Палітаддзел параходства работай свайго парткабінета не цікавіцца. Памяшканне выкарыстоўваецца толькі для паседжанняў і сходаў. Такім чынам роля парткабінета ў партыйным выхаванні комуністаў зведзена на нішто. Усё гэта, аднак, не трывожыць ні начальніка палітаддзела тав. Смальянінава, ні яго намесніка тав. Іофе, ні начальніка аддзела прапаганды і агітацыі тав. Мачаловіча.

У Віцебску доўгі час нядрэнна працаваў Дом партыйнага актыва, на абсталяванне якога былі затрачаны велізарныя сродкі. Віцебскаму гаркому партыі памяшканне прыглянулася і ён забраў яго сабе, а Дом партактыва перавёў у клуб Медсанпрацы, дзе ўмовы для работы немагчымыя. Гурток па вывучэнню ленінізма працуе ў брудным цесным пакоі, без вентыляцыі. У выніку комуністы перасталі яго наведваць: замест 50 чалавек цяпер займаюцца толькі 10. Віцебская партарганізацыя, па сутнасці, пазбаўлена арганізуючага цэнтра партыйнай асветы. Злачынная нядбайнасць праяўлена да бібліятэкі. Каштоўнейшыя кнігі былі звалены ў падвал і многа з іх папсаваліся.

Віцебскі гарком партыі і яго сакратар тав. Матлахаў яўна недаацанілі работу Дома партактыва. Калі была ўнесена прапанова аддаць Дому партактыва палавіну першага паверха ў будынку гаркома партыі, то тав. Матлахаў заявіў, што гарком не можа цярпець у сябе пад бокам шуму. Выходзіць, што партыйны актыў, які збіраецца для сур'ёзнай дзелавой работы, перашкаджае тав. Матлахаву. Пытанне аб памяшканні і абсталяванні Дома партактыва перадана цяпер на вырашэнне заг. аддзелаў прапаганды гаркома і абкома тт. Бабаноўскаму і Кісліку. Але вынікаў пакуль што не відаць. Пара спыніць злачынныя адносіны да работы Дома партактыва. Гарком партыі і тав. Матлахаў павінны зрабіць адсюль вывады.

На нізкім палітычным узроўні пастаўлена работа ў Капаткевіцкім парткабінеце. Зусім не працуе парткабінет у мястэчку Калінкавічы, Мазырскага раёна.

Райкомы партыі загадчыкаў партыйных кабінетаў часта загружаюць пабочнай работай. Нярэдка загадчык парткабінета з'яўляецца штатным упаўнаважаным райкома, земаддзела, загатоўчых арганізацый па сяўбе, па загатоўцы мяса, малака, лёну і т. д. Так работнікі парткабінетаў паступова адцягваюцца ад сваёй асноўнай справы.

З безадказнымі адносінамі да работы партакабінетаў трэба пакончыць раз і назаўсёды. Райкомы, парткомы і пярвічныя парторганізацыі павінны моцна ўзяць у свае рукі кіраўніцтва работай партыйных кабінетаў: паклапаціцца аб тым, каб яны былі забяспечаны здоль-

ньмі кваліфікаванымі работнікамі, абмяркоўваць і зацвярджаць планы іх работы, устанавіць кантроль за выкананнем гэтых планаў, ствараць неабходныя матэрыяльныя ўмовы. Работнікі парткабінетаў не павінны ператварыцца ў тэхнічны прыдатак да апарата культпропа, а тым больш—нельга перакладваць на іх плечы непасрэднае кіраўніцтва ўсёй прапагандысцкай і агітацыйнай работай. Трэба спыніць шкодную практыку выкарыстання работнікаў парткабінетаў на ўсякай рабоце, якая адцягвае іх ад асноўнай, даручанай ім справы.

Ленін і Сталін вучаць нас, што сіла большэвіцкага кіраўніцтва, сіла нашай вялікай партыі заключаецца ў неразрыўнай сувязі яе з рабочым класам, з найшырэйшымі масамі працоўных.

Таварыш Сталін у заключным слове на лютаўска-сакавіцкім пленуме ЦК ВКП(б) у 1937 годзе гаварыў, што большэвікі моцны тым, што трымаюць сувязь са сваёй мацерай—з масамі, якія парадзілі, узгадавалі і выхавалі іх, што пакуль яны трымаюць сувязь са сваёй мацерай—з народам, яны маюць усе шансы на тое, каб застацца непераможнымі.

Гэта сталінскае ўказанне бліскуча пацвярджаецца самім жыццём, усёй гісторыяй большэвізма. Партыя большэвікоў забяспечыла сусветна-гістарычныя перамогі соцыялізма ў нашай краіне толькі таму, што яна цвёрда і непахісна ішла па ленінска-сталінскаму шляху. Наша партыя заўсёды не толькі вучыла масы, але і вучылася ў мас.

Партыйныя кабінеты, шырока разгарнуўшы сваю работу, узняўшы яе на высокі ідэйна-палітычны ўзровень, дапамогуць партыйным арганізацыям умацаваць сувязь з масамі, узмацніць іх большэвіцкую пільнасць, яшчэ мацней згуртаваць вакол партыі Леніна—Сталіна.

А для таго, каб партыйныя кабінеты сталі на вышыні сваіх задач, маглі выканаць сталінскае ўказанне, трэба правесці рад палітычных і арганізацыйных мерапрыемстваў. Перш за ўсё, неабходна стварыць пры ўсіх парткабінетах семінары прапагандыстаў і агітатараў. Задача семінара—не толькі павышаць тэарэтычныя веды прапагандыста, але і рэгулярна рыхтаваць яго да чарговых заняткаў, дакладаў, гутарак. Каб гэта дапамога была дзейснай, трэба добра ведаць, як прапагандыст працуе ў гуртку. Загадчык парткабінета павінен асабіста наведваць гуртковыя заняткі прапагандыста, знаёміцца з метадамі яго работы, вывучаць і папулярызаваць лепшы вопыт прапаганды і агітацыі.

Значнае месца ў рабоце партыйных кабінетаў павінны заняць кансультацыі. Вялікую ўвагу трэба звярнуць на падбор кансультантаў, на іх палітычную і дзелавую падрыхтоўку. Неабходна ўстанавіць строгае распісанне кансультацый, звязаць кансультантаў з пэўнай групай прапагандыстаў і агітатараў, каб пры патрэбе яны кожны раз маглі звярнуцца да свайго кансультанта за дапамогай. Нельга ўяўляць сабе справу так, што кансультант павінен сядзець у парткабінеце і чакаць, калі да яго прыдуць за парадай. Маючы справу з пэўнай групай агітатараў або прапагандыстаў, ён зможа па ўласнай ініцыятыве наладжваць сустрэчы з імі, наведваць заняткі і на месцы даваць указанні ў рабоце.

Парткабінеты павінны аказаць прапагандысту дапамогу і ў падборы даведачнага матэрыялу. Вялікая колькасць розных журналаў і газет, якія выпісваюць парткабінеты, не заўсёды мэтазгодна выкарыстоўваецца. На гэту справу неабходна звярнуць асаблівую ўвагу.

У журнале «Пропагандист», у газеце «В помощь партийной учебе» змяшчаецца багаты матэрыял для прапагандыстаў. Тут ад-

водзіцца спецыяльны раздзел—«У дапамогу вывучэнню гісторыі ВКП(б)», дзе сістэматычна друкуюцца спісы літаратуры, якая рэкамендуецца для прапрацоўкі паасобных тэм. Не ўсе прапагандысты і агітатары ведаюць аб гэтым, не заўсёды ўмеюць адшукаць патрэбны матэрыял. Партыйны кабінет павінен ім дапамагчы. Яго задача— умела падабраць па тэмах патрэбны друкаваны матэрыял. Карысна завесці для гэтага асобую картатэку. А зрабіць гэта не цяжка. На картачцы, якая звычайна ўжываецца ў бібліятэках, робіцца паметка: да якога раздзелу адносіцца занесены на яе матэрыял, прозвішча аўтара, назва артыкула, у якім журнале або газеце артыкул змешчан. Картатэку па пытаннях міжнароднага становішча карысна разбіць па асобных краінах (Іспанія, Кітай, Чэхаславакія і т. д.). Для выразак з газет і журналаў можна завесці спецыяльныя папкі. Напрыклад, па такому пытанню, як «Быт і права ў капіталістычных краінах». На гэту тэму можна знайсці багаты матэрыял у нашых журналах і газетах: «Правда», «Известия», «Звязда», «Советская Белоруссия» і інш.

Прапагандысты і агітатары часта скардзяцца на тое, што ў парткабінетах цяжка знайсці матэрыял на патрэбную тэму. Тав. Лондан працуе інжынерам на ф-цы імя Кагановіча ў Віцебску і аднача- сова кіруе гуртком па ленінізму і агітсемінарам. Яна гаворыць, што не паспявае сачыць за ўсімі перыядычнымі выданнямі, бо вельмі занята, а парткабінет падборам прапагандысцкага матэрыялу не займаецца. Такім чынам, шмат каштоўных артыкулаў застаюцца не выкарыстанымі ў прапагандыскай рабоце.

Парткабінеты павінны таксама клапаціцца і аб падборы наглядных дапаможнікаў (альбомы па гісторыі партыі, карты, дыяграмы, плакаты, камплекты фотаздымкаў і т. д.). Трэба ўмела выкарыстаць для гэтага і мясцовы матэрыял. Падабраць яркія факты, якія асвятляюць жыццё данага раёна, горада, прадпрыемства, калгаса да рэвалюцыі і пры совецкай уладзе, поспехі соцыялістычнага будаўніцтва, работу партыйных і комсамольскіх арганізацый. Усё гэта дасць магчымасць прапагандыстам і агітатарам лепш справіцца з ўскладзенымі на іх задачамі.

У гэтай галіне ўзорна паставіў сваю работу Гомельскі парткабінет, які з'яўляецца цэнтрам усёй партыйна-масавай работы. Тут вы знойдзеце багаты лічбовы матэрыял, які характарызуе рост соцыялістычнай гаспадаркі па Саюзу, па Беларусі, па Гомелю. Тут ёсць геаграфічныя карты ўсіх саюзных рэспублік. На гэтых картах можна наглядна бачыць разгортванне соцыялістычнага будаўніцтва на неабсяжных прасторах нашай вялікай радзімы. Ёсць альбом і падрабязны матэрыял аб міжнародным і ўнутраным становішчы нашай краіны. Тут можна дастаць багаты фактычны матэрыял да кожнай тэмы па гісторыі ВКП(б), па бягучых палітычных і гаспадарчых пытаннях, па пытаннях антырэлігійнай прапаганды. У 1938 годзе парткабінет сістэматычна наладжваў выстаўкі на тэмы: «14 год без Леніна пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна», «20 год совецкай улады», «20 год Чырвонай Арміі», «Міжнародны жаночы дзень». Былі арганізаваны спецыяльныя выстаўкі «Аб рэволюцыйнай дзейнасці таварыша Сталіна ў Закаўказзі», «Аб гераічнай барацьбе іспанскага народа», «Аб Сталінскай Канстытуцыі», «Аб творчасці М. Горкага», «Аб творчасці А. Пушкіна». Рад ілюстрацыйных матэрыялаў быў прысвечан рэволюцыйнай дзейнасці С. М. Кірава, Серго Орджанікідзе. Да кожнай

палітычнай кампаніі падбіраецца для дакладчыкаў неабходная літаратура. Яе шырока скарыстоўваюць прапагандысты і агітатары.

У рабоце партыйных кабінетаў вялікае значэнне мае сістэматычная пастаноўка лекцый. Добра праведзеная лекцыя на міжнародную тэму ўводзіць прапагандыстаў і агітатараў і ўвесь партыйны актыў у курс міжнародных падзей. Лекцыі спецыяльнага прызначэння па пытаннях навукі і тэхнікі, культуры і мастацтва, на тэмы з гісторыі нашай партыі замацоўваюць набытыя веды і прыводзяць іх у стройную сістэму.

Многа ўвагі парткабінет павінен удзяляць рабоце сваёй бібліятэкі. Яна павінна мець у патрэбнай колькасці творы Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна, класічную і сучасную мастацкую літаратуру, энцыклапедыі, слоўнікі, журналы, газеты, брашуры. Бібліятэка павінна весці строгі ўлік выдачы кніг, каб пазбегнуць іх прапажы, што нярэдка здараецца з-за халатных адносін бібліятэкара да сваёй справы.

Узор таго, як не трэба працаваць, падае бібліятэка партыйнага кабінета пры Чырвонаслабодскім райкоме партыі. Папрабуйце зайсці ў бібліятэку—і вы сустрэнеце тут цэлы хаос. Вы ніяк не здолееце разабрацца ў тым, дзе і што тут знаходзіцца. Кнігі, журналы, газеты валяюцца на падлозе, пад сталамі, крэсламі, на вокнах. Бібліятэкарша тав. Блашкевіч пачала інвентарызацыю кніг яшчэ ў маі месяцы, але і дагэтуль не скончыла. Бібліятэка вельмі часта бывае на замку. Калі вам патрэбна якая-небудзь кніга, то перш-на-перш вам прыдзецца адшукаць бібліятэкаршу, а гэта не заўсёды ўдаецца. У развале бібліятэкі вінават у першую чаргу культпроп райкома тав. Банашкевіч. Райком партыі павінен прыняць рашучыя меры, каб наладзіць работу бібліятэкі, а таксама і ўсяго парткабінета, бо справа там пастаўлена не лепш.

Работа бібліятэкі заключаецца не толькі ў тым, каб выдаваць і прымаць кнігі. Бібліятэкар павінен ведаць кнігу, каб папулярызаваць яе, вывучыць сваіх чытачоў, каб ведаць, якую кнігу можна ім парэкамендаваць.

Парткабінеты павінны мець свой пэўны каштарыс і распараджацца ім, бо вельмі часта сродкі, якія адпускаюцца для парткабінета, выдаткоўваюцца зусім не па прызначэнню. У Лёзненскім раёне, напрыклад, устанавілася шкодная традыцыя: лёс сродкаў парткабінета вырашае кіраўнік спраў райкома. Ад яго залежыць—адпусціць парткабінету ці не адпусціць некалькі рублёў на выдаткі. Загадчык парткабінета прыкладае нямала сіл, каб выпрасіць у райкома партыі патрэбныя грошы. Некалькі месяцаў у парткабінеце не працаваў тэлефон, бо райком адмовіўся плаціць за яго. Кіраўнікі райкома забыліся, відаць, аб тым, што сродкі для парткабінетаў адпусціла партыя і што яна ні ў якім разе не дазволіць распараджацца імі не па прызначэнню.

Значную ролю ў палепшанні работы парткабінетаў павінны адыграць нарады работнікаў парткабінетаў. Гэтыя сходы склікаюцца пры абкомах, гаркомах і райкомах партыі. Работнікі парткабінетаў абмяркоўваюць тут сваю работу, абменьваюцца лепшым вопытам, намячаюць практычныя меры для ліквідацыі недахопаў.

У гэтым пытанні многа можа зрабіць і наш друк. Трэба ўстанавіць, каб раённыя, абласныя і цэнтральныя газеты сістэматычна асвятлялі на сваіх старонках лепшыя ўзоры работы партыйных кабі-

нетаў, падвяргалі крытыцы дрэнную работу. Партыйны і комсамольскі актыў павінен таксама клапаціцца аб палепшанні работы партыйных кабінетаў. Толькі агульнымі намаганнямі можна падняць іх работу на такую вышыню, як гэтага патрабуе Цэнтральны Камітэт ВКП(б).

Добра наладжаная работа парткабінетаў ва многім палепшыць партыйную вучобу, палітычную агітацыю ў масах, дасць магчымасць узняць ідэйна-палітычны ўзровень кожнага комуніста, кожнага працоўнага, яшчэ больш павысіць рэволюцыйную пільнасць мас, узброіць іх для канчатковага знішчэння ворагаў народа—трацкісцка-бухарынскіх і нацыянал-фашысцкіх агентаў, мабілізуе на выкананне гаспадарча-палітычных задач.

**В. Кудраеў**

# Яшчэ раз аб партыйнай гаспадарцы

Правільная пастаноўка і чоткае вядзенне партыйнай гаспадаркі— адна з важнейшых задач унутрыпартыйнай арганізацыйнай работы.

ЦК ВКП(б) і асабіста таварыш Сталін не раз указвалі на неабходнасць навесці большэвіцкі парадак у нашым уласным партыйным доме.

Снежаньскі (1935 г.) пленум ЦК ВКП(б), падводзячы вынікі праверкі партыйных дакументаў, у сваім рашэнні адзначыў:

> «Увесь вопыт праверкі партыйных дакументаў паказаў важнейшае значэнне ўказанняў партыі аб тым, што класавы вораг, па меры росту нашых поспехаў, прыбягае да найбольш хітрых метадаў барацьбы, выкарыстоўвае для гэтага ў першую чаргу апартуністычнае благадушша і ратазейства комуністаў».

Указваючы, да чаго можа прывесці адсутнасць большэвіцкай пільнасці, Пленум ЦК ВКП(б) абавязаў усе партыйныя арганізацыі:

> ...«да канца ўсвоіць гэтыя ўрокі і палажыць канец агіднасцям, якія былі выяўлены ў ходзе праверкі партыйных дакументаў. Толькі засвоіўшы гэтыя ўрокі і паслядоўна выконваючы неаднаразовыя ўказанні ЦК ВКП(б) аб усямерным павышэнні рэволюцыйнай большэвіцкай пільнасці і неабходнасці «узняць узровень нашай арганізацыйнай работы да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва», партарганізацыі змогуць да канца выкарчаваць корні апартуністычнага благадушша, завастрыць большэвіцкую пільнасць членаў партыі, выхаваць партыйны апарат у духу большэвіцкай астраты і непрымірымасці і дабіцца таго, што статут партыі стане сапраўды нерушымай асновай яе ўнутранага жыцця».

Становішча партыйнай гаспадаркі ў некаторых партарганізацыях сведчыць аб аслабленні ўвагі да яе, аб палітычнай бесклапотнасці кіраўнікоў. Партыйны ўчот запушчан, партдакументы афармляюцца вельмі нядбайна, праяўляюцца халатныя адносіны да захавання партархіва.

Нездавальняюча пастаўлена партыйная гаспадарка ва многіх партарганізацыях Палескай вобласці, асабліва ў Мазырскім, Глускім, Даманавіцкім райкомах партыі.

У Глускі райком партыі ад многіх партарганізацый несвоечасова паступаюць звесткі аб зменах ва ўчотных даных комуністаў.

У райкоме заблытан учот спачуваючых. З рук вон дрэнна пастаўлен учот комуністаў у пярвічных партарганізацыях. Кнігі ўчоту і пратакольная гаспадарка запушчаны, брудныя, няма патрэбных запісаў.

Праверкай было выяўлена, што ў пярвічнай партарганізацыі Комзага кніга ўчота да таго запушчана, што па ёй нельга ўстанавіць фактычную колькасць комуністаў. Прымацавальныя талоны, пастановы райкома і інш. справы, пачынаючы з 1937 г., ляжалі не падшытымі. Пратакол справаздачна-выбарчага сходу не быў афармлен, напісан алоўкам на асобных кавалках паперы. Дакументы аб выніках тайнага галасавання не захоўваюцца нароўні з сакрэтнымі дакументамі.

У Даманавіцкім райкоме партыі звесткі аб зменах ва ўчотных даных комуністаў несвоечасова заносяцца ва ўчотныя і статкарткі, запушчана картатэка статыстычных і алфавітных картак, няма адзнак аб даце і прычынах, выклікаўшых адпаведныя змены ў складзе пярвічных партарганізацый, не відаць, калі і па якой прычыне зменшылася іх колькасць, не адзначаны даты і прычыны ўходу сакратароў парткома і парторгаў.

Не лепш пастаўлена справа і ў партарганізацыях Гомельскай вобласці, асабліва ў частцы афармлення, захавання і вывучэння пратаколаў пярвічных партарганізацый (Рэчыцкі, Добрушскі, Церахаўскі райкомы, Гомельскі гарком партыі і інш.).

Пратаколы, якія паступаюць у райкомы і гарком, не заўсёды вывучаюцца, і часта праходзіць незаўважаным іх нядбайнае афармленне, памылкі, няправільныя фармуліроўкі. Партарганізацыя гомельскай промарцелі «Комунар», абмяркоўваючы вынікі студзеньскага пленума ЦК ВКП(б), не прыняла ніякага рашэння. Партарганізацыя гомельскага малочнага завода, заслухаўшы справаздачу аб падрыхтоўцы завода да сезона 1938 г., прыняла такое рашэнне: «Даклад перанесці на 8/ІІ і разабраць узаемаадносіны тав. Станкевіча з партгрупай, разабраць рэплікі і выступленні тав. Станкевіча». Партарганізацыя гомельскага аўчынна-шубнага завода, заслухаўшы 26/V-38 г. справаздачу комсорга, прыняла даслоўна такую пастанову: «Прыняць у практычную работу на падставе выступаючых у прэніях».

Пытанні партыйнай гаспадаркі ў рашэннях райкомаў і гаркомаў па Гомельскай вобласці амаль не знаходзяць адлюстравання. Клопаты Гомельскага гаркома партыі ў справе наладжвання партыйнай гаспадаркі за апошні год выразіліся толькі ў тым, што 9 студзеня ён вынес вымову парторгу цагельнага завода № 17 Баламутаву за халатныя адносіны да хавання партыйных дакументаў. Добрушскі райком партыі на працягу 1937-38 гадоў наогул не абмяркоўваў пытання аб становішчы партыйнай гаспадаркі, хоць у раёне ёсць факты надзвычай нядбайных, безадказных адносін да афармлення і хавання пратаколаў і іншых партыйных дакументаў. Так, напрыклад, былы сакратар парткома «Палесдруку» Дубкоў, які працуе зараз у Гомельскім абкоме партыі, пакінуў партыйную гаспадарку ў хаатычным становішчы, нават не здаўшы спраў новаабранаму сакратару парткома.

Выкананне прынятых партсходамі рашэнняў не правяраецца. Гомельскі гарком партыі 4 мая г. г. заслухаў пытанне аб становішчы парт'інфармацыі і намеціў рад мерапрыемстваў, у тым ліку: «не пазней 7 мая падабраць і зацвердзіць інструктара па інфармацыі, абавязаць сакратароў парткомаў вылучыць і зацвердзіць парт'інфар-

матараў і не пазней 10 мая прадставіць на зацверджанне Гаркома, праз месяц заслухаць даклады 4—6 парткомаў» і т. д. Прыняўшы гэту пастанову, Гарком, аднак, нічога не зрабіў, каб правесці яе ў жыццё. У Гомельскім абкоме партыі на працягу амаль усяго чэрвеня не афармляліся пратаколы аб прыёме ў партыю, у сувязі з гэтым райкомы своечасова не атрымалі выпісак з пратаколаў аб прыёме ў партыю 156 чалавек.

У пярвічнай партарганізацыі Церахаўскага РВК (сакратар парткома тав. Шустаў) у жніўні яшчэ не былі аформлены пратаколы партсходаў за сакавік-красавік месяцы, у тым ліку пратакол справаздачна-выбарчага сходу ад 20 красавіка. Зусім не практыкуецца праверка выканання прымаемых рашэнняў. Пры абмеркаванні тых ці іншых пытанняў на партсходах справа ў большасці выпадкаў абмяжоўваецца выдзяленнем камісіі для выпрацоўкі рэзалюцыі. Камісія, як правіла, забывае аб даручэнні, а партком тым больш не ўспамінае пра яго.

У пачатку жніўня меў месца характэрны факт, які сведчыць аб аслабленні палітычнай пільнасці ў сакратара адзначанага парткома тав. Шустава. Варта было яму пачуць, што з ім гаворыць работнік ЦК КП(б)Б, як Шустаў, не праверыўшы дакументы прыбыўшага таварыша, дапусціў яго азнаёміцца са становішчам партыйнай гаспадаркі і дазволіў прагледзець усе партыйныя дакументы.

У Мехаўскім райкоме партыі (Віцебская вобласць) палітычная бесклапотнасць асабліва вялікая. Бываюць выпадкі, што работнікі райкома, выходзячы з памяшкання, пакідаюць яго зусім адкрытым. Гэта не так даўно было выяўлена работнікам ЦК КП(б)Б. Зайшоўшы ў райком, ён не знайшоў там ні аднаго з работнікаў, але затое ўбачыў раскіданымі на сталах розныя партыйныя дакументы.

У Варашылаўскім райкоме партыі (Менск), як паказала праверка, пратаколамі пярвічных партарганізацый ніхто не займаецца, іх нават не чытаюць і не рэгіструюць. Частка пратаколаў раскідана па яшчыках. К пачатку ліпеня 1938 года ад раду пярвічных партарганізацый не паступіла ні аднаго пратакола (друкарня імя Сталіна, першая мех. пякарня, арцель імя Крупскай і інш.). Паколькі работнікі райкома пратаколаў не чытаюць, яны, натуральна, і не рэагуюць на няправільныя рашэнні пярвічных партарганізацый. Пратаколы паступаюць у райком неаформленыя, а некаторыя нават і не падпісаны.

Асабліва безадказна адносіцца Варашылаўскі райком партыі да рэагавання на заявы. Лёс многіх заяў, паступіўшых у райком, невядомы, бо няма кантролю за іх прасоўваннем. Грамадзянка Банецкая падала заяву 5 мая, аднак толькі 7 чэрвеня сакратар налажыў рэзалюцыю: «Накіраваць у пярвічную партарганізацыю для прыняцця мер». На заяве тав. Эрэнбурга ад 5 мая аб няправільным зняцці яго з работы красуецца такая рэзалюцыя: «Інструктару даведацца, у чым справа, чаго хоча тав. Эрэнбург». Яшчэ 10 студзеня падаў заяву т. Адасьеў, але да чэрвеня яна не была расследавана і знаходзілася ў інструктара. Так бяздушна адносіцца райком партыі да заяў і скарг працоўных. Ні адной нарады сакратароў парткомаў і парторгаў па пытанню партыйнай гаспадаркі райком не правёў, тым часам як інструкцыя ЦК ВКП(б) аб вядзенні ўчоту комуністаў часта парушаецца як ў пярвічных партарганізацыях, так і ў самім райкоме партыі.

Многія райкомы партыі не надаюць належнага значэння афар-

мленню партыйных дакументаў, у прыватнасці пратаколаў. Сакратары райкомаў не толькі не вывучаюць пратаколаў пярвічных партарганізацый, але часта перадавяраюць тэхнічным работнікам афармленне пратаколаў паседжанняў самаго райкома партыі. У выніку партыйны дакумент пакрываецца памылкамі, якія нярэдка скажаюць сэнс выраршанага пытання.

Можна прывесці хоць-бы такі прыклад:

Смалявіцкі райком партыі, слухаючы 14 мая г. г. пытанне аб тав. І., «які, будучы парторгам, дапусціў грубасць і недааценіў аб аднаўленні выключаных з партыі тт. З. і Ф.», вынес такую пастанову: «Пацвердзіць рашэнне пярвічнай партарганізацыі за меўшыя грубасці па рабоце Драчкоўскага і торфзавода «Красное знамя» да аднаўлёных комуністаў тт. З. і Ф., аб'явіць т. І. вымову без занясення ў асабістую справу».

Падобныя прыклады, а іх вельмі многа, гавораць аб тым, што партарганізацыі часта недаацэньваюць важнасць чоткай і правільнай пастаноўкі партыйнай гаспадаркі, забываючы аб адказнасці за гэты важнейшы ўчастак арганізацыйнай работы.

Тав. Жданаў на сходзе Ленінградскага партыйнага актыва 30 снежня 1935 г., гаворачы аб выніках пленума ЦК ВКП(б), указаў:

> «У партрабоце галоўнае заключаецца зараз у тым, каб, захоўваючы, як зяніцу вока, і ахерагаючы нашу партыю, павышаючы пільнасць членаў партыі, узбройваючы сябе вялікім вучэннем Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, аўладаць дасканала арганізацыйным і тэхнічным бокам справы, памятаючы, што авалоданне тэхнікай партыйнай работы—справа не менш, а больш складаная, чым авалоданне тэхнікай вытворчасці. Праверка партдакументаў наглядна паказала, як на практыцы патрэбна падцягваць арганізацыйную работу да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва і як шкодна запушчанасць і адставанне арганізацыйна-тэхнічнай работы».

Пытанні партыйнай гаспадаркі павінны прыцягнуць да сябе ўвагу ўсіх партарганізацый. Трэба памятаць, што благадушша, палітычная бесклапотнасць, самасупакоенасць толькі на-руку ворагам народа, якія ставяць сваёй задачай аслабіць нашу ўвагу да партыйнай гаспадаркі.

Партарганізацыі абавязаны прыняць усе меры, каб партыйная гаспадарка ва ўсіх звеннях нашага партыйнага апарата была прыведзена ў такое становішча, якое-б цалкам адпавядала неаднаразовым указанням ЦК ВКП(б) і нашага любімага правадыра і настаўніка таварыша Сталіна.

**Б. Шпітальнік**

# Больш увагі палітычнаму выхаванню рабселькораў

Вялікая партыя Леніна—Сталіна праяўляе нястомныя клопаты аб рабселькорах. Магутны рост і развіццё рабселькораўскага руху ў нашай краіне ёсць рэзультат найвялікшай увагі і пастаяннага кіраўніцтва ім нашай бальшэвіцкай партыі.

Арганізатары і кіраўнікі бальшэвіцкага друку—Ленін і Сталін заўсёды надавалі велізарнейшае значэнне рабочым і сялянскім карэспандэнтам.

Таварыш Сталін гаварыў аб рабселькорах:

> «Гэта людзі ўражлівыя, якія гарацць іскраю праўды, жадаюць выкрываць, перагібаюць часам палку, якія жадаюць выправіць ва што-б там ні стала нашы недахопы, людзі, якія не баяцца куль,—вось гэтыя людзі, па-мойму, павінны скласці адзін з асноўных рычагоў у справе выяўлення нашых недахопаў і выпраўлення нашай партыйнай і совецкай будаўнічай работы на месцах» *).

На фабрыках і заводах, у шахтах і на транспарце, у школах і ўстановах—на ўсіх участках нашай вялікай соцыялістычнай будоўлі армія рабселькораў пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый праводзіць агромную работу. Сотні тысяч насценных газет упарта змагаюцца за своечасовае выкананне промфінпланаў, за яшчэ большае развіццё стаханаўскага руху, за высокі сталінскі ўраджай на соцыялістычных палях, за культурнае і заможнае жыццё.

Наша партыя ўдзяляе сур'ёзную ўвагу комуністычнаму выхаванню рабселькораў, іх палітычнаму росту. Яшчэ ў пастановах XIII з'езда партыі (1924 г.) указвалася на неабходнасць узмацнення комуністычнага выхавання рабкораў, арганізацыі палітасветнай работы сярод рабкораў (гурткі, клубы, кароткатэрміновыя курсы, з'езды і т. д.) і аказання дапамогі рабкорам у павышэнні іх рабкораўскай кваліфікацыі.

«Крестьянской газетой» за апошнія некалькі год праведзена велізарная работа па арганізацыі сістэматычнай вучобы селькораў. Вучэбны камбінат «Крестьянской газеты» рэгулярна высылае селькорам-завочнікам друкаваныя заданні-лекцыі па пытаннях газетнай работы, па роднай мове, геаграфіі.

Па раёнах БССР завочнай вучобай ахоплена 1700 селькораў. І трэба сказаць, селькораўская вучоба паляпшаецца з кожным годам.

---

1 **І. В. Сталін.** З прамовы на пасяджэнні Оргбюро ЦК ВКП(б) 25 студзеня 1925 года.

Яна значна дапамагае завочнікам у іх агульным і палітычным росце, у палепшанні работы нізавога друку. З часу арганізацыі завочнай селькораўскай вучобы выраслі нямала людзей, якія з радавых селькораў сталі рэдактарамі насценных газет і літработнікамі раённых газет. У адным толькі Жлобінскім раёне ў 1938 годзе з ліку лепшых селькораў-завочнікаў вылучаны: адзін—інструктарам раённай газеты, адзін—у раённы аддзел радыёвяшчання, адзін—загадчыкам дома соцкультуры.

Як-жа арганізавана селькораўская вучоба ў раёнах, якую ўвагу ўдзяляюць рэдакцыі раённых газет і партыйныя арганізацыі кіраўніцтву гэтым важным участкам работы? Трэба проста сказаць, што ў радзе раёнаў рэдактары газет і райкомы партыі недааценілі гэтай важнейшай работы. Чым, напрыклад, тлумачыць, што ў Менскім (сельскім), Плешчаніцкім, Полацкім, Расонскім, Смалявіцкім, Ушацкім, Барысаўскім, Крупскім і Грэскім раёнах вучоба селькораў сістэматычна зрываецца, кансультацыі з завочнікамі амаль не праводзяцца? Гэта можна тлумачыць толькі недаацэнкай работы па выхаванню селькораў, слабай увагай рэдакцый раённых газет да работы нізавога друку.

У жніўні ў радзе раёнаў былі праведзены з завочнікамі кансультацыі на тэму: «Работа рэдкалегіі насценнай газеты».

Вопыт паказвае, што кансультацыі дапамагаюць селькорам не толькі добра засвоіць тое ці іншае заданне, але з'яўляюцца таксама важнейшым сродкам перадачы і распаўсюджання лепшага вопыту работы рэдкалегій насценных газет.

Вось як, напрыклад, прашла кансультацыя, арганізаваная для завочнікаў рэдакцыяй аршанскай газеты «Ленінскі прызыў». Пасля ўступнага слова кансультанта—рэдактара газеты тав. Зерніцкага—з дакладам аб рабоце рэдкалегіі насценгазеты «Калгаснік» выступіў яе рэдактар тав. Белкін. Ён расказаў селькорам аб вопыце работы рэдкалегіі, аб тым, як канкрэтна размеркаваны паміж членамі рэдкалегіі ўчасткі работы: адзін прымацован да малочна-таварнай фермы, другі—да кузні, трэці—да паляводчай брыгады, чацверты—да сталярнай майстэрні, пяты—правіць паступаючыя заметкі; аб тым, як рэдкалегія змагаецца за дзейснасць змешчаных у насценгазеце матар'ялаў. Пасля даклада пачаўся абмен вопытам работы. Закончылася кансультацыя тым, што завочнікі склалі, усебакова абмеркаваўшы, планы бліжэйшых нумароў насценных газет.

Па такому, прыблізна, метаду былі праведзены кансультацыі ў Бабруйскім, Жлобінскім, Буда-Кашалёўскім, Менскім раёнах.

На кансультацыі ў Гомелі прысутнічалі завочнікі з Рэчыцкага, Добрушскага, Журавіцкага, Гомельскага і Лоеўскага раёнаў Гомельскай вобласці. Селькоры-завочнікі Журавіцкага раёна расказалі аб тым, што рэдакцыя раённай газеты сістэматычна з імі працуе: кожны месяц праводзяцца кансультацыі, работнікі рэдакцыі часта робяць агляды насценных газет, выязджаюць у калгасы і сельсоветы і дапамагаюць рэдкалегіям насценных газет складаць планы работы, і т. д.

Зусім іншае гаварылі селькоры-завочнікі Гомельскага раёна. Яны расказалі аб адсутнасці сістэматычнай работы з селькорамі-завочнікамі і наогул селькорамі, аб слабой сувязі рэдакцыі з селькорамі. Атрымалася так, што ў Гомелі, дзе ёсць і абласная і раённая газеты, работа з селькорамі пастаўлена горш, чым у Журавіцкім раёне, які знаходзіцца далёка ад абласнога цэнтра і мае менш кваліфікаваных газетных работнікаў.

У радзе раёнаў (Орша, Бабруйск, Жлобін, Журавічы, Рэчыца, Талачын і інш.) удзяляецца сур'ёзная ўвага комуністычнаму выхаванню селькораў. Партыйныя арганізацыі і рэдакцыі газет гэтых раёнаў правільна зразумелі і выконваюць указанне нашай партыі аб тым, што рабселькорамі трэба кіраваць, што іх трэба выхоўваць і сістэматычна дапамагаць у рабоце. Партыйныя арганізацыі і рэдакцыі газет гэтых раёнаў правільна зразумелі пастанову ЦК ВКП(б) «Аб сельскім раённым і нізавым друку», дзе ўказана, што «нізавым друкам раёна і работай сярод рабселькораў павінны кіраваць райпарткомы, прыцягваючы да актыўнага ўдзелу парт'ячэйкі і рэдакцыі раённых газет».

Зусім зразумела, што ў тых раёнах, дзе слаба пастаўлена работа па комуністычнаму выхаванню рабселькораў, там слаба працуе нізавы друк, там ворагі народа імкнуцца выкарыстаць яго для барацьбы супроць мерапрыемстваў партыі і ўрада. Задача кожнага райкома партыі, кожнай пярвічнай партыйнай арганізацыі і рэдакцыі газеты—кіраваць рабселькораўскім рухам, вырошчваць і палітычна выхоўваць рабселькораў—«камандзіраў пролетарскай грамадскай думкі» (Сталін), сістэматычна кіраваць нізавым друкам.

У бліжэйшы час у радзе абласцей рэспублікі намячаецца правесці абласныя нарады-кансультацыі селькораў-завочнікаў. Трэба, каб гэтыя нарады зрабілі пералом і прыкавалі ўвагу аддзелаў друку абкомаў КП(б)Б, абласных газет, раённых партыйных арганізацый і рэдакцый раённых газет да сістэматычнага кіраўніцтва рабселькорамі і работай нізавога друку.

---

С. Топаз.

# Строга захоўваць правілы социялістычнага агульнажыцця

I

У выніку перамогі соцыялізма ў СССР, заваяванай пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна ў жорсткай барацьбе з ворагамі народа, уцвярдзіліся новыя, соцыялістычныя правілы агульнажыцця.

Працэс рэволюцыйнай барацьбы за комунізм перавыхоўвае працоўныя масы, збаўляе іх ад дробнабуржуазных уплываў, ад мяшчанскіх традыцый, якія буржуазнае грамадства прывівала працоўным. Вынікам нашай соцыялістычнай рэволюцыі з'яўляецца маральны і ідэйны ўздым совецкага народа, выхаванне высокіх ідэйных і маральных якасцей чалавека.

У стаханаўскім руху, у творчым уздыме народных мас, у культурным росце краіны, у шматлікіх праявах інтэрнацыянальнай салідарнасці, у масе ўзораў гераізму і самаадданасці совецкага народа, і т. д. і т. п. відаць новыя грамадскія адносіны, нямыслімыя пры капіталістычным ладзе. Соцыялізм стварыў найглыбейшы пераварот у грамадскім і асабістым жыцці совецкіх грамадзян. Усе бакі грамадскага і асабістага жыцця труджанікаў нашага соцыялістычнага грамадства ў ходзе барацьбы за комунізм перабудаваліся і прадаўжаюць перабудоўвацца на новых пачатках. Соцыялізм прынёс з сабою найглыбейшы пераварот не толькі ва ўсім ладзе грамадскага жыцця, але і ў штодзенным жыцці людзей, у іх быту, у іх адносінах да грамадскіх абавязкаў, у адносінах паміж мужчынай і жанчынай, у адносінах да дзяцей і т. д.

Наша соцыялістычная рэчаіснасць цалкам і поўнасцю пацвярджае палажэнне Леніна аб тым, што пераможная соцыялістычная рэволюцыя стварае высокі маральны і ідэйны ўздым народа, комуністычную мараль, бо

> «Пасля звяржэння цароў, памешчыкаў і капіталістаў упершыню толькі ачышчаецца поле для сапраўднай будоўлі соцыялізма, для выпрацоўкі новай грамадскай сувязі, новай дысцыпліны агульнай працы, новага сусветна-гістарычнага ўкладу ўсёй народнай, а затым і міжнароднай гаспадаркі. Гэта справа перапрацоўкі саміх нраваў, надоўга загаджаных, папсаваных праклятай прыватнай уласнасцю на сродкі вытворчасці, а разам з ёю ўсёй той атмасферай грызні і недавер'я,—варожасці, раздробленасці, узаемападседжвання, якая немінуча выра-

джаецца і пастаянна адраджаецца зноў дробнай, адасобленай гаспадаркай, гаспадаркай уласнікаў пры вольным абмене паміж імі» *).

II

Правілы агульнажыцця, мараль вызначаюцца характарам грамадскага ладу, г. зн. вытворчымі адносінамі. Маркс, Энгельс, Ленін і Сталін паказалі, што сукупнасць вытворчых адносін з'яўляецца матэрыяльнай асновай грамадскага жыцця, яго зместам. Усё астатняе— дзяржаўнае ўстройства, пануючыя ў даным грамадстве светапогляды, разумовы і маральны стан грамадства ёсць надбудова над эканамічным базісам. У сувязі з гэтым—«са зменай эканамічнай асновы больш ці менш хутка адбываецца пераварот ва ўсёй велізарнай надбудове» **(Маркс)**. Таму правілы агульнажыцця, мараль у буржуазным грамадстве вызначаюцца тым, што ў гэтым грамадстве пануюць буржуазныя вытворчыя адносіны, прыватная ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці. І эксплаатацыя чалавека чалавекам вызначаецца тым, што гэта—эксплаататарскае грамадства. Вось чаму і пануючая ў капіталістычным грамадстве мараль, у аснове якой ляжыць прынцып аховы прыватнай уласнасці, прапаведуе павагу да прыватнай уласнасці на прылады і сродкі вытворчасці, прапагандуе ідэю класавага міру паміж рабочымі і капіталістамі, г. зн. ідэю безагаворачнага падпарадкавання пролетарыята буржуазіі, мае сваёй мэтай увекавечыць эксплаатацыю чалавека чалавекам. Правілы агульнажыцця пры буржуазным ладзе заклікаиы захоўваць, умацоўваць, ідэйна і маральна апраўдваць існуючы эксплаататарскі лад у цэлым.

Сапраўдным носьбітам перадавой маралі з'яўляецца рабочы клас. Яшчэ ў буржуазным грамадстве рабочы клас, кіруемы комуністычнай партыяй, у барацьбе супроць капіталізма выпрацоўвае асновы пролетарскай соцыялістычнай маралі, вышэйшым прынцыпам якой з'яўляецца служэнне вялікай справе вызвалення чалавецтва ад капіталістычнага прыгнёту, служэнне вялікай справе трыумфу комунізма.

Ленінізм вучыць, што такія выдатныя якасці, як дысцыпліна, чэснасць перад сваім класам, нянавісць да эксплаататараў, дружба, уменне працаваць і т. п. выхоўваюцца ў рабочым класе пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі доўгай і ўпартай барацьбой з буржуазіяй.

> «Вытрыманасць, настойлівасць, гатоўнасць, рашымасць і ўменне сотні раз выпрабаваць, сотні раз выправіць і ва што-б там ні стала дабіцца мэты,—гэтыя якасці пролетарыят выпрацоўваў сабе 10, 15, 20 год да Кастрычніцкай рэволюцыі, ён выпрацоўваў іх на працягу двух год пасля гэтай рэволюцыі, пераносячы нябачаныя лішэнні, голад, разарэнне, бядоты. Гэтыя якасці пролетарыята—парука, што пролетарыят пераможа» **).

III

Пасля перамогі пролетарскай соцыялістычнай рэволюцыі, у ходзе яе, у грамадзянскай вайне, у барацьбе за аднаўленне народнай гаспадаркі, за соцыялістычную пераробку сельскай гаспадаркі, за

*) **Ленін**, Творы, т. XXV, стар. 255.
**) **Ленін**, Творы, т. XXV, стар. 151—152.

ажыццяўленне сталінскіх пяцігодак, у барацьбе з рэшткамі эксплаататарскіх класаў ствараліся новыя, соцыялістычныя парадкі чалавечага агульнажыцця, выхоўваліся новыя людзі сталінскай эпохі, здольныя на справе ўмацоўваць і развіваць соцыялістычныя парадкі нашага агульнажыцця, гатовыя да канца змагацца за справу комунізма,—стваралася комуністычная мараль, у аснове якой ляжыць барацьба за ўмацаванне і завяршэнне комунізма.

У СССР перамог соцыялізм.

> «Наша совецкае грамадства дабілася таго, што яно ўжо ажыццявіла ў асноўным соцыялізм, стварыла соцыялістычны лад, г. зн. ажыццявіла тое, што ў марксістаў называецца інакш першай або ніжэйшай фазай комунізма» *).

Гэтым вызначаецца аснова і характар правіл соцыялістычнага агульнажыцця і комуністычнай маралі.

Уцверджаныя ў нас правілы соцыялістычнага агульнажыцця, комуністычная мараль (да правіл агульнажыцця адносяцца грамадскія парадкі, устаноўленыя рэволюцыяй, лад жыцця грамадства, характар абавязкаў грамадзян, правілы паводзін людзей, выцякаючыя з умоў жыцця соцыялістычнай дзяржавы і т. д.) служаць вялікай справе выхавання чалавека ў духу комунізма. Таму найстражэйшае захаванне правіл соцыялістычнага агульнажыцця, комуністычнай маралі з'яўляецца свяшчэнным і ганаровым абавязкам усіх працаўнікоў соцыялістычнага грамадства.

## IV

Правілы соцыялістычнага агульнажыцця, комуністычная мараль даны вучэннем Маркса, Энгельса, Леніна і Сталіна, Сталінскай Канстытуцыяй і законамі, выцякаючымі з Канстытуцыі, з інтарэсаў далейшага развіцця нашага соцыялістычнага ладу.

Совецкі народ прасякнут непрымірымай нянавісцю да ворагаў народа, і ён з найвялікшай радасцю і гордасцю аказвае ўсямерную дапамогу органам НКВД у справе выкарчоўвання і разгрому ворагаў. Далейшае ўзмацненне выхавання совецкага народа ў гэтым духу—адзін з важнейшых прынцыпаў комуністычнай маралі, памятаючы, што барацьба з ворагамі, рэволюцыйная пільнасць—гэта адзін з важнейшых бакоў соцыялістычнага будаўніцтва. Знішчэнне да канца трацкісцка-бухарынскіх і нацыянал-фашысцкіх шпіёнаў і дыверсантаў з'яўляецца адною з важнейшых умоў захавання і ўмацавання правіл соцыялістычнага агульнажыцця.

Ахова соцыялістычнай уласнасці, барацьба супроць ворагаў, якія спрабуюць нанесці шкоду нашай соцыялістычнай гаспадарцы, барацьба супроць зладзеяў, спекулянтаў і растратчыкаў з'яўляецца адным з важнейшых правіл соцыялістычнага агульнажыцця, складае адзін з важнейшых абавязкаў грамадзян СССР. Бо соцыялістычная ўласнасць з'яўляецца свяшчэннай і недатыкальнай асновай нашага соцыялістычнага ладу, крыніцай багацця і магутнасці нашай радзімы, крыніцай заможнага і культурнага жыцця ўсіх працоўных. Вось чаму ворагі народа ўсіх масцей стараюцца накіраваць сваё змяінае жала, свае ўдары супроць соцыялістычнай уласнасці, спрабуюць

*) Сталін, Аб праекце Канстытуцыі Саюза ССР.

сваімі шкодніцкімі і дыверсійнымі дзеяннямі разрушыць аснову нашага соцыялістычнага ладу, а гэтым самым і ўвесь наш соцыялістычны лад ў інтарэсах рэстаўрацыі капіталізма. Таму таварыш Сталін вучыць, што закон аб ахове грамадскай уласнасці «ёсць аснова рэволюцыйнай законнасці ў сучасны момант. А абавязак найстражэйшага яго правядзення ў жыццё з'яўляецца пярвейшым доўгам кожнага комуніста, кожнага рабочага і калгасніка» *).

У СССР праца стала справай чэсці, справай славы, справай доблесці і геройства. Ужо ў першыя месяцы пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі ў выдатным артыкуле «Як арганізаваць спаборніцтва?», напісаным 7—10 студзеня 1918 г., геній і правадыр гэтай рэволюцыі—Ленін паставіў пытанне аб соцыялістычным спаборніцтве. У гэтым артыкуле Ленін паказаў, што ўслаўляемая буржуазнымі пісьменнікамі капіталістычная канкурэнцыя, прыватная прадпрыймальнасць і іншыя «прыгожасці» капіталістычнага парадку азначаюць «нечувана зверскае падаўленне прадпрыймальнасці, энергіі, смелага пачыну масы насельніцтва, гіганцкай большасці яго, дзевяноста дзевяці сотых працоўных...» **).

Ленін, а разам з ім і вялікі Сталін упершыню абгрунтавалі тую велізарнейшую ідэю, што «соцыялізм не толькі не ўгашае спаборніцтва, а наадварот, упершыню стварае магчымасць прымяніць яго сапраўды **шырока,** сапраўды ў **масавым** размеры, уцягнуць сапраўды большасць працоўных на арэну такой работы, дзе яны могуць праявіць сябе, разгарнуць свае здольнасці, выявіць таленты, якіх у народзе—непачатая крыніца і якія капіталізм мяў, давіў, душыў тысячамі і мільёнамі»***). І правадыры сусветнага пролетарыята—Ленін і Сталін—паставілі задачу—арганізаваць соцыялістычнае спаборніцтва. З таго часу прайшло больш 20 год барацьбы за комунізм. Бліскуча выканан распрацаваны яшчэ пры жыцці Леніна вялікі план ГОЭЛРО. Пераможна выкананы дзве сталінскія пяцігодкі, да непазнаваемасці змянілася краіна пролетарскай дыктатуры. У СССР поўнасцю перамог соцыялізм. Ён увайшоў у паўсядзённы быт народа.

На працягу ўсіх гэтых 20 з лішнім гадоў соцыялістычнае спаборніцтва было важнейшай асновай усіх нашых гаспадарчых перамог.

Ад «вялікага пачыну»—першых комуністычных суботнікаў на Маскоўска-Казанскай чыгунцы, праз ударніцтва ў яго рознастайных формах (ударныя брыгады, рух выдатнікаў, ізотаўскі рух і інш.) соцыялістычнае спаборніцтва выхоўвала новыя, соцыялістычныя адносіны да працы, уцягвала мільёны працоўных у вырашэнне складанейшай і важнейшай задачы—павышэння прадукцыйнасці працы, ад якой залежала поўная перамога новага, соцыялістычнага, ладу над капіталізмам.

«Толькі сляпыя не бачаць,—гаварыў у 1930 г. на XVI з'ездзе партыі тав. Сталін,—што ў псіхалогіі мас і ў іх адносінах да працы адбыўся велізарны перелом, які ў корані змяніў аблічча нашых заводаў і фабрык... Самае выдатнае ў спаборніцтве заключаецца ў тым, што яно робіць карэнны пераварот у погля-

*) **Сталін.** „Пытанні ленінізма", стар. 508, выд. 10.
**) **Ленін,** том XXII, стар. 158.
***) Там-жа.

дах людзей на працу, бо яно ператварае працу з зазорнага і цяжкага брэмені, якім яна лічылася раней, у справу **чэсці,** у справу **славы,** у справу **доблесці і геройства».**

Соцыялістычнае спаборніцтва было важнейшай, асноўнай сілай, якая забяспечыла выдатныя гістарычныя перамогі двух сталінскіх пяцігодак. Таварыш Сталін у сваім дакладзе аб выніках першай пяцігодкі, гаворачы аб асноўных сілах, якія забяспечылі гістарычную перамогу першай пяцігодкі, адзначыў:

«Гэта, перш за ўсё, актыўнасць і самаадданасць, энтузіязм і ініцыятыва мільённых мас рабочых і калгаснікаў, развіўшых разам з інжынерна-тэхнічнымі сіламі каласальную энергію па разгортванню соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва. Не можа быць сумнення, што без гэтай акалічнасці мы не маглі-б дабіцца мэты, не маглі-б рушыць уперад ні на крок» *).

Гэтыя геніяльныя словы вялікага Сталіна поўнасцю адносяцца і да выканання плана другой пяцігодкі.

У сярэдзіне другой пяцігодкі, ва ўмовах перамогі соцыялізма на аснове карэннага палепшання матэрыяльнага становішча рабочых, на аснове адсутнасці эксплаатацыі, на аснове наяўнасці ў нас новай тэхнікі і людзей, здольных стаць на чале тэхнікі і рушыць яе ўперад, даспеў пераход соцыялістычнага спаборніцтва ў яго вышэйшую форму—стаханаўскі рух.

Стаханаўскі рух, як паказаў таварыш Сталін, ламае старыя погляды на тэхніку, старыя тэхнічныя нормы, праектныя магутнасці, вытворчыя планы і патрабуе стварэння больш высокіх тэхнічных норм, праектных магутнасцей, вытворчых планаў. Будучы заклікаaccount зрабіць рэвалюцыю ў нашай прамысловасці, стаханаўскі рух з'яўляецца ў сваёй аснове глыбока рэвалюцыйным і прадстаўляе сабою ўзор той высокай прадукцыйнасці працы, якую можа даць толькі соцыялізм і чаго не можа даць капіталізм. Перакрываючы ў цэлым радзе выпадкаў прадукцыйнасць працы перадавых капіталістычных краін, адкрываючы практычную магчымасць далейшага ўмацавання соцыялізма ў нашай краіне, ператвараючы нашу соцыялістычную радзіму ў найбольш заможную краіну, стаханаўскі рух падрыхтоўвае ўмовы пераходу ад соцыялізма к комунізму.

Стаханаўцы—гэта носьбіты высокай соцыялістычнай культурнасці. Яны праяўляюць пастаянную адданасць у адносінах да сваёй соцыялістычнай радзімы і падаюць выдатныя ўзоры гераізма ў працы. Такавы якасці стаханаўцаў—новых людзей сталінскай эпохі, выхаваных партыяй Леніна—Сталіна, выхаваных вялікім Сталіным.

«Стаханаўцы—гэта «людзі культурныя і тэхнічна падкаваныя, людзі, якія даюць узоры дакладнасці і акуратнасці ў рабоце, умеюць цаніць фактар часу ў рабоце і навучыліся лічыць час не толькі мінутамі, але і секундамі. Большасць з іх прайшла так званы тэхнічны мінімум і працягвае папаўняць сваю тэхнічную адукацыю. Яны свабодны ад консерватызма і застойнасці некаторых інжынераў, тэхнікаў і гаспадарнікаў, яны ідуць смела

*) Сталін, „Пытанні ленінізма", стар. 511, выд. 10.

уперад, ламаючы застарэлыя тэхнічныя нормы і ствараючы новыя, больш высокія... гэта—людзі, якія ў поўнай меры аўладалі тэхнікай сваёй справы і ўмеюць выціскаць з тэхнікі максімум таго, што можна з яе выціснуць. Сёння стаханаўцаў яшчэ мала, але хто можа сумнявацца, што заўтра іх будзе ўдзесяцёра больш? Хіба не ясна, што стаханаўцы з'яўляюцца наватарамі ў нашай прамысловасці, што стаханаўскі рух прадстаўляе будучыню нашай індустрыі, што ён змяшчае ў сабе зерне будучага культурна-тэхнічнага ўздыму рабочага класа, што ён адкрывае нам той шлях, на якім толькі і можна дабіцца тых вышэйшых паказчыкаў прадукцыйнасці працы, якія неабходны для пераходу ад соцыялізма к комунізму і знішчэння процілегласці паміж працай разумовай і працай фізічнай?» *).

З моманту зараджэння стаханаўскага руху прайшло каля трох год. Цалкам збыліся прарочыя словы правадыра народаў таварыша Сталіна аб стаханаўцах: «хто можа сумнявацца, што заўтра іх будзе ўдзесяцёра больш?» За гэты час стаханаўскі рух вырас і распаўсюдзіўся ўшыр і ўглыб. Ён разышоўся па ўсяму твару нашай соцыялістычнай радзімы, з нябачанай хуткасцю ахапіў усе галіны народнай гаспадаркі, зламаў старыя тэхнічныя нормы.

Калі ў час Першай нарады стаханаўцаў (лістапад 1935 г.) у Данбасе былі толькі першыя сотні стаханаўцаў, то цяпер больш 25 тысяч шахцёраў Данбаса сістэматычна даюць па дзве і больш норм выпрацоўкі і сотні тысяч гарнякоў перавыконваюць нормы. На заводзе «Шарикоподшипник» імя Кагановіча ў пачатку 1936 г. стаханаўцаў было ўсяго пара соцень, а цяпер іх ужо больш 5 тысяч. На заводзе «Тизприбор» больш паловы ўсіх рабочых сістэматычна выконвае нормы выпрацоўкі на 150—200 процантаў. На перадавых прадпрыемствах харчовай прамысловасці большасць рабочых перавыконвае новыя нормы выпрацоўкі. Такіх прыкладаў можна прывесці тысячы.

Стаханаўскі рух, які імкліва рухае ўперад развіццё соцыялістычных вытворчых сіл, дазволіў у радзе выпадкаў перавысіць прадукцыйнасць працы перадавых капіталістычных краін. У цэлым радзе выпадкаў лепшыя нашы стаханаўцы перавышаюць сусветныя рэкорды. Даволі ўспомніць фрэзероўшчыка тав. Гудава, які выконвае план на 7—9 тысяч процантаў, тав. Сметаніна і многіх іншых.

У БССР стаханавец тав. Сушко, рамшчык Бабруйскага дрэваапрацоўчага камбіната, на раме сістэмы «Боліндэр» выпрацоўвае 560 кубічных метраў лесасыравіны ў змену, г. зн. перавышае амаль у 4 разы выпрацоўку перадавых прадпрыемстваў на машынах гэтай сістэмы. Стаханавец тав. Скабло на пяцяжнай машыне выпрацоўвае 2.100 пар абутку ў змену, перавышаючы найбольшую норму выпрацоўкі перадавых абутковых прадпрыемстваў Чэхаславакіі, і т. д. і т. п.

Разам з колькасным ростам стаханаўцаў адбывалася якасная змена метадаў стаханаўскай работы: аўладанне ведамі і вопытам, уключэнне ў стаханаўскі рух інжынерна-тэхнічных работнікаў, узначальванне руху правільна зразумеўшымі яго гаспадарнікамі, і т. д. З радоў саміх стаханаўцаў выраслі тысячы здольных гаспадарчых кіраўнікоў. Мно-

[1] **Сталін**, з прамовы на першай нарадзе стаханаўцаў у лістападзе 1935 г.

гія стаханаўцы ўзначалілі адказныя ўчасткі народнай гаспадаркі, сталі кіраўнікамі трэстаў, дарог, дырэктарамі прадпрыемстваў.

Многія стаханаўцы—героі працы—заслужылі ўсенароднае давер'е і абраны дэпутатамі Вярхоўных Советаў СССР, саюзных і аўтаномных рэспублік. У разгортванні стаханаўскага руху адлюстроўваецца найвялікшы клопат нашай партыі і правадыра народаў таварыша Сталіна аб соцыялістычным перавыхаванні людзей нашай радзімы, аб імклівым уздыме соцыялістычнай культурнасці ў рабочым класе і калгасным сялянстве, аб развіцці і ўмацаванні правіл соцыялістычнага агульнажыцця, комуністычнай маралі. Праца ў нас становіцца не толькі сродкам да існавання, а першай і натуральнай патрэбнасцю, якая дастаўляе радасць працоўнаму чалавеку.

Далейшае развіццё стаханаўскага руху з яго высокай прадукцыйнасцю працы стварае новыя магчымасці для яшчэ больш хуткага ўздыму культурнага ўзроўню і добрабыту мас, для соцыялістычнага перавыхоўвання мас у нябачаных раней маштабах, што адкрывае перад намі перспектывы яшчэ больш шчаслівага жыцця. Таму далейшае ўсямернае развіццё стаханаўскага руху, умацаванне соцыялістычнай дысцыпліны працы, барацьба з парушальнікамі і дэзарганізатарамі яе, барацьба з ворагамі, якія тармозяць стаханаўскі рух, з'яўляецца важнейшым абавязкам кожнага свядомага грамадзяніна СССР, рашучым фактарам развіцця і ўмацавання норм соцыялістычнага агульнажыцця, комуністычнай маралі. Справа чэсці партыйных і непартыйных большэвікоў—на прыкладзе работы за станком, у калгасе, установе і т. д. выхоўваць соцыялістычныя навыкі ў працы.

У адрозненне ад буржуазнай маралі, якая выхоўвае людзей у духу індывідуалізма, па прынцыпу «кожны за сябе», наша соцыялістычная мараль выхоўвае людзей у духу калектывізма, па прынцыпу «усе за аднаго і адзін за ўсіх». Соцыялістычная мараль вучыць свядомым адносінам да абавязкаў грамадзяніна, адданасці справе Леніна—Сталіна, справе комунізма. Совецкі народ з найвялікшай радасцю і гонарам выконвае свой доўг па ахове і абароне граніц Совецкага Саюза.

Наша слаўная Чырвоная Армія, нашы пагранічнікі, якія з дня ў дзень зорка ахоўваюць сваю соцыялістычную радзіму, абкружаны выключнай любоўю і падтрыманнем усяго совецкага народа. Гэту любоў добра выказаў калгаснік з сяла Сакоўе Іван Герасімавіч Форсік:

> «Сяло наша—пагранічнае, але мы даўно ўжо перасталі баяцца, што да нас могуць перайсці бандыты. Мы ўпэўнены ў сваіх пагранічніках. Яны не дадуць ворагу пранікнуць на нашу зямлю!
>
> Пагранічнікі—гэта нашы вочы і абарона. Днём і ноччу, у дождж і буру, сцюжу і завею—заўсёды яны на сваім пасту. Ідзеш іншы раз зімою ў такі мароз, што дрэвы трашчаць, а пагранічнік стаіць—не зварухнецца, беражэ нашу працу. Глядзіш на яго, і на душы цёпла робіцца.
>
> Пагранічнікі не толькі добра ахоўваюць, але і да нас у калгас часта дапамагаць прыходзяць. Яны—нашы жаданыя, дарагія госці. За дабрату і душэўнасць, за тое, што ласкавы да нас, як сыны, за тое, што бясстрашны і бязлітасны да ворага, мы іх любім. Наша граніца замкнута на тысячы замкоў, і калі толькі хто пасмее сунуцца да нас, я сам і ўсе калгаснікі ўстанем разам з пагранічнікамі НКВД і раздушым ворагаў, як чарвякоў».

Наша совецкая рэчаіснасць багата фактамі, калі, поўныя пачуцця высокага патрыятызма, пагранічныя калгаснікі, іх дзеці актыўна дапамагаюць затрымліваць шпіёнаў і дыверсантаў, якіх засылаюць да нас капіталістычныя краіны. Кожны дзень прыносіць нам шматлікія довады высокага патрыятызма совецкіх людзей, іх бязмежнай любві і адданасці радзіме, комуністычнай партыі, правадыру і натхніцелю перамог соцыялізма—таварышу Сталіну.

Совецкі народ ні на мінуту не забывае аб капіталістычным акружэнні, аб неабходнасці быць у мабілізацыйнай гатоўнасці. Гневам і абурэннем сустрэлі працоўныя СССР паведамленне аб бандыцкіх выхадках японскіх самураяў на Далёкім Усходзе. На шматлікіх мітынгах, якія прайшлі па ўсёй краіне, працоўныя аднадушна заяўлялі аб сваёй мабілізацыйнай гатоўнасці, аб несакрушальнай сіле, аб жаданні абараняць недатыкальнасць свяшчэнных граніц соцыялізма. Рабочыя, работніцы, інжынеры і служачыя Трохгорнай мануфактуры імя Дзержынскага напісалі ў сваёй рэзалюцыі:

«Няхай ведаюць фашысты, што ім не паздаровіцца, калі яны нападуць на нас. Таму што за неперaможнай Чырвонай Арміяй на абарону сваёй цудоўнай радзімы ўзнімецца ўвесь наш народ. Няхай усе фашысцкія падпальшчыкі вайны ўлічаць урок, які атрымалі японскія захватчыкі ад нашых пагранічнікаў і байцоў Чырвонасцяжнага Далёкаўсходнята фронта».

Гэта голас усяго магутнага совецкага народа, згуртаванага пад вялікім неперaможным сцягам партыі Леніна—Сталіна. Далейшае ўсямернае выхаванне грамадзян у духу выканання свайго доўгу па ахове і абароне граніц СССР—адно з асноўных правіл соцыялістычнага агульнажыцця. Справа чэсці партыйных і непартыйных большэвікоў, кожнага працоўнага нашай краіны—берагчы нашу соцыялістычную радзіму ад пранікнення шпіёнаў, шкоднікаў, дыверсантаў, забойцаў.

Адзін з асноўных прынцыпаў комуністычнай маралі—усямерны клопат аб магутнасці доблеснай Чырвонай Арміі, якая з'яўляецца аплотам мірнай працы, заможнага і культурнага жыцця совецкага народа. І гэты прынцып глыбока пранік у свядомасць совецкага народа. Таварыш Сталін гаворыць:

> «Нідзе ў свеце няма такіх любоўных і клапатлівых адносін з боку народу да арміі, як у нас. У нас армію любяць, яе паважаюць, аб ёй клапоцяцца. Чаму? Таму, што ўпершыню ў свеце рабочыя і сяляне стварылі сваю ўласную армію, якая служыць не гаспадарам, а былым рабам, цяпер вызваленым рабочым і сялянам».

Выражаючы сваё глыбокае абурэнне па поваду правакацыйнага пранікнення японскіх захватчыкаў на совецкую тэрыторыю, рабочыя і работніцы Петразаводскай лыжнай фабрыкі напісалі ў сваёй рэзалюцыі:

> «... Мы запэўніваем партыю, урад і любімага правадыра і друга працоўных таварыша Сталіна, што будзем усімі сіламі ўмацоўваць Чырвоную Армію, Чырвоны Флот, Чырвоную Авіяцыю, Асоавіяхім, каб фашысцкім зладзеям непавадна было соваць сваё свіное рыла ў наш совецкі агарод».

Свяшчэнны абавязак кожнага грамадзяніна СССР—далейшае ўсямернае падтрыманне Чырвонай Арміі, якая ахоўвае нашу соцыялістычную дзяржаву супроць нападу на яе капіталістычных, фашысцкіх драпежнікаў.

Абавязковай умовай аховы і ўмацавання правіл соцыялістычнага агульнажыцця, комуністычнай маралі з'яўляецца выхаванне працоўных у духу найстражэйшага захавання вялікай Сталінскай Канстытуцыі, якая з'яўляецца вынікам перамогі соцыялізма, магутным рэволюцыянізуючым фактарам у справе заваявання новых перамог комунізма. Неабходна выхоўваць працоўных у духу павагі да законаў соцыялістычнай дзяржавы, якія, выражаючы волю працоўных мас, абараняючы ўгодныя і выгадныя совецкаму народу парадкі з'яўляюцца магутным сродкам умацавання і развіцця соцыялістычнага ладу.

Адным з асноўных правіл соцыялістычнага агульнажыцця, адным з важнейшых прынцыпаў комуністычнай маралі з'яўляецца максімальнае ўмацаванне дзяржавы дыктатуры рабочага класа, «неабходнае для таго, каб дабіць рэшткі паміраючых класаў і арганізаваць абарону супроць капіталістычнага акружэння, якое далёка яшчэ не знішчана і не хутка яшчэ будзе знішчана» *).

Выхаванне труженікаў соцыялістычнага грамадства ў ленінска-сталінскім духу, г. зн., каб яны былі яснымі, пэўнымі, бясстрашнымі ў баі, бязлітаснымі да ворагаў, свабоднымі ад усякага падабенства панікі ў мінуту небяспекі, мудрымі пры вырашэнні пытанняў, праўдзівымі, чэснымі, беззаветна любячымі свой народ, сваю соцыялістычную радзіму, з'яўляецца рашаючай умовай умацавання і развіцця правіл соцыялістычнага агульнажыцця і комуністычнай маралі.

Барацьба за высокае ідэйнае і маральнае аблічча працоўнага, бязлітаснае выкарчоўванне элементаў бытавога разлажэння, як п'янства, распуста, маральная нячэснасць, цынізм, хуліганства і іншыя адрыжкі капіталістычнага свінства, што захаваліся яшчэ сярод часткі людзей, з'яўляецца важнейшай палітычнай справай, састаўной часткай барацьбы за справу комунізма, за ўмацаванне комуністычнай маралі. Трэба мець на ўвазе, што ворагі народа будуць і ў далейшым імкнуцца ўносіць бытавое разлажэнне, каб уцягнуць малаўстойлівых людзей у свае гнусныя, каварныя, фашысцкія справы.

Па пытанню аб комуністычнай маралі Ленін гаварыў:

> «Ці існуе комуністычная мараль? Вядома, так... У аснове комуністычнай маралі ляжыць барацьба за ўмацаванне і завяршэнне комунізма» **).

Само сабою зразумела, што барацьба за захаванне комуністычнай маралі, правіл соцыялістычнага агульнажыцця набывае выключнае значэнне, бо гэта ёсць барацьба за «умацаванне і завяршэнне комунізма».

Нязмерны нашы перамогі ва ўсіх галінах. Велізарная работа партыі, пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна, па выхаванню працоўных, па стварэнню соцыялістычнага грамадства дала свае вынікі. Соцыялізм, правілы соцыялістычнага агульнажыцця, комуністычная мараль глыбока ўвайшлі ў штодзеннае жыццё, у быт совецкага народа. Яркі

*) **Сталін**, „Пытанні ленінізма", стар. 509.
**) **Ленін**, Творы, т. XXV, стар. 390 і 394.

таму довад—выдатная перамога сталінскага блока комуністаў і беспартыйных на выбарах у Вярхоўны Совет СССР і Вярхоўныя Советы саюзных і аўтаномных рэспублік, што з'яўляецца выражэннем высокага палітычнага і маральнага адзінства совецкага народа.

Не гледзячы на тое, што матэрыяльныя ўмовы жыцця ўжо сталі ў нас соцыялістычнымі, усё-ж перажыткі капіталізма ў свядомасці значнай часткі людзей прадаўжаюць яшчэ праяўляцца ў розных формах. Бесклапотныя, а часам рвацкія адносіны да грамадскай уласнасці, імкненне ўрваць пабольш, паставіць свае асабістыя інтарэсы вышэй інтарэсаў совецкай дзяржавы, шкурніцтва, ашуканства, спекуляцыя, грубыя адносіны да жанчыны і дзяцей, розныя хуліганскія выхадкі ў адносінах да акружаючых і т. п.—усё гэта «радзімыя плямы» капіталізма, якія павінны быць знішчаны.

Таварыш Сталін, гаворачы на XVII з'ездзе партыі аб перажытках капіталізма ў свядомасці людзей, адзначыў:

> «Нельга сказаць, што мы перамаглі перажыткі капіталізма ў свядомасці людзей. Нельга гэтага сказаць не толькі таму, што свядомасць людзей у яе развіцці адстае ад іх эканамічнага становішча, але і таму, што ўсё яшчэ існуе капіталістычнае акружэнне, якое стараецца ажыўляць і падтрымліваць перажыткі капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей у СССР і супроць якога мы, большэвікі—павінны ўвесь час трымаць порах сухім» *).

Вось чаму барацьба за пераадоленне перажыткаў капіталізма ў свядомасці людзей, за ўмацаванне і развіццё правіл соцыялістычнага агульнажыцця, комуністычнай маралі з'яўляецца адной з нашых важнейшых задач.

---

*) Сталін, „Пытанні ленінізма", стар. 580.

Г. Мараў

# Германскі фашызм—падпальшчык новай сусветнай вайны

Германскі фашызм з першага-ж дня прыходу да ўлады падначаліў падрыхтоўцы да вайны ўсе правадзімыя ім палітычныя, соцыяльныя і эканамічныя мерапрыемствы. Перадаючы Гітлеру ўладу, рэакцыйныя колы германскага імперыялізма паставілі перад ім дзве задачы: падаўленне ўсякага супраціўлення рабочага класа і разгром рабочых арганізацый, па-першае, і ўсямерная падрыхтоўка сусветнай вайны для новага перадзелу свету, па-другое. Авантурыстычныя планы германскага фашызма вельмі шырокі. Яны разлічаны на ўстанаўленне панавання фашысцкай Германіі ва ўсёй Еўропе. Мэтай германскага фашызма з'яўляецца нізвядзенне Францыі да ролі трэцеступеннай дзяржавы, раздзел Чэхаславакіі, устанаўленне германскага панавання ў Паўднёва-Ўсходняй Еўропе, Польшчы, Прыбалтыцы і Скандынавіі і падрыхтоўка такім чынам плацдарма для нападу на Совецкі Саюз з мэтай адтаржэння багацейшых частак совецкай тэрыторыі—Сов. Украіны, Данбаса, Каўказа, Закаўказзя і нават Сярэдне-Азіяцкіх рэспублік. Германскі фашызм таксама выступае з патрабаваннямі новага перадзелу каланіяльнага свету.

Такім чынам, планы германскага фашызма пакідаюць далёка ззаду нават брэдавую захватніцкую праграму імперыялістычнай Германіі часу Вільгельма II, пацярпеўшую крах у выніку ваеннага разгрому Германіі.

Імкнучыся поўнасцю развязаць рукі для захватніцкіх ваенных авантур, Германія, як і Японія, а затым і Італія, вышла з Лігі нацый. Аднаўленне ўсеагульнай вайсковай павіннасці і падоўжанне тэрміну службы ў германскай арміі з аднаго года да двух год паказала яшчэ больш выразна агульны курс палітыкі германскага фашызма на ўсямернае развязванне вайны.

7 сакавіка 1936 года Германія ўводзіць войскі ў Рэйнскую дэмілітарызаваную зону і гэтым разрывае Лакарнскі дагавор, заключаны ў 1925 годзе паміж Германіяй і Заходне-Еўрапейскімі дзяржавамі, з мэтай устанаўлення статус-кво (існуючага становішча) у гэтым сектары Еўропы.

Побач з гэтым, германскі фашызм пасля атрымання ўлады з ліхаманкавай паспешнасцю шукае саюзнікаў сярод фашысцкіх дзяржаў, стараючыся скалаціць агрэсіўны блок дзяржаў пад сваім кіраўніцтвам. Пошукі саюзнікаў германскі фашызм праводзіць пад флагам дзікай антысовецкай кампаніі. Часова адсоўваючы вырашэнне супя-

рэчнасцей паміж Германіяй і іншымі фашысцкімі краінамі, германскі фашызм заключае ў 1934 годзе пагадненне з Польшчай, устанаўляе цесны кантакт з фашысцкай Італіяй, вядомы пад назвай «асі Рым—Берлін». 25 лістапада 1936 года Германія падпісвае праславуты «антыкомінтэрнаўскі пакт» з імперыялістычнай ваенна-феадальнай Японіяй, да якога праз год далучаецца і фашысцкая Італія. Гэты берлінскі пакт з'яўляецца ваенным саюзам трох фашысцкіх краін: Германіі, Японіі і Італіі, у якім германскі фашызм адыгрывае кіруючую ролю. Дэкларацыйнымі заявамі аб «комуністычнай небяспецы», аб «выратаванні цывілізацыі ад большэвізма» фашысцкія агрэсары прабуюць замаскаваць свае захватніцкія планы ў адносінах Совецкага Саюза, Кітая, Англіі, ЗША, Францыі і цэлага раду дробных краін.

Адкрыта парушаючы мір у Еўропе, Гітлер разам са сваім прыяцелем па «асі» Мусаліні арганізуюць фашысцкі мяцеж у Іспаніі і вось ужо на працягу двух год вядуць вайну з гераічным іспанскім народам. Бяссільныя зламаць упартае супраціўленне рэспубліканскіх войск, фашысцкія інтэрвенты тысячамі знішчаюць мірнае насельніцтва, жанчын і дзяцей рэспубліканскай Іспаніі з паветра, сушы і мора.

Пакінуты так званымі буржуазна-дэмакратычнымі краінамі іспанскі народ, гераічна абараняючы дэмакратычную рэспубліку і сваю незалежнасць, абараняе «справу ўсяго перадавога і прагрэсіўнага чалавецтва» (Сталін).

20 лютага гэтага года Гітлер, выступаючы ў германскім рэйхстагу, які ва многім напамінае звычайнае зборышча штурмавікоў, заявіў аб поўным падтрыманні свайго незадачлівага японскага саюзніка па агрэсіі. Германскі фашызм, зацікаўлены ў любых канфліктах і ўскладненнях, у якіх-бы кутках свету яны ні адбываліся, абяцаў японскаму імперыялізму сваю дапамогу ў барацьбе супроць гераічнага 450-мільённага кітайскага народа.

Карыстаючыся папушчэнствам з боку Францыі і заручыўшыся падтрымкай рэакцыйнага ўрада Англіі, стаўшага на шлях зговару з агрэсарамі, германскі фашызм у сакавіку гэтага года ажыццявіў сваё даўнішняе імкненне—акупіраваў Аўстрыю. Самастойная і незалежная краіна ў Цэнтральнай Еўропе ператворана германскім фашызмам у канцэнтрацыйны лагер.

Кіраўнікі цяперашняй Германіі адкрыта заяўляюць, што яны разглядаюць захват Аўстрыі толькі як этап па шляху далейшай агрэсіі германскага фашызма ў Цэнтральнай і Паўднёва-Усходняй Еўропе. Гаспадарчы дыктатар Германіі Герынг у адной са сваіх прамоў у Вене заявіў, што «Аўстрыя з'яўляецца для Германіі адчыненымі дзвярмі на ўсход і паўднёвы ўсход Еўропы».

Майскае спатканне двух фашысцкіх дыктатараў у Рыме закончылася, як вядома, раздзелам Цэнтральнай і Паўднёва-Ўсходняй Еўропы на «сферы ўплыву». Мусаліні, які выпусціў з рук аўстрыйскі козыр і пасля гэтага заняў яўна залежнае становішча ў праславутай «асі Рым—Берлін», «шчодрай» рукою прадаставіў свабоду дзеянняў Гітлеру ў Чэхаславакіі. З гэтага моманту асабліва ўзмацнілася канцэнтрацыя германскіх войск на чэхаславацкай граніцы. Борзапісцы з ведамства Гебельса, атрымаўшы загад звыш, адкрылі кампанію цынічнага цкавання чэхаславацкага ўрада і паклёпу на чэхаславацкі народ. Прыметна ажывілася і генлейнаўская партыя—

адкрытая агентура германскага фашызма ў Чэхаславакіі, імкнучыся ўзарваць рэспубліку знутры. Польская і венгерская ўрадавая прэса, чэрпаючы інфармацыі з гебелеўскіх крыніц і стараючыся не адстаць ад свайго гаспадара, адкрыта заклікае да сумеснага выступлення трох краін супроць Чэхаславакіі. Вядома, што Гітлер рыхтаваў у 20-х чыслах мая напад на Чэхаславакію па аўстрыйскаму ўзору. Рашымасць чэхаславацкага народа абараняць сваю незалежнасць і цвёрдая пазіцыя ўрада, якая выразілася ў правядзенні раду абаронных мерапрыемстваў, прымусіла адступіць на час абнаглеўшага агрэсара.

Пагроза нападу на Чэхаславакію не знята. Палітыка зговару з фашысцкімі краінамі, якая праводзіцца Англіяй, і ў даным выпадку акрыляе Гітлера на новы разбойнічы акт.

Прыбыўшы ў Прагу са спецыяльным даручэннем Чэмберлена, былы англійскі міністр гандлю буйны банкір і суднаўладальнік лорд Рэнсімен сваю місію бачыць у тым, каб штурхаць Чэхаславакію ў адчыненую пастку германскага фашызма і цаною страты незалежнасці Чэхаславацкай дзяржавы дабіцца зблізкэння з гітлераўскай Германіяй.

Раздзіраемы ўнутранымі супярэчнасцямі германскі фашызм шукае выхаду ў знешнепалітычных авантурах. Металамі шантажу і правакацый фашысцкая Германія ўсяляк імкнецца выклікаць ваенны пажар у Еўропе.

У сучасны момант уся Германія знаходзіцца пад уражаннем ваенных манеўраў, якія праводзяцца ў краіне, напамінаючы самую сапраўдную мабілізацыю. Урад прызваў 750 тысяч рэзервістаў у армію. Ні адзін немец ва ўзросце да 65 год не мае права выехаць з межаў Германіі. Медычны персанал—урачы, сёстры—атрымаў прадпісанне быць напагатове, каб у любы момант па выкліку з'явіцца ў часці. У буйных гарадах амаль спынен аўтобусны рух, паколькі большасць аўтобусаў, роўна як і грузавых аўтамабіляў, перадана ваенным уладам. Адменены водпускі чыгуначным служачым. Па ўсіх чыгунках Германіі ідуць паязды, перапоўненыя ваеннымі. У вёсках расквартароўваюцца войскі, праводзяцца рэквізіцыі харчавання.

Уся абстаноўка ў краіне такая, нібы Германія ўжо ваюе, а не проста праводзіць «звычайныя» манеўры, як аб гэтым заяўляе фашысцкі друк

Не падлягае сумненню, што ваенныя падрыхтаванні, якія праводзіць Германія, маюць дваякую мэту. З аднаго боку, яны разлічаны на тое, каб зрабіць уражанне на заходне-еўрапейскія дзяржавы і прымусіць іх беспярэчна выконваць наглыя патрабаванні германскага фашызма. З другога боку, яны непасрэдна накіраваны супроць Чэхаславакіі, якой германскі фашызм у сваіх агрэсіўных планах адводзіць такое пачэснае месца. Звычайна добра асведамлёная аб намерах германскага фашызма газета англійскіх кансерватараў «Таймс» гэтымі днямі пісала: «У нацыянал-соцыялістычных колах мяркуюць, што падобная мабілізацыя пераканае Чэхаславакію, а ў асаблівасці Англію, што Германія гатова дзейнічаць рашуча».

Выступаючы натхняльнікам новай сусветнай бойні, фашызм ужо зараз давёў Германію да поўнага эканамічнага расстройства і голаду. Ваенныя расходы Германіі, якія ў 1933 годзе вылічваліся ў 3 мільярды марак, складуць на 1938 год крутлую суму ў 18 мільярдаў. Унутраная запазычанасць Германіі перавысіла 40 мільярдаў марак.

За апошнія гады рэзка павялічыўся ўвоз у краіну з-за граніцы нафты, жалезнай руды, каляровых металаў, сернага калчадана, каўчуку, адыходаў бавоўны—усё гэта для патрэб ваенных заводаў. Ніколі Германія не імпартавала такой вялікай колькасці ваенна-стратэгічнай сыравіны, як цяпер. І ў той-жа час яшчэ ні разу за апошнія 15 год не перажывала такога голаду па гэтых-жа відах сыравіны, як зараз. Гэта здзіўляючая на першы погляд з'ява лёгка тлумачыцца тым, што 70 проц. прадукцыі германскай прамысловасці прызначана для патрэб вайны. Галіны-ж прамысловасці, якая вытварае прадметы шырокага спажывання, літаральна задыхаюцца ад адсутнасці неабходнай сыравіны.

Самахвальныя заявы кіраўнікоў цяперашняй Германіі аб «сыравіннай незалежнасці» рашуча абвергнуты рэчаіснасцю. У вытворчасці ўласнай сыравіны Германія не дабілася колькі-небудзь прыметных рэзультатаў. Ні па жалезу, ні па каляровых металах шырока рэкламаваныя замяніцелі не знойдзены; праваліўся і чарговы блеф фашызма—стварэнне «імперскіх заводаў Германа Герынга» для эксплаатацыі айчыннай руды ў Баварыі і Гановеры. Германія працягвае па рудзе заставацца ў моцнай залежнасці ад раду краін. Спробы Герынга ліквідаваць гэту залежнасць пагражаюць поўным збядненнем і без таго мізэрных германскіх рудных запасаў.

Марныя спробы фашызма вызваліцца ад імпарту і іншых відаў сыравіны вельмі дорага абыходзяцца германскаму народу. Нерацыянальнае выкарыстанне ўвазімай і айчыннай сыравіны, з аднаго боку, вытворчасць дарагіх і мала прадукцыйных штучных замяніцеляў,—з другога, трасуць у ліхаманцы і спусташаюць народную гаспадарку Германіі.

Так, напрыклад, штучны каўчук, які вытвараецца ў Германіі, амаль у 10 раз каштуе даражэй, чым натуральны. Літр штучнага бензіна абыходзіцца ў 22 пфенінгі, тады як цана ўвознага не перавышае 6 пфенінгаў. Бавоўна на сусветным рынку каштуе 90 пфенінгаў кілограм, а замяніцель бавоўны «цэльволле» прадаецца ў Германіі па цане ў 2 маркі.

Кіраўнікі фашызма тлумачаць сваё імкненне дабіцца незалежнасці ў сыравінным пытанні немагчымасцю закупіць неабходныя матэрыялы на знешнім рынку. Гэта, з дазволу кажучы, «тэорыя» выдумана выключна для ўнутранага ўжытку з мэтай самага бессаромнага абману мас. Шалёная ваенізацыя гаспадаркі Германіі і імкненне стварыць значныя рэзервы на перыяд вайны з'яўляюцца сапраўднымі прычынамі сыравінных цяжкасцей краіны.

Германія, якая ўвазіла да прыходу Гітлера да ўлады каля 25 проц. хлеба, мяса, малочных вырабаў і звыш 50 проц. тлушчаў ад агульнай патрэбнасці краіны ў гэтых прадуктах, у апошнія гады звяла да мінімуму гэты ўвоз. Фашызм аслабаняў такім шляхам неабходныя сродкі для закупкі за граніцай ваенна-стратэгічнай сыравіны. Праўда, за апошні час Германія ўзмоцнена імпартуе зярно. Адбываецца павелічэнне ўвозу хлеба, што ні ў якім разе не мае мэтай забяспечыць павышэнне спажывання насельніцтва, а ставіць задачу стварэння значных запасаў хлеба на выпадак вайны.

Вальтэр Дарэ—міністр харчавання і сельскай гаспадаркі «Трэцяй імперыі» не так даўно пісаў у адной са сваіх кніг: «Вайна паказала нам, што ўстойлівасць народа яшчэ ў большай ступені можа быць

падарвана харчовымі цяжкасцямі, чым ваеннымі дзеяннямі». Той-жа Дарэ для абгрунтавання праславутай тэорыі «харчовай аўтаркіі» у брашуры «Нацыянал-соцыялісцкая аграрная палітыка» даказваў, што «на працягу аднаго года можна было-б забяспечыць харчаванне германскага народа прадуктамі сваёй уласнай зямлі». Для вырашэння гэтай задачы германскія фашысты абяцалі ліквідаваць буйныя маёнткі, перадаць зямлю сялянам, забараніць арэнду зямлі, скараціць падатковы цяжар і т. д.

Ні адно з гэтых абяцанняў германскія фашысты за пяць год прабывання ва ўладзе не выканалі. Усе гэтыя абяцанні былі суцэльнай грубай дэмагогіяй, разлічанай выключна на абман народных мас. Соцыяльная структура германскай сельскай гаспадаркі застаецца без змены і не дазваляе пашырыць колькі-небудзь прыметна вытворчасць харчавання ў краіне.

Абмежаванне ў харчовым імпарце сказваецца і ў зніжэнні ўвозу харчовых кармоў. Але тут фашызм, акрамя аслабанення сродкаў на пакупку сыравіны для вайны, праследаваў і другую мэту: забяспечыць на ўнутраным рынку высокія цэны на кармы, у чым былі зацікаўлены нямецкія памешчыкі. Калі ў 1932 годзе было ўвезена 3,7 мільёна тон харчовых кармоў, то ў 1937 годзе ўвоз складаў толькі 0,3 мільёна тон і выклікаў значнае скарачэнне пагалоўя жывёлы. Недахоп кармоў, а таксама замена іх часта не заўсёды карыснымі для жывёлы сурагатамі прыводзіць да сістэматычнага падзежу і захворвання жывёлы. Няма ніякага сумнення ў тым, што іменна гэта акалічнасць з'яўляецца адною з умоў развіцця яшчура ў Германіі, які знішчыў ужо больш 200 тысяч галоў жывёлы і ўсё больш ды больш пашырае свой згубны ўплыў.

Бясспрэчна, што Германія знаходзіцца напярэдадні вострага мяснога голаду. Ужо зараз адчуваецца недахоп мяса ў краіне. Тым не менш у вялікім хаду ў Германіі «тэорыя» аб скарачэнні пагалоўя свіней на 40 проц. Аўтары гэтай дзікай «тэорыі» лічаць, што мяса можна будзе захаваць на перыяд вайны ў закансерваваным выглядзе, а кармы (вотрубі, знятае малако і т. д.) аслабаніць на харчаванне людзей. Цікава, што гэты брэд «тэарэтыкаў» германскага міністэрства харчавання ператвараецца ўжо ў жыццё, паколькі свіное пагалоўе скарацілася ў 1937 годзе на 11,5 проц. супроць 1936 года.

Рэзка пагоршылася харчаванне асноўных мас германскага народа, знізілася спажыванне хлеба, мяса, тлушчаў, яек.

У пачатку 1938 года міністэрствам харчавання быў выпушчан спецыяльны цыркуляр, які прапанаваў насельніцтву харчавацца галоўным чынам бульбай, бручкай, аўсянкай, гарохам, штучным мёдам і т. д., раслінныя-ж маслы, тлушчы, свініна і т. д. занесены ў рубрыку прадуктаў, спажыванне якіх падлягае далейшаму абмежаванню.

Нядаўна ў Дрэздзене адкрылася гігіенічная выстаўка, прысвечаная праблеме вырошчвання здаровага чалавека. На гэтай выстаўцы фашысцкія мракабесы з міністэрства Гебельса з дапамогай «гігіены харчавання» і розных «экспанатаў» з вучоным выглядам даказвалі шкоду празмернага спажывання белага хлеба, мяса і наогул прадуктаў... чужаземнай вытворчасці.

Фашысцкі рэжым ускладніў соцыяльныя супярэчнасці сучаснай Германіі. У краіне фактычна налічваецца звыш 2-х мільёнаў беспрацоўных. Але і працуючым фашызм не можа забяспечыць зноснага

існавання. Нават «Ангрыф» вымушан прызнаць, што «з 32-х мільёнаў самадзейнага насельніцтва Германіі, 12 мільёнаў чалавек зарабляюць менш ста марак у месяц». Як правіла, каля 30 проц. з гэтай мізэрнай зарплаты адлічваецца на featuring разнастайныя ўтрыманні. Кіраўнікі сучаснай Германіі ў сваіх прамовах адкрыта патрабуюць узмацнення эксплаатацыі рабочага класа. Герынг, выступаючы ў Эсене, заявіў: «Рынак і харчовае становішча краіны патрабуюць таго, каб рабочыя вытваралі больш, а зарплата засталася-б на ранейшым узроўні». Не так даўно «Фелькішэр Беобахтэр» са здавальненнем пісала, што «працягласць рабочага часу ў прамысловасці за 1937 г. павялічылася супроць 1936 г. на 20 проц.»

Рабаўнічая палітыка фашызма ў адносінах рабочага класа асабліва паказальна на прыкладзе з узносамі для страхавання ад беспрацоўя. «Узносы гэтыя вельмі вялікія, вышэй, чым у гады крызісу», адзначае газета «Дэйчэ Фольксцэйтунг». «Калі сума адлічэнняў на беспрацоўе ў 1932—33 гг. складала 992 мільёны марак, то ў 1936—37 гг. яна ўзрасла да 1539 мільёнаў марак. У 1932—33 гг. было затрачана на дапамогу беспрацоўным 3150 мільёнаў марак, а ў 1936—37 гг. толькі 700 мільёнаў марак». Такім чынам застаецца ў 1936—37 гг. нявыкарыстаных звыш 800 мільёнаў марак. Гэты фонд ідзе на ваенныя патрэбы. Так пад выглядам адлічэнняў на беспрацоўе фашызм грабіць рабочых.

Умовы работы на прадпрыемствах рэзка пагоршыліся. Паводле даных «Дэйчэ Фольксцэйтунг», на адной шахце ў Германіі за 9 месяцаў 1937 г. было адзначана 3884 розных няшчасных выпадкаў. На гэтай шахце занята ўсяго толькі 2230 рабочых. Такім чынам на кожнага рабочага прыпадае ў сярэднім крыху менш двух няшчасных выпадкаў.

У выключна цяжкіх умовах знаходзяцца сельскагаспадарчыя рабочыя ў Германіі. Адзін з адказных чыноўнікаў міністэрства харчавання і сельскай гаспадаркі апублікаваў справаздачу, у якой вымушан быў указаць, што сельскагаспадарчы рабочы атрымлівае 23 пфенінгі за гадзіну і працуе 300 гадзін у месяц.

Орган Гебельса «Ангрыф» у адным са сваіх нумароў прызнаваў, што рабочыя «жывуць у такіх умовах, якія непрыемлемы нават для жывёлы».

Становішча сялянскай гаспадаркі ў фашысцкай Германіі рэзка пагоршылася. На падставе спецыяльных законаў фашысцкага ўрада селянін абавязан здаваць па цвёрдых цэнах увесь хлеб, малако, яйкі і т. д., пакідаючы сабе з гэтых прадуктаў толькі галодную норму. Звыш 1 мільёна га зямлі адабрана ў сялян фашысцкімі ўладамі для мэт ваеннага будаўніцтва. Даходы сялянства за апошняе пяцігоддзе знізіліся больш чым на 35 проц. У той-жа час даходы германскіх памешчыкаў за перыяд прабывання фашызма ва ўладзе каласальна ўзраслі. Так, калі ў 1932-33 г. яны выразіліся ў 6,4 мільярда марак, то ў 1936-37 г. яны склалі 8,9 мільярда марак, што дае павелічэнне на 39 процантаў. Гэтыя даныя можна западозрыць толькі ў перамяншэнні, паколькі ўзяты яны з афіцыяльных матэрыялаў фашысцкай статыстыкі.

Вельмі паказальна, што селянін у Германіі вымушан плаціць 15 проц. за ссуды, у той час, як для памешчыка норма ссуднага проціанта ўстаноўлена ўсяго толькі ў 4,5 проц. Фашызм замест абяца-

нага вызвалення сялянства ад «процантнага рабства» прадае за даўгі землі і маемасць немаемных сялян-даўжнікоў у прымусовым парадку з таргоў. Пры гэтым тэмпы продажу сялянскіх гаспадарак з малатка ўзмацняюцца. Як паведамляе антыфашысцкі журнал «Дзі нэйе Вэльтбюнэ», у 1934 годзе было прадана з малатка 1009 гаспадарак, а за адну толькі першую палову 1936 года было прадана 10018 гаспадарак і звыш 4000 сялянскіх гаспадарак былі на чарзе да продажу. У 1937 і 1938 гадах продаж сялянскіх гаспадарак з малатка і адстараненне сялян ад кіравання сваёй гаспадаркай набылі масавыя размеры. Аб гэтым сведчаць безупынныя працэсы над сялянамі, што ўтвараюцца фашыстамі па ўсёй Германіі. У апошні час міністэрства прапаганды Гебельса забараніла фашысцкай прэсе якую-небудзь публікацыю аб гэтых працэсах, спадзеючыся скрыць гэтым ад германскага народа і сусветнай грамадскай думкі фашысцкае сваявольства, якое творыцца ў германскай вёсцы.

Вельмі плачэўна і становішча дробнай буржуазіі ў горадзе. «Ангрыф» піша, што «больш 25 проц. усіх гандляроў маюць месячны даход не звыш 120 марак». Дробныя гандляры і рамеснікі стогнуць пад цяжарам непамерных падаткаў і разараюцца. На працягу аднаго толькі 1937 года ліквідаваліся 132 тысячы дробных вытворчасцей. Прычына—непасільныя падаткі і адсутнасць сыравіны.

Стварыўшы нязноснае становішча для шырокіх слаёў насельніцтва, фашызм усё часцей сутыкаецца з праявай адкрытай нездаволенасці шырокіх народных мас.

Германскі фашызм з дапамогай самага лютага тэрору і фізічнага знішчэння лепшых прадстаўнікоў германскага народа прабуе ператварыць працоўныя масы ў паслухмяную зброю сваёй агрэсіўнай, рабаўнічай палітыкі.

Мабілізаваны ўсе сродкі, каб даказаць, што германскі народ нібыта падтрымлівае гітлераўскую праграму вайны. Але ваяўнічыя прамовы «фюрэра» і яго памочнікаў, старанні фашысцкіх борзапісцаў, патрыятычныя фільмы і п'есы, незлічоныя ваенныя парады, заклікаными дэманстраваць ваенную магутнасць Германіі, выклікаюць сярод германскіх працоўных пачуцці і настроі, адваротныя тым, якія-б хацелі бачыць фашысты. Германскі народ застаецца непрымірымым праціўнікам гітлераўскай праграмы вайны. Ён добра разумее сапраўдныя прычыны імперыялістычнай бойні 1914—1918 гг. і ўжо адчувае на сваіх плячах увесь цяжар будучай вайны.

Занепакоеныя хісткасцю свайго тылу найбольш экстрэмісцкія элементы германскага фашызма, якія пасля падзей 4-га лютага ўзмацнілі свой уплыў, імкнуцца паскорыць развязванне вайны. У германскага фашызма гарыць глеба пад нагамі, і ён у вайне прабуе знайсці свой уласны ратунак.

Працоўныя масы Германіі дасканала разумеюць гэта. Антыфашысцкая прэса неаднаразова пісала, што «мір для Гітлера смяротны».

Адсюль барацьба за мір і супроць ненавіснага фашызма з'яўляюцца тымі лозунгамі, якія яднаюць шырокія народныя масы Германіі.

Характэрным для антыфашысцкай барацьбы ў Германіі ў апошні час з'яўляецца арганізаванасць выступленняў рабочага класа. Калі да 1937 года ў Германіі наглядалася супраціўленне фашызму ў форме выступленняў паасобных людзей або груп, то цяпер падобныя

выступленні часцяком ахопліваюць поўнасцю прадпрыемствы і нават цэлыя раёны Германіі.

Адкрытае праяўленне ўзрастаючай нездаволенасці сярод рабочага класа ў Германіі і арганізаванасць выступленняў у значнай меры тлумачацца ўзросшай актыўнасцю падпольнай комуністычнай партыі на прадпрыемствах.

На цэлым радзе фабрык і заводаў арганізаваны камітэты адзінства дзеянняў комуністычных, соцыял-дэмакратычных і каталіцкіх рабочых.

Ідэя стварэння адзінага народнага фронта ў Германіі знаходзіць самы жывы водгук сярод рабочых. Соцыял-дэмакратычны рабочы з металургічнага завода Паўночнай Германіі ў сваім пісьме ў рэдакцыю «Дэйчэ Фольксцэйтунг» пісаў: «Ужо два гады існуе ў нас на заводзе камітэт адзінства дзеянняў паміж соцыял-дэмакратамі і комуністамі. Кожнаму з нас ясна, што толькі адзіны фронт барацьбы рабочага класа можа звергнуць гітлераўскую дыктатуру».

Рабочыя суднабудаўнічай верфі ў Гамбургу паведамлялі: «Мы, соцыял-дэмакраты, заключылі з комуністамі саюз і стварылі сталы камітэт адзінага фронта. Камітэт мае ў цэхах рад давераных асоб, якія і праводзяць усю антыфашысцкую работу на нашай верфі».

Такіх прыкладаў антыфашысцкі друк прыводзіць сотні. Але гэта яшчэ далёка не ўсё.

Адзінства дзеянняў рабочага класа ў цэлым радзе буйнейшых прамысловых цэнтраў Германіі вышла за рамкі паасобных прадпрыемстваў і ахоплівае цэлыя гарады.

У пісьме з буйнага горада на Рэйне паведамляецца, што паміж соцыял-дэмакратамі і комуністамі заключана пагадненне аб адзіным фронце барацьбы супроць фашызма. Пісьмо заканчваецца словамі: «У нас агульны вораг—фашызм і агульная мэта барацьбы—дэмакратычная рэспубліка ў Германіі».

З буйнага горада ў Саксоніі пішуць: «У нас ёсць цяпер саюз соцыял-дэмакратаў і комуністаў. Устаноўлена адзінства дзеянняў на большасці прадпрыемстваў горада. Рабочыя нашага горада ўсе без выключэння выказваюцца за адзіны фронт».

З прамысловага горада ў Рэйнска-Вестфальскай вобласці паведамляюць таксама аб адзінстве дзеянняў комуністаў і соцыял-дэмакратаў: «Мы наладжваем сумесныя пасяджэнні, на якіх абмяркоўваем пытанні, звязаныя з распаўсюджваннем сярод насельніцтва праўды аб падзеях у Іспаніі. Тут-жа намячаем і агульныя лозунгі для «прапаганды шэптам».

Камітэты адзінства дзеянняў праводзілі значную работу ў час так званага «плебісцыту» ў Аўстрыі і «выбараў» у рэйхстаг. Уся краіна ў гэтыя дні была наводнена антыфашысцкімі лістоўкамі, складзенымі ў форме лозунгаў.

Сялянства Германіі, абрабаванае фашызмам, са свайго боку ўключаецца актыўна ў барацьбу супроць фашысцкага рэжыму. Яшчэ з восені 1937 года функцыяніруюць у германскай вёсцы сялянскія пасты, якія папярэджваюць прыбліжэнне фашысцкіх чыноўнікаў-кантралёраў. Адзначана, як масавая з'ява, збіенне гэтых кантралёраў сялянамі.

У Германіі ёсць такія сельскія раёны, у якія фашысты не адважваюцца з'яўляцца ў форме, як аб гэтым паведамляе «Дзі нэйе Вэльтбюнэ»

У германскай вёсцы шырока распаўсюджваюцца антыфашысцкія лістоўкі ў форме так званых «сялянскіх пісем». Гэтыя лістоўкі арганізуюць сялянскія выступленні і робяць іх барацьбу палітычна насычанай.

«Дэйчэ Фольксцэйтунг» у нумары ад 15 мая гэтага года паведамляла, што ў адным толькі Гамбургу за апошнія два месяцы арыштавана 150 чалавек з асяроддзя гарадскіх рамеснікаў і інтэлігенцыі. Гэтыя арышты звязаны з фактамі шырокага распаўсюджвання ў горадзе лістовак народнага фронта.

Гэты факт вельмі ярка характарызуе антыфашысцкія настроі сярод гарадской дробнай буржуазіі.

Гераічная компартыя Германіі, не гледзячы на жорсткі тэрор, ва ўмовах глыбокага падполля паспяхова згуртоўвае германскі народ на барацьбу з ненавісным фашызмам.

# КАНСУЛЬТАЦЫЯ

## Дваццацігоддзе комсамола

У гэтым годзе спаўняецца дваццаць год з дня арганізацыі Ўсесаюзнага ленінскага комуністычнага саюза моладзі. Першы з'езд комсамола, які **аформіў** стварэнне комуністычнага саюза моладзі, адбыўся ў Маскве 29 кастрычніка—4 лістапада 1918 года. Перад гэтым з'ездам была праведзена велізарная **арганізацыйная і прапагандысцкая** работа бальшэвіцкай партыі сярод моладзі і далучэнне яе да актыўнай, рэволюцыйнай барацьбы.

Большэвіцкая партыя і яе вялікія правадыры **Ленін** і **Сталін** заўсёды ўдзялялі велізарную ўвагу рэволюцыйнаму выхаванню працоўнай моладзі. Ужо ў перадкастрычніцкія дні **«Правда»** на сваіх старонках вядзе шырокую прапаганду і агітацыю сярод моладзі, абмяркоўваючы пытанні яе арганізацыі. Партыя своечасова разбіла спробы меншавікоў аўладаць рухам моладзі і адцягнуць яе ад палітычнага жыцця краіны.

З дапамогай і па ініцыятыве мясцовых партыйных арганізацый пачынаючы з сакавіка—красавіка 1917 года ствараюцца першыя саюзы рабочай моладзі ў **Ленінградзе** і ў **Маскве.** Колькасць юнацкіх арганізацый хутка расце і ў іншых прамысловых цэнтрах.

VI з'езд партыі, які праходзіў пад непасрэдным кіраўніцтвам таварыша **Сталіна,** нацэліў партыю на ўзброенае паўстанне, на соцыялістычную рэволюцыю. Гэты з'езд вынес рашэнне, якое адыграла велізарную ролю ў стварэнні і развіцці ленінска-сталінскага комсамола. У рэзалюцыі з'езда гаворыцца:

> «Партыя пролетарыята, у сваю чаргу, аддае сабе адказ у тым велізарным значэнні, якое рабочая моладзь мае для рабочага руху ў цэлым.
>
> З'езд лічыць таму неабходным, каб партыйныя арганізацыі на месцах звярнулі самую сур'ёзную ўвагу на справу арганізацыі моладзі... У сучасны момант, калі барацьба рабочага класа пераходзіць у фазу непасрэднай барацьбы за соцыялізм, з'езд лічыць садзейнасць (стварэнню) класавых соцыялістычных арганізацый рабочай моладзі адною з неадкладных задач моманту і ўмяняе партыйным арганізацыям у абавязак удзяліць рабоце гэтай магчымы максімум увагі» *).

На аснове рашэнняў VI з'езда партыі саюзы моладзі яшчэ шырэй разгарнулі сваю работу. Разам з ростам рэволюцыйнага руху ў краіне расла і актыўнасць маладога пакалення рабочых.

---

*) „ВКП(б) у рэзалюцыях". Ч. 1-я, стар. 268.

**В. І. Ленін,** намячаючы план узброенага паўстання ў кастрычніку 1917 года, паставіў такую задачу:

> «Выдзеліць **самыя рашучыя** элементы (нашых «ударнікаў» і **рабочую моладзь,** а роўна лепшых матросаў) у невялікія атрады для заняцця імі ўсіх важнейшых пунктаў і для **ўдзелу** іх усюды, ва ўсіх важных аперацыях...» *).

Гэту задачу рабочая моладзь выканала з чэсцю. У Кастрычніцкую рэволюцыю рады Чырвонай Гвардыі ў значнай меры былі запоўнены маладымі пролетарыямі. Моладзь білася з выключным гераізмам на ўсіх важнейшых участках барацьбы за перамогу соцыялістычнай рэволюцыі.

У асаблівасці шырокі размах рух моладзі набывае пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі. Юнацкія арганізацыі ствараюцца ва многіх гарадах краіны, расце колькасць іх і ў вёсцы.

Ужо на І з'ездзе РКСМ 176 дэлегатаў прадстаўлялі 22.100 чалавек арганізаванай моладзі. Гэты **з'езд палітычна і арганізацыйна** аформіў маладзёжны рух, стварыўшы **Расійскі комуністычны Саюз моладзі** і паставіўшы яго мэтай распаўсюджанне ідэй комунізма сярод моладзі і ўцягненне яе ў актыўнае будаўніцтва Совецкай краіны.

Работа І з'езда комсамола праходзіла пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі. Дэлегацыя з'езда мела гутарку з **В. І. Леніным** аб задачах саюза. Па сканчэнні з'езда Цэнтральны камітэт партыі разаслаў усім партыйным арганізацыям пісьмо, якое абавязвала іх прыкласці ўсе намаганні, не парушаючы самадзейнасці моладзі, каб РКСМ мог развіць шырокую і паспяховую дзейнасць.

Канкрэтнае і чоткае кіраўніцтва партыі маладзёжнымі арганізацыямі з'явілася залогам паспяховага росту комсамола, уцягнення ў яго рады лепшай часткі моладзі.

* * *

Комсамол адыграў выдатную ролю ў абароне маладой Совецкай рэспублікі ад нашэствія белагвардзейскіх банд і іншаземных інтэрвентаў. У грозныя дні 1919 года, калі вогненнае кальцо блакады з усіх бакоў сціскала нашу соцыялістычную радзіму, была праведзена **першая ўсерасійская мабілізацыя комсамольцаў на ўсходні фронт,** супроць Калчака. Тры тысячы комсамольцаў сталі грудзьмі на абарону заваёў Кастрычніка.

**Другая ўсерасійская мабілізацыя** комсамольцаў дала **паўднёваму фронту** 10 тысяч чалавек. **Трэцяя**—супроць Пілсудскага—дала **заходняму фронту** 3 тысячы чалавек.

Акрамя трох усерасійскіх мабілізацый быў праведзен і рад **частковых** мабілізацый. Паасобныя арганізацыі комсамола цалкам ішлі на фронт. Дзесяткі тысяч комсамольцаў біліся на ўсіх фронтах, гераічна абараняючы сваю соцыялістычную бацькаўшчыну. Так, у гарніле грамадзянскай вайны, у абстаноўцы велізарнейшага напружання ўсіх сіл краіны для разгрому інтэрвентаў, выкоўваўся ленінска-сталінскі комсамол.

*) **В. І. Ленін,** Збор твораў. Т. XXI, стар. 320.

Гераічная работа комсамола ў перыяд грамадзянскай вайны была па заслугах ацэнена совецкім урадам. У азнаменаванне баявых заслуг на фронтах грамадзянскай вайны ў перыяд 1919—1920 гадоў ленінска-сталінскі комсамол быў **узнагароджан** ордэнам **Чырвонага сцягу.**

Незадоўга да сканчэння грамадзянскай вайны, у кастрычніку 1920 года, адбыўся III з'езд РКСМ. За перыяд паміж I і III з'ездамі комсамол вырас да 400 тысяч чалавек. Гэты з'езд меў велізарнае значэнне для ўсяго далейшага развіцця маладзёжнага комуністычнага руху. На III з'ездзе выступіў з прамоваю **В. І. Ленін,** які сфармуляваў галоўныя задачы, што стаялі перад комсамолам. Владзімір Ільіч указаў:

> «... Задачы моладзі наогул і саюзаў комуністычнай моладзі і ўсякіх іншых арганізацый у прыватнасці, можна было-б выразіць адным словам: задача заключаецца ў тым, каб вучыцца» *).

**Далей, Ільіч** падкрэсліў:

> «Быць членамі саюза моладзі значыць весці справу так, каб аддаваць сваю работу, свае сілы на агульную справу. Вось у гэтым заключаецца комуністычнае выхаванне. Толькі ў такой рабоце ператвараецца малады чалавек або дзяўчына ў сапраўднага комуніста. Толькі ў тым выпадку, калі яны гэтай работай здолеюць дасягнуць практычных поспехаў, яны становяцца комуністамі» **).

Гэта прамова **В. І. Леніна** з'яўляецца і зараз пуцяводнаю зоркай ва ўсім жыцці і рабоце ленінскага комсамола.

На III з'ездзе былі канчаткова разгромлены анарха-сіндыкалісцкі ўхіл унутры комсамола (група Дунаеўскага) і украінская апазіцыя (так званыя «класавікі»). «Класавікі» прапанавалі спыніць прыём у саюз вучнёўскай моладзі і наогул маладой совецкай інтэлігенцыі, стварыць у горадзе і вёсцы побач з комсамолам беспартыйныя калектывы рабочай і сялянскай моладзі.

* * *

Грамадзянская вайна закончана. Чырвоная Армія пры падтрыманні ўсяго совецкага народа атрымала бліскучую перамогу на ўсіх фронтах.

Х з'езд партыі па дакладу **В. І. Леніна** прыняў рэзалюцыю аб пераходзе да новай эканамічнай палітыкі. З'езд разграміў анарха-сіндыкалісцкі ўхіл у партыі («рабочую апазіцыю»), выкрыў трацкісцкую платформу па пытанню аб профсаюзах і прыняў рэзалюцыю аб ахове адзінства партыі.

Х з'езд партыі ўдзяліў вялікую ўвагу рабоце сярод моладзі. У рэзалюцыі аб партыйным будаўніцтве адзначана важнасць уцягнення комсамола ў партыйнае жыццё, а таксама ў совецкае і гаспадарчае будаўніцтва. Па дакладу аб профсаюзах з'езд падкрэсліў мэтазгоднасць узмацнення ўдзелу моладзі ў штодзеннай дзейнасці

---

*) **В. І. Ленін, І. В. Сталін** „Аб моладзі", стар. 133—134. Партвыдат 1936.
**) Там-жа, стар. 148.

профсаюзаў, лічачы неабходным прыцягненне прадстаўнікоў комсамола ва ўсе профсаюзныя звенні.

У ажыцццяўленне рашэнняў X з'езда партыі аб цеснай сувязі і сумеснай рабоце партыі з комсамолам быў праведзен **тыдзень зблі-жэння** паміж РКП і РКСМ. У задачу гэтага тыдня ўваходзіла:

> «Устанаўленне моцнай арганічнай сувязі паміж РКП і РКСМ, арганізацыя ідэйнай і матэрыяльнай дапамогі саюзу з боку партыі, правядзенне фактычнай адказнасці арганізацый РКП за работу арганізацый РКСМ».

У сувязі з пераходам краіны да новай эканамічнай палітыкі перад комсамолам ва ўсю шырыню паўсталі пытанні **арганізацыйнага ўмацавання** сваіх радоў і прыспасаблення для работы ў новых умовах. На першы план высунуліся пытанні працы, быту і асветы моладзі.

Аднак саюз не здолеў адразу перабудавацца ў адпаведнасці з новай абстаноўкай. Рэзка знізілася колькасць членаў комсамола— з 415 тысяч у 1921 годзе да 260 тысяч к канцу 1922 года. Адначасова аслаб уплыў РКСМ на рабочае юнацтва.

Вось чаму пытанне аб комсамоле заняло вялікае месца ў рабоце XI з'езда партыі, які адбываўся ў красавіку 1922 года. На гэтым з'ездзе **Ленін** паставіў перад партыяй задачу—**разгарнуць барацьбу за перамаганне капіталістычных элементаў у народнай гаспадарцы, за ўмацаванне саюза рабочага класа з працоўным сялянствам, за арганізацыю змычкі паміж социялістычнай прамысловасцю і сельскай гаспадаркай.**

Па пытанню аб РКСМ XI з'езд партыі даў ясную ўстаноўку і практычныя ўказанні аб перабудове работы саюза. У яго рашэннях гаворыцца:

> «РКСМ, які з'яўляецца масавай арганізацыяй комуністычнага выхавання, служыць для партыі магутнаю зброяй комуністычнага ўздзеяння і ўплыву на шырокія слаі рабочай і сялянскай моладзі. РКСМ у той-жа час, выхоўваючы ў сваіх радах найбольш свядомую і рэволюцыйную частку рабочай моладзі, забяспечвае партыі яе здаровы і безупынны рост за лік актыўнейшай праслойкі пролетарыята—рабочай моладзі, якая ўступае цераз саюз у партыю ўжо падрыхтаванай да практычнай рэволюцыйнай работы» *).

XI з'езд партыі ўстанавіў, што **«уся моладзь да 20 год уключна ўступае ў партыю толькі праз РКСМ, за выключэннем чырвонаармейцаў».** З'езд прыняў таксама рашэнне аб забраніраванні на прадпрыемствах нармальнага працанта рабочых—падлеткаў, аб стварэнні ўмоў, неабходных для правядзення ўсіх норм аховы іх працы, аб рэарганізацыі працы рабочай моладзі, падпарадкаваўшы яе мэтам абучэння і кваліфікацыі.

Разлагаючае дзеянне дробнабуржуазнай стыхіі і спробы контррэволюцыйных падпольных груп набыць уплыў сярод моладзі настойліва патрабавалі ад комсамола рашучай барацьбы з варожымі элементамі і энергічнай культурнай палітычнай работы, прыстасаванай да запросаў моладзі. Узброены рашэннямі XI з'езда партыі,

*) „ВКП(б) у рэзалюцыях". Ч. 1-я, стар. 452.

комсамол пад кіраўніцтвам партарганізацый аправіўся, уцягнуў у свае рады дзесяткі тысяч новых членаў, умацаваў сваё пралетарскае ядро.

Абнаўленне амаль напалову складу членаў саюза паставіла новыя задачы перад комсамолам. Трэба было яшчэ больш сканцэнтраваць сілы комсамольскіх арганізацый на выхаванні актыва, на разгортванні масава-палітычнай і культурнай работы сярод моладзі. Распрацоўкаю гэтых пытанняў заняўся V з'езд РКСМ, які адбыўся ў кастрычніку 1922 года. У парадак дня з'езда было пастаўлена пытанне **аб комуністычным выхаванні моладзі ва ўмовах новай эканамічнай палітыкі, аб рабоце ў вёсцы і аб асвеце рабочай моладзі.**

V з'езд комсамола паклаў пачатак **дзіцячаму комуністычнаму** руху, аформіў арганізацыю **юных піонераў.** На гэтым-жа з'ездзе было прынята **шэфства комсамола над Ваенна-Марскім Флотам.**

У прывітанні V з'езду РКСМ **Владзімір Ільіч** пісаў:

> «Дарагія прыяцелі! Вельмі шкадую, што не магу асабіста вітаць вас. Жадаю работам вашага V з'езда ўсякага поспеху. Упэўнен, што моладзь здолее развівацца так паспяхова, каб к часу наспявання наступнага моманту сусветнай рэволюцыі аказацца ўпаўне на вышыні задачы» *).

Гэта было апошняе прывітанне **Леніна** комсамолу.

Перад партыйнымі арганізацыямі ў той перыяд асабліва востра паўстала задача падрыхтоўкі «новага комуністычнага пакалення кваліфікаваных і класава свядомых рабочых, а таксама зацікаўленых у будаўніцтве Совецкай рэспублікі сялян» **).

Каласальнае значэнне работы партыі сярод моладзі адзначыў таварыш **Сталін** у справаздачным дакладзе ЦК XII з'езду. Таварыш **Сталін** гаварыў:

> «...Трэці прыводны рэмень, які злучае клас з партыяй,— гэта саюзы моладзі. Наўрад ці патрэбна даказваць усё каласальнае значэнне саюза моладзі і наогул моладзі ў справе развіцця нашай партыі. Лічбы, якія ёсць у нас, гавораць аб тым, што ў мінулым годзе, к XI з'езду, лічылася ў нас у складзе саюза моладзі не менш 400.000 членаў. Потым, у сярэдзіне 1922 года, калі пайшло скарачэнне штатаў, калі броня была яшчэ недастаткова ажыццёўлена, калі саюз моладзі яшчэ не быў у стане прыстасавацца да новых умоў, лік членаў упаў да 200.000. Цяпер, асабліва з восені мінулага года, мы маем каласальны рост саюза моладзі: у складзе саюза налічваецца не менш 400.000 членаў. Самае ўцешнае—гэта тое, што саюзы моладзі растуць у першую чаргу за лік рабочай моладзі. Рост іх падае перш за ўсё на раёны, дзе ў нас узнімаецца прамысловасць» ***).

XII з'езд партыі паставіў перад партарганізацыямі неадкладныя задачы партработы сярод моладзі. Сур'ёзная ўвага была ўдзелена

*) В. І. Ленін, І. В. Сталін „Аб моладзі", стар. 159.
**) „ВКП(б) у рэзалюцыях". Ч. 1-я, стар. 533.
***) І. Сталін „Аб комсамоле", стар. 7—8. „Молодая гвардия". 1937.

перадачы новаму пакаленню рабочага класа багатага вопыту рэвалюцыйнай барацьбы нашай партыі. У рэзалюцыі з'езда гаворыцца:

«Перад партыяй перш за ўсё стаіць задача—перадаць новаму маладняку ўвесь вопыт рэволюцыйнай барацьбы і старанна яго азнаёміць з мінулым партыі. Надзвычай важна ў мэтах рэволюцыйнага выхавання моладзі знаёміць яе з класавай барацьбой і супярэчнасцямі ў капіталістычным грамадстве, лічачыся з тым, што цяперашняе пакаленне рабочага юнацтва пачало сваё свядомае жыццё ўжо ва ўмовах совецкага быту і мала знаёма з абстаноўкаю капіталізма; разам з тым, важна накіраваць выхаванне моладзі ў духу міжнароднай салідарнасці, узмацнення інфармацыі аб міжнародным рабочым руху і т. д. Партыя павінна звярнуць сур'ёзнейшую ўвагу на стварэнне дастатковай сеткі палітшкол і палітгурткоў, праз якія прапускаліся-б усе члены саюза моладзі. Гэтай-жа мэце павінен быць падпарадкаван комсамольскі друк, на падтрыманне якога матэрыяльнымі сродкамі і літаратурнымі сіламі павінны звярнуць увагу партарганізацыі» *).

З'езд паставіў таксама перад РКСМ задачу—узмацніць работу сярод жаночай пролетарскай і сялянскай моладзі.

Пасля XII з'езда партыі, на нарадзе пры ЦК ВКП(б) па пытаннях работы сярод моладзі, таварыш **Сталін** выразна вызначыў ролю комсамола як рэзерва і інструмента ў руках партыі для распаўсюджання комуністычнага ўплыву на моладзь. «Комуністычны саюз моладзі,—гаварыў таварыш **Сталін**,—рэзерв, рэзерв з сялян і рабочых, адкуль чэрпаюцца партыяй папаўненні. Але ён разам з тым і інструмент, інструмент у руках партыі, які падпарадквае свайму ўплыву масы моладзі» **).

* * *

Годы барацьбы за аднаўленне народнай гаспадаркі прынеслі краіне значныя поспехі. Узнялася палітычная актыўнасць рабочых і сялян. З вялікай энергіяй у соцыялістычным будаўніцтве ўдзельнічала моладзь.

Аднак вынікі разрухі давалі сябе яшчэ адчуваць. З гаспадарчых затрудненняў скарысталі тройчы прэзрэнныя трацкісты, якія прабавалі расхістаць партыйную дысцыпліну і згуртаванасць партыі. Трацкісты хацелі разрушыць партапарат, проціпаставіць партыйную масу партапарату, а моладзь—старым кадрам большэвікоў. Каб заваяваць вучнёўскую моладзь, обербандыт Троцкі ліслівіў ёй, называючы яе «вярнейшым барометрам партыі».

Партыя дала адпор гнусным спробам трацкістаў і цясней згуртавалася вакол ленінска-сталінскага ЦК. Моладзь яшчэ больш загартавалася ў барацьбе супроць контррэволюцыйнага трацкізма, за генеральную лінію партыі.

Ва ўмовах барацьбы з контррэволюцыйным трацкізмам усё большае значэнне набывалі пытанні ідэйна-палітычнага выхавання моладзі, авалодання ёю вопытам і традыцыямі большэвіцкай партыі.

---

*) „ВКП(б) у рэзалюцыях". Ч. І-я, стар. 533.
**) І. Сталін „Аб комсамоле", стар. 14. „Молодая гвардия". 1937.

Комсамолу неабходна было наладзіць сістэматычнае вывучэнне гісторыі партыі, яе праграмы, стратэгіі і тактыкі, яе арганізацыйных прынцыпаў. Перад комсамолам была пастаўлена задача—авалодаць ідэйнай спадчынай, астаўленай партыі **Леніным.** Комсамол абавязан ведаць барацьбу партыі з апартунізмам, у сутычках з якім яна вырасла і загартавалася.

Самаадданая работа рабочых і сялян, кіруемых комуністычнай партыяй, прынесла свае плады. У 1924—1925 гадах былі атрыманы новыя бліскучыя перамогі на гаспадарчым фронце. Верная заветам ленінска-сталінскай партыі, моладзь ішла ў перадавых шарэнгах барацьбітоў за аднаўленне эканамічнай магутнасці Савецкага Саюза.

Курс партыі на індустрыялізацыю краіны сустрэў шалёнае супраціўленне з боку капіталістычных элементаў і ўсіх ворагаў соцыялізма. Трацкісты і зіноўеўцы прабавалі адарваць комсамол ад партыі. У перыяд падрыхтоўкі к XIV з'езду, які адбыўся 18—31 снежня 1925 года, трацкісцка-зіноўеўская зграя хацела выкарыстаць ленінградскую комсамольскую арганізацыю для барацьбы супроць партыі. Партыя і комсамол ліквідавалі спробы трацкісцка-зіноўеўскай банды проціпаставіць комсамол партыі.

XIV з'езд партыі разграміў зіноўеўскую апазіцыю. З'езд вынес рашэнне аб індустрыялізацыі СССР. З'езд у сваёй рэзалюцыі запісаў:

> «У галіне **эканамічнага будаўніцтва** з'езд выходзіць з таго, што наша краіна, краіна дыктатуры пролетарыята, мае «усё неабходнае для пабудовы поўнага соцыялістычнага грамадства» **(Ленін).** З'езд лічыць, што барацьба за перамогу соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР з'яўляецца асноўнай задачай нашай партыі» *).

У радах комсамола к 1926 году ўжо было 1750 тысяч членаў саюза. За час з VI па VII з'езд комсамола было прынята больш мільёна новых членаў. Значна павялічыўся ахват саюзам сялянскай моладзі.

Напярэдадні VII з'езда комсамола таварыш **Сталін** зрабіў рад указанняў аб рабоце саюза моладзі. Адказваючы на пытанні, зададзеныя рэдакцыяй **«Комсомольской правды»**, таварыш **Сталін** гаварыў:

> «Комсамол з'яўляецца фармальна непартыйнай арганізацыяй. Але ён ёсць разам з тым арганізацыя комуністычная. Гэта значыць, што, з'яўляючыся фармальна непартыйнай арганізацыяй рабочых і сялян, Комсамол павінен разам з тым працаваць пад кіраўніцтвам нашай партыі. Забяспечыць давер'е моладзі да нашай партыі, забяспечыць кіраўніцтва нашай партыі ў Комсамоле—такава задача. Комсамолец павінен памятаць, што забеспячэнне кіраўніцтва партыі ёсць самае галоўнае і самае важнае ва ўсёй рабоце Комсамола. Комсамолец павінен памятаць, што без такога кіраўніцтва Комсамол не можа выканаць сваю асноўную задачу—выхавання рабоча-сялянскай моладзі ў духу дыктатуры пролетарыята і комунізма» **).

У гэтым-жа адказе таварыш **Сталін** даў важнейшыя ўказанні аб інтэрнацыянальных задачах комсамола. Таварыш **Сталін** сказаў:

> «Інтэрнацыяналізм з'яўляецца асноўнай ідэяй, якая пранікае

*) „ВКП(б) у рэзалюцыях". Ч. 2-я, стар. 49.

**) В. І. Ленін, І. В. Сталін „Аб моладзі", стар. 179. Партвыдат. 1936.

работу Комсамола. У гэтым яго сіла. У гэтым яго магутнасць. Патрэбна, каб дух інтэрнацыяналізма лунаў заўсёды над Комсамолам» *).

Наш слаўны комсамол свята выконвае гэта ўказанне таварыша **Сталіна,** з'яўляючыся вядучай секцыяй Комуністычнага Інтэрнацыянала моладзі.

У студзені 1926 года таварыш **Сталін** даў вычарпальнае вызначэнне ролі і значэння комсамола ў сістэме дыктатуры пролетарыята:

«Гэта ёсць масавая арганізацыя рабочай і сялянскай моладзі, арганізацыя не партыйная, але прымыкаючая да партыі. Яна мае сваёй задачай дапамогу партыі ў справе выхавання маладога пакалення ў духу соцыялізма. Яна дае маладыя рэзервы для ўсіх астатніх масавых арганізацый пролетарыята па ўсіх галінах кіравання. Саюз моладзі набыў асобае значэнне пасля ўмацавання дыктатуры пролетарыята, у перыяд шырокай культурнай і выхаваўчай работы пролетарыята» **).

Кіруючыся гэтымі ўказаннямі таварыша **Сталіна,** комсамол разгарнуў энергічную работу ў перыяд барацьбы за соцыялістычную індустрыялізацыю краіны. Маладзёжныя брыгады на прадпрыемствах і шахтах былі застрэльшчыкамі соцыялістычных метадаў працы, давалі ўзоры высокай прадукцыйнасці.

Значна вырасла роля комсамола на **вёсцы.** VIII з'езд ВЛКСМ, які адбыўся 5—16 мая 1928 года, у сваіх рашэннях адзначыў, што асноўнай задачай комсамольскіх арганізацый на вёсцы з'яўляецца актыўны ўдзел іх у калгасным будаўніцтве, у соцыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі.

На VIII з'ездзе комсамола прысутнічала 1084 дэлегаты, якія прадстаўлялі 1960 тысяч чалавек. Значэнне гэтага з'езда ў гісторыі ВЛКСМ велізарна. На гэтым з'ездзе з прамовай аб задачах комсамола выступіў таварыш **Сталін.**

Ва ўсю шырыню на з'ездзе было пастаўлена пытанне аб стварэнні **новых кадраў** соцыялістычнага будаўніцтва. Таварыш **Сталін** у сваёй прамове ўказаў:

«Каб будаваць, трэба ведаць, трэба авалодаць навукай, а каб ведаць, трэба вучыцца. Вучыцца ўпарта, цярпліва. Вучыцца ва ўсіх—і ў ворагаў, і ў прыяцеляў, асабліва ў ворагаў. Вучыцца, сцяўшы зубы, не баючыся, што ворагі будуць смяяцца над намі, над нашым невуцтвам, над нашай адсталасцю. Перад намі стаіць крэпасць. Называецца яна, гэта крэпасць, навукай з яе шматлікімі галінамі ведаў. Гэту крэпасць мы павінны ўзяць ва што-б там ні стала. Гэту крэпасць павінна ўзяць моладзь, калі яна хоча быць будаўніком новага жыцця, калі яна хоча стаць сапраўднаю зменай старой гвардыі» ***).

Далей, таварыш **Сталін** падкрэсліў:

«**Авалодаць навукай, выкаваць новыя кадры большэвікоў-спецыялістаў па ўсіх галінах ведаў, вучыцца, вучыцца, вучыцца самым упартым чынам**—такава цяпер задача. Паход рэво-

*) В. Ленін, І. В. Сталін „Аб моладзі", стар. 179. Партвыдат. 1936.
**) Там-жа, стар. 185.
***) Там-жа, стар. 202.

**люцыйнай моладзі ў навуку**—вось што нам патрэбна цяпер, таварышы» *).

У тым-жа, 1928 годзе споўнілася 10-годдзе комсамола. У прывітанні комсамолу таварыш **Сталін** пісаў, што ленінскі комсамол быў і застаецца маладым рэзервам пролетарскай рэволюцыі: «Дзесяткі і сотні тысяч лепшых прадстаўнікоў маладога рабоча-сялянскага пакалення выхаваліся ў радах комсамола, атрымалі рэволюцыйную загартоўку і ўліліся ў нашу партыю, у нашы советы, у нашы прафсаюзы, у нашу Чырвоную армію, у наш Чырвоны флот, у нашу кааперацыю, у нашы культурныя арганізацыі—на змену старой гвардыі большэвікоў. Комсамолу ўдавалася гэта цяжкая задача таму, што ён вёў сваю работу пад кіраўніцтвам партыі...» **).

Указанні таварыша **Сталіна**—баявая праграма работы ўсёй совецкай моладзі.

* * *

У 1929 годзе ў нашай краіне пачалася **барацьба за выкананне пяцігадовага плана развіцця народнай гаспадаркі.** Разгарнуўшаеся наступленне соцыялізма на капіталістычныя элементы горада і вёскі сустрэла жорсткае супраціўленне класавага ворага. Партыя павяла рашучую барацьбу, выкрыла і разграміла правых рэстаўратараў капіталізма, стаўшых затым разам з тройчы прэзрэннымі трацкістамі наёмнымі агентамі фашысцкіх разведак, шпіёнамі, дыверсантамі і шкоднікамі.

Комсамол пад кіраўніцтвам партыі прымае актыўны ўдзел у ажыццяўленні сталінскай пяцігодкі. Па пачыну комсамола і друку ў краіне шырока разгарнулася **соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва.** XVI партыйная канферэнцыя ў звароце да ўсіх рабочых і працоўных сялян Совецкага Саюза адзначыла, што «разгарнуўшаеся ў гэтым годзе па пачыну ленінскага комсамола і друку соцыялістычнае спаборніцтва ўсё больш ператвараецца ў магутны масавы рух».

К 1930 году краіна ўступіла ў новы этап соцыялістычнага будаўніцтва. У дакладзе на XVI з'ездзе партыі таварыш **Сталін** гаварыў:

> «Асноўная ўстаноўка партыі ў даны момант заключаецца **ў пераходзе** ад наступлення соцыялізма на **паасобных участках** гаспадарчага фронта да наступлення **па ўсяму фронту** і ў галіне прамысловасці, і ў галіне сельскай гаспадаркі. XIV з'езд быў, пераважна, з'ездам **індустрыялізацыі.** XV з'езд, быў, пераважна, з'ездам **калектывізацыі...** У адзнаку ад пройдзеных этапаў перыяд перад XVI з'ездам з'яўляецца перыядам **агульнага** наступлення соцыялізма **па ўсяму фронту,** перыядам узмоцненага будаўніцтва соцыялізма і ў галіне прамысловасці, і ў галіне сельскай гаспадаркі. XVI з'езд ёсць з'езд **разгорнутага наступлення** соцыялізма **па ўсяму фронту,** ліквідацыі кулацтва як класа і правядзення ў жыццё суцэльнай калектывізацыі» ***).

У эпоху разгорнутага наступлення соцыялізма па ўсяму фронту комсамол адыграў вялікую ролю. Моладзь была ў перадавых радах

*) **В. І. Ленін, І. В. Сталін** „Аб моладзі“, стар. 203. Партвыдат. 1936.
**) **І. Сталін** „Аб комсамоле“, стар. 151—152.
***) **І. Сталін** „Пытанні ленінізма“, стар. 410. 10-е выд.

барацьбітоў за калектывізацыю сельскай гаспадаркі і ліквідацыю кулацтва як класа. У гэты момант сабраўся IX з'езд камсамола (16—26 студзеня 1931 года).

Пад кіраўніцтвам партыі ленінскі комсамол разбіў спробы здрадніцкага права-лявацкага блока, які высоўваў контррэволюцыйны тэзіс аб «праве на сумненне» у лініі партыі і прабаваў проціпаставіць комсамол партыі.

З дакладам аб міжнародным і ўнутраным становішчы і задачах комсамола на IX з'ездзе ВЛКСМ выступіў таварыш **Л. М. Кагановіч.** Гаворачы аб задачах соцыялістычнага будаўніцтва, таварыш **Кагановіч** адзначыў:

> «Мы павінны ведаць сваю сілу і не траціць упэўненасці ў поспеху нашай справы, але трэба ведаць і свае слабыя бакі, каб не супакойвацца, не пачываць на лаўрах, не заражацца фаталізмам,—моў, пабудова соцыялізма ў нашай краіне забяспечана,—не заражацца самацёкам, а па-большэвіцку мабілізаваць усе сілы і прывесці ў рух і баявую гатоўнасць усе арганізацыі, усе рычагі, каб паспяхова выканаць пастаўленыя задачы, каб і далей ісці ад перамогі да перамогі» *).

У час IX з'езда комсамол за праяўленую ініцыятыву ў справе ўдарніцтва і соцыялістычнага спаборніцтва, якія забяспечылі паспяховае выкананне першага пяцігадовага плана, быў узнагароджан ордэнам **Працоўнага чырвонага сцягу.**

Як застрэльшчык соцыялістычнага спаборніцтва комсамол запаліў агнём ленінска-сталінскага энтузіязма ўсю совецкую моладзь, усіх працоўных нашай радзімы. На новым, вышэйшым этапе соцыялістычнага спаборніцтва—**у стаханаўскім руху**—комсамол і кіруемая ім моладзь займаюць пачэснае месца.

IX з'езд ВЛКСМ удзяліў велізарную ўвагу пытанням **абароны СССР.** З'езд прыняў шэфства над **Ваенна-Паветраным Флотам.**

Яркія ўзоры гераізма на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва комсамол паказваў і ў наступныя годы. Моладзь чула ўспрымае і па-баявому выконвае ўсе заклікі партыі і таварыша **Сталіна.**

Таварыш **Сталін** у 1933 годзе ў прамове на I Усесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў падкрэсліў, што задача комсамола заключаецца ў тым, **«каб вучыцца і яшчэ раз вучыцца ленінізму».** Таварыш **Сталін** гаварыў:

> «Таварышы комсамольцы і комсамолкі! Вучыцеся большэвізму і вядзіце наперад хістаючыхся! Балбачыце паменш, працуйце больш—і справа ў вас выйдзе напэўна» **).

Комсамол горача ўзяўся за выкананне гэтага ўказання правадыра і прарабіў велізарную работу па выхаванню маладых барацьбітоў, адданых справе **Леніна—Сталіна,** комунізму. У 1936 годзе ў радах комсамола ўжо было каля 4 мільёнаў членаў.

Совецкі народ пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ў годы сталінскіх пяцігодак пабудаваў у асноўным соцыялістычнае грамадства, стварыў магутную прамысловасць, узброіў першакласнай тэхнікай соцыялістычную сельскую гаспадарку, выкаваў у грозную для

---

*) Стэнаграфічная справаздача IX з'езда ВЛКСМ, стар. 14.

**) В. І. Ленін, І. В. Сталін „Аб моладзі", стар. 206. Партвыдат. 1936.

ворагаў сілу непераможную Чырвоную Армію і доблесны Ваенна-Марскі Флот.

Перад комсамолам паўсталі новыя і яшчэ больш складаныя задачы—**выхаванне маладых кадраў.** На X з'ездзе тав. **Косарэў** адзначыў:

«Цэнтральнай задачай комсамола зараз з'яўляецца выхаванне кадраў, не толькі адданых совецкай уладзе, але і граматных, адукаваных, тэхнічна падрыхтаваных, спецыялістаў сваёй справы, якія могуць спалучаць рэволюцыйны размах з большэвіцкай дзелавітасцю» *).

Каб актыўна будаваць комуністычнае грамадства, патрэбна было па-сур'ёзнаму арганізаваць вучобу моладзі, без комчванства і зазнайства, упарта вывучаць навукі, набываць асвету і культурнасць. Наш комсамол паспяхова спраўляецца з гэтымі задачамі. У красавіку 1936 года X з'езд ВЛКСМ прыняў новую праграму, якая вызначае сутнасць і ролю ВЛКСМ:

«Усесаюзны ленінскі комуністычны саюз моладзі з'яўляецца масавай беспартыйнай арганізацыяй, якая прымыкае да ВКП(б), яднае ў сваіх радах шырокія слаі перадавой, палітычна граматнай працоўнай моладзі горада і вёскі. ВЛКСМ мае сваёй задачай дапамогу комуністычнай партыі (большэвікоў) у справе выхавання моладзі і дзяцей у духу комунізма. Спачуваючы праграме ВКП(б), ВЛКСМ дапамагае партыі большэвікоў і совецкаму ўраду ў выкананні вялікай гістарычнай задачы—будаўніцтва комуністычнага грамадства.

ВЛКСМ з'яўляецца памочнікам ВКП(б) і яе рэзервам» **).

З дакладам аб комуністычным выхаванні моладзі і задачах комсамола на з'ездзе выступіў сакратар ЦК ВКП(б) таварыш **А. А. Андрэеў.** У яго дакладзе перад ВЛКСМ быў пастаўлен рад важнейшых задач, над вырашэннем якіх абавязан працаваць комсамол.

* * *

Да свайго слаўнага 20-годдзя комсамол прыходзіць узброены велізарным вопытам барацьбы за соцыялізм, за комуністычнае выхаванне совецкай моладзі. З дапамогай партыі комсамол правёў велізарную работу па ачышчэнню сваіх радоў ад трацкісцка-бухарынскіх і буржуазна-нацыяналістычных агентаў фашызма, шпіёнаў і дыверсантаў.

Знамянальная гадавіна ленінска-сталінскага комсамола—гэта раднасае свята ўсяго совецкага народа. Значную частку насельніцтва Совецкай краіны складае моладзь. У СССР налічваюцца дзесяткі мільёнаў юнакоў і дзяўчат комсамольскага ўзросту. Комсамол—арганізацыя перадавой совецкай моладзі. Комсамол абавязан выхоўваць гэту слаўную армію маладых будаўнікоў соцыялізма.

«Самая галоўная наша задача,—гаварыў тав. **Косарэў** на нарадзе маладых стаханаўцаў,—выхоўваць з маладога пакалення грамадскіх дзеячоў ленінскага тыпу, людзей, аб якіх гаварыў

*) **А. Косарэў.** Справаздача ЦК ВЛКСМ X усесаюзнаму з'езду ленінскага комсамола, стар. 41. Партвыдат. 1936.

**) „Прагарама і статут ВЛКСМ", стар. 19—20. „Молодая гвардия". 1938.

таварыш **Сталін** у сваёй прамове перад выбаршчыкамі Сталінскай акругі. Гэта людзі ленінска-сталінскага тыпу, людзі, якія вызначаюцца бясстрашнасцю ў баі і бязлітаснасцю да ворагаў народа, людзі, вольныя ад усякай панікі ў цяжкія мінуты, людзі, якія ўмеюць усебакова і цвяроза ўлічваць абстаноўку, людзі, якія адметны праўдзівасцю, чэснасцю, беззаветна любячыя свой народ. Калі мы будзем выхоўваць такіх людзей, людзей ленінска-сталінскага тыпу, тады мы паспяхова справімся з усімі нашымі задачамі» *).

Наша савецкая моладзь бязмежна аддана большэвіцкай партыі і любімаму другу і настаўніку таварышу **Сталіну.** Сталінская Канстытуцыя перамогшага соцыялізма дала працоўнай моладзі соцыялістычнай радзімы права на працу, адпачынак і асвету. Совецкая моладзь, абараняючы сваю бацькаўшчыну ад усялякіх прошукаў ворагаў, павінна заўсёды памятаць указанні таварыша **Сталіна** аб пагрозе ваеннай небяспекі. У адказе на пісьмо комсамольца Іванова таварыш **Сталін** пісаў:

«Трэба ўсямерна ўзмацніць і ўмацаваць нашу Чырвоную армію, Чырвоны Флот, Чырвоную авіяцыю, Асоавіяхім. Трэба ўвесь наш народ трымаць у стане мабілізацыйнай гатоўнасці перад тварам небяспекі ваеннага нападу, каб ніякая «выпадковасць» і ніякія фокусы нашых знешніх ворагаў не маглі засцігнуць нас знянацку...»

Кожнаму комсамольцу неабходна памятаць і ажыццяўляць статут ВЛКСМ, які абавязвае членаў комсамола «вывучаць ваенную справу, быць беззаветна адданым вялікай соцыялістычнай радзіме і быць гатовым аддаць для яе ўсе свае сілы, а калі спатрэбіцца—і жыццё».

Задача ўсіх партыйных арганізацый заключаецца ў тым, каб дапамагчы комсамольскім арганізацыям дабіцца яшчэ большых поспехаў да дню яго 20-гадовага юбілея.

**«Партийное строительство»**

---

*) **А. Косарэў** „Аб задачах комсамола ў стаханаўскім руху", стар. 22. 1938.

## Прыкладны план работы гуртка па вывучэнню матэрыялаў „Аб Другой Сесіі Вярхоўнага Совета СССР“

### ПЕРШЫ ЗАНЯТАК

#### Аб адзіным дзяржаўным бюджэце СССР на 1938 г.

Народная гаспадарка Савецкага Саюза на новым уздыме. Рост поспехаў СССР на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва. Бюджэт у руках партыі і ўрада з'яўляецца асноўным і рашаючым рычагом мабілізацыі сродкаў і размеркавання іх паміж асобнымі галінамі гаспадаркі і культуры.

Быстры рост бюджэта магчым толькі ў нас ва ўмовах планавай соцыялістычнай гаспадаркі, якая не ведае крызісаў і патрасенняў. Капіталістычны свет пачынае трэсці новая ліхаманка крызісу. У аснове нашага бюджэта—рост прамысловасці, транспарту, гандлю, сельскай гаспадаркі, рост накаплення соцыялістычных прадпрыемстваў і гаспадарчых арганізацый.

Абагулены сектар народнай гаспадаркі дае звыш 90 проц. усіх даходаў нашага бюджэта. Вынікі выканання бюджэта за 1936 год. Даходы бюджэта на 1938 год. Фінансавыя работнікі павінны вылічваць і збіраць налогі з насельніцтва, строга захоўваючы совецкія законы і няўхільна праводзячы ў жыццё фінансавую палітыку нашай партыі і совецкай улады. Выпушчаная 1 ліпеня 1938 г. пазыка 3-й пяцігодкі была сустрэнута працоўнымі нашай краіны з небывалым уздымам. Трэба па-дзяржаўнаму, па-гаспадарску накіраваць асігнаванні на найбольш важныя мерапрыемствы. Фінансаванне абароны Совецкага Саюза ў размеры 27 мільярдаў рублёў. Няўхільна праводзімая нашай партыяй ленінска-сталінская нацыянальная палітыка дала магчымасць усім нацрэспублікам хутка перамагчы тую глыбокую гаспадарчую і культурную няроўнасць, адсталасць, якія перайшлі ў спадчыну ад царскага ладу. Не гледзячы на прошукі подлых ворагаў народа прадажнай трацкісцка-бухарынскай і буржуазна-нацыяналістычнай зграі нямецкіх і польскіх шпіёнаў і дыверсантаў, Беларусь стала індустрыяльна-аграрнай рэспублікай з буйнай прамысловасцю і сельскай гаспадаркай.

Запраектаваныя па бюджэту 1938 г. выдаткі на развіццё прамысловасці, сельскай гаспадаркі і іншыя галіны народнай гаспадаркі БССР у суме 1.167.210 тысяч рублёў даюць магчымасць дасягнуць новых поспехаў і яшчэ больш умацаваць пагранічную рэспубліку.

## ЛІТАРАТУРА:

ЛЕНІН В. І. IV Кангрэс Комуністычнага Інтэрнацыянала § 3. Пяць год расійскай рэволюцыі і перспектывы сусветнай рэволюцыі т. XXVII, стар. 342—355.

СТАЛІН І. В. Даклад на VIII Надзвычайным з'ездзе Советаў, глава II-я Канстытуцыі СССР, глава І-я, грамадскае ўстройства.

ЗВЕРАЎ А. Г. Даклад на 2-й Сесіі Вярхоўнага Совета СССР. „Правда" ад 11/VIII 1938 г.

СІДАРАЎ І. І. Садаклад на 2-й Сесіі Вярхоўнага Совета СССР. „Правда" ад 12/VIII 1938 г.

ХАХЛОЎ І. С. Садаклад на 2-й Сесіі Вярхоўнага Совета СССР. „Правда" ад 12/VIII 1938 г.

НАТАЛЕВІЧ Н. Я. Прамова на 2-й Сесіі Вярхоўнага Совета СССР. „Правда" ад 14/VIII 1938 г.
Перадавы—Бюджэт соцыялістычнай дзяржавы, „Правда" ад 11/VIII 1938 г.
Закон аб адзіным дзяржаўным бюджэце СССР на 1938 г. „Правда" ад 24/VIII 1938 г.

## ДРУГІ ЗАНЯТАК

### Закон аб судаўстройстве СССР, саюзных і аўтаномных рэспублік

Сталінская Канстытуцыя ўзнімае на нябачаную ў гісторыі чалавечага грамадства вышыню суд, як асобую дзяржаўную функцыю, і суд, як орган дзяржавы, закліканы ажыццяўляць правасуддзе.

Буржуазны суд з'яўляецца органам дыктатуры буржуазіі, зброяй прыгнечання і эксплаатацыі працоўных, зброяй панавання меншасці над большасцю. Панаванне фашызма ў фашысцкіх краінах разбурыла апошнія ўстоі буржуазнай законнасці. Замест законнасці ў фашысцкіх краінах пануе сваявольства і паліцэйскі разгул.

Вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя разрушыла царскі суд, дашчэнту знішчыла ўсю буржуазна-памешчыцкую судовую сістэму.

Асноўныя прынцыпы совецкага судаўстройства—выбарнасць, удзел у адпраўленні правасуддзя саміх працоўных, гласнасць і публічнасць судаўтварэння, забеспячэнне права абвінавачваемаму на абарону і свабоду прадастаўлення судовых доказаў, строгае захаванне совецкіх законаў, якія стаяць на варце ісціны і справядлівасці. Совецкі суд па сваіх задачах, прынцыпах арганізацыі, форме і сутнасці ўсёй сваёй дзейнасці прынцыпова адметны ад буржуазнага суда. Асноўныя палажэнні новага закона аб судаўстройстве. Совецкі суд, прымяняючы меры крымінальнага пакарання, не толькі карае злачынцаў, але таксама мае сваёй мэтай выпраўленне і перавыхаванне злачынцаў. Новы закон аб судаўстройстве ўносіць значныя змены ў арганізацыйную пабудову, структуру і функцыі судоў СССР. Абранне Вярхоўнага суда СССР. Аслабаненне суддзяў ад пасады і народных засядацеляў ад іх абавязкаў дапускаецца не інакш, як па водзыву выбаршчыкаў.

## ЛІТАРАТУРА:

ЛЕНІН В. І. Нарыс артыкула „Чарговыя задачы Совецкай улады", глава XIII, том XXII, стар 424—425.

СТАЛІН І. В. Даклад на VIII Надзвычайным з'ездзе советаў, глава V. Канстытуцыя СССР, Главы IX і X.

РЫЧКОЎ Н. М. Даклад на 2-й Сесіі Вярхоўнага Совета СССР. „Правда“ ад 16/VIII 1938 г.

ШАГІМАРДЗІНАЎ. Садаклад на 2-й Сесіі Вярхоўнага Совета СССР. „Правда“ ад 16/VIII 1938 г.

ТЮРКІН П. А. Садаклад на 2-й Сесіі Вярхоўнага Совета СССР. „Правда“ ад 16/VIII 1938 г.

ВЫШЫНСКІ А. Я. Прамова на 2-й Сесіі Вярхоўнага Совета СССР. „Правда“ ад 17/VIII 1938 г.
Перадавы—„Совецкі суд“, „Правда“ ад 16/VIII 1938 г.
Закон аб судаўстройстве СССР, саюзных і аўтаномных рэспублік. „Правда“ ад 24/VIII 1938 г.

## ТРЭЦІ ЗАНЯТАК

### I. Закон аб грамадзянстве СССР.

Высокае і пачэснае званне—грамадзянін СССР. Грамадзяніну СССР належаць правы і абавязкі, прадастаўленыя яму адзінай у свеце сапраўды дэмакратычнай Сталінскай Канстытуцыяй. Грамадзянства вызначае прыналежнасць асобы да дзяржавы, вызначае прававое палажэнне асобы не толькі ўнутры дзяржавы, але і па-за ёю, у міжнародных адносінах.

У буржуазных дзяржавах дэмакратычнага тыпу агалашаюць фармальную роўнасць правоў грамадзян, але адны з іх як былі, так і застаюцца эксплаатуемымі і прыгнечанымі, а другія—эксплаататарамі і прыгнятальнікамі народа.

Праект новага закона аб грамадзянстве СССР выходзіць з структуры, пабудовы СССР. Асноўныя палажэнні закона аб грамадзянстве СССР. Грамадзянамі СССР з'яўляюцца ўсе, якія былі да 7 лістапада 1917 года падданымі былой Расійскай імперыі і не страцілі совецкага грамадзянства. Асобы, якія набылі совецкае грамадзянства ва ўстаноўленым законам парадку.

## ЛІТАРАТУРА:

СТАЛІН І. В. Даклад на VIII Надзвычайным з'ездзе советаў, гл. 3-я. „Асноўныя асаблівасці праекта Канстытуцыі“. Канстытуцыя СССР, гл. X і XI.

БУЛГАНІН Н. А. Даклад на 2-й Сесіі Вярхоўнага Совета СССР. „Правда“ ад 18/VIII 1938 г.
Перадавы—„Высокае і пачэснае званне—грамадзянін СССР“. „Правда“ ад 20/VIII 1938 г.
Закон аб грамадзянстве СССР. „Правда“ ад 24/VIII 1938 г.

### II. Закон аб парадку ратыфікацыі і дэнансацыі міжнародных дагавораў СССР

Ратыфікацыя—акт, які надае канчатковую сілу дагавору, распрацаванаму і падпісанаму ўпаўнаважанымі дзяржаў.

Дэнансацыя—акт аб'яўлення дагавора страціўшым яго сілу.

Фашысцкія агрэсіўныя ўрады груба парушаюць і разрываюць міжнародныя дагаворы.

СССР ніколі не парушаў заключаныя міжнародныя дагаворы.

Ратыфікацыя і дэнансацыя міжнародных дагавораў утвараецца Вярхоўным Советам СССР.

## ЛІТАРАТУРА:

Канстытуцыя СССР гл. III.

ШМІДТ О. Ю. Даклад на 2-й Сесіі Вярхоўнага Совета СССР. „Правда“ ад 21/VIII 1938 г.

Закон аб парадку ратыфікацыі і дэнансацыі міжнародных дагавораў СССР. „Правда“ ад 24/VIII 1938 г.

## III. Закон аб дзяржаўным падатку на коней аднаасобных гаспадарак

Шлях калгасаў—адзіна правільны шлях. Комуністычная партыя і совецкі ўрад прымаюць усе меры для далейшага ўмацавання і палепшання жыцця калгасных мас. Пастанова СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 19/IV-38 г. «Аб забароне выключэння калгаснікаў з калгасаў, аб няправільным размеркаванні даходаў у калгасах, аб падатках і іншых абавязацельствах у адносінах аднаасобных гаспадарак». Спекуляцыйнае выкарыстанне аднаасобнікамі коней. Закон аб дзяржаўным падатку на коней аднаасобных гаспадарак. Аднясенне саюзных рэспублік да двух груп. Дзве стаўкі ўпутры кожнай рэспублікі і вобласці. Продаж коней пасля апублікавання закона не аслабаняе ад уплаты падатку за бягучы год. Аслабаненне ад уплаты дзяржаўнага падатку на коней тых аднаасобных гаспадарак, якія да 15.X-38 г. уступяць у калгасы. Парадак размеркавання паступленняў ад асобага дзяржаўнага падатку на коней па бюджэтах.

## ЛІТАРАТУРА:

СТАЛІН І. В. Прамова на I Усесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў. „Пытанні ленінізма“, стар. 525—537.

Пастанова СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 19/IV-38 г. „Аб забароне выключэння калгаснікаў з калгасаў, аб няправільным размеркаванні даходаў у калгасах, аб падатках і іншых абавязацельствах у адносінах аднаасобных гаспадарак.“

УГАРАЎ А. І. Даклад на 2-й Сесіі Вярхоўнага Совета СССР. „Правда“ ад 21/VIII 1938 г.

Закон аб дзяржаўным падатку на коней аднаасобных гаспадарак. „Правда“ ад 24/VIII 1938 г.

## ЧАЦВЕРТЫ ЗАНЯТАК

### I. Закон аб Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы

Чым была вёска да Кастрычніцкай рэволюцыі і чым яна стала цяпер? У барацьбе за сталінскія 7—8 мільярдаў пудоў хлеба ўзняліся новыя кадры з сялян-калгаснікаў, рабочых соўгасаў і МТС.

Наша выстаўка—гэта не замежныя выстаўкі, дзе ўдзельнічаюць паасобныя гаспадаркі, паасобныя капіталісты, памешчыкі і кулакі. Да нашай выстаўкі рыхтуюцца мільёны калгаснікаў і калгасніц, рабочых і работніц соўгасаў і МТС. Наша выстаўка павінна паказаць самую буйную ў свеце механізаваную соцыялістычную сельскую гаспадарку.

Наркамзем і Наркомсоўгасаў СССР нездавальняюча кіравалі будаўніцтвам Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі і адборам кандыдатаў на выстаўку. Усесаюзная сельскагаспадарчая выстаўка назначана на 1 жніўня 1939 года.

## ЛІТАРАТУРА:

СТАЛІН І. В. Прамова на нарадзе камбайнераў і камбайнерак 1/XII 1935 г.
ХРУШЧОЎ Н. С Даклад на 2-й Сесіі Вярхоўнага Совета СССР. „Праўда" ад 22/VIII 1938 г.
МАРКІН Д. Ф. Прамова на 2-й Сесіі Вярхоўнага Совета СССР „Праўда" ад 22/VIII 1938 г.
Перадавы — „Агляд перамог соцыялістычнага землеробства". „Праўда" ад 23/VIII 1938 г.
Закон аб Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы. „Праўда" ад 24/VIII 1938 г.

## II. Аб указах прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР, прынятых паміж Першай і Другой Сесіямі і зацверджаных Вярхоўным Советам СССР

Зацверджанне ўказа Прэзідыума Вярхоўнага Совета аб узнагародзе ордэнамі СССР каманднага і начальствуючага складу ў азнаменаванне дваццацігоддзя РСЧА і Ваенна-Марскога Флота. Зацверджанне ўказаў аб утварэнні новых абласцей. Зацверджанне ўказаў аб аслабаненні ад пасад паасобных народных камісараў СССР і прызначэнні новых. Прызначэнне намеснікам старшыні СНК СССР Л. М. Кагановіча.

## ЛІТАРАТУРА:

### Канстытуцыя СССР гл. III.

ГОРКІН А. Ф. Даклад на 2-й Сесіі Вярхоўнага Совета СССР. „Праўда" ад 23/VIII 1938 г.
Аб змене і дапаўненні артыкулаў 22 і 23 Канстытуцыі СССР. „Праўда" ад 24/VIII 1938 г.

## III. Вынікі Другой Сесіі Вярхоўнага Совета СССР

Другая Сесія Вярхоўнага Совета СССР вырашыла рад пытанняў, якія маюць велізарнае значэнне для дзяржавы, для ўсяго совецкага народа. Аднагалосна зацверджан адзіны дзяржаўны бюджэт СССР. На высокім ідэйна-палітычным узроўні прайшло абмеркаванне дэпутатамі Вярхоўнага Совета праекта «Палажэння аб судаўстройстве СССР, саюзных і аўтаномных рэспублік». З вялікім уздымам абмяркоўвалі і зацвердзілі праект закона «Аб грамадзянстве СССР». Сесія аднагалосна зацвердзіла «Закон аб парадку ратыфікацыі і дэнансацыі міжнародных дагавораў СССР». Зацверджан закон аб дзяржаўным падатку на коней аднаасобных гаспадарак. Вялікую ўвагу Сесіі прыцягнулі пытанні, звязаныя з Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкай.

Зацверджаны ўказы Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР, прынятыя паміж Першай і Другой Сесіямі. Другая Сесія Вярхоўнага Совета СССР паказала перад усім светам прыклад бальшэвіцкай арганізаванасці і дзелавітасці. Работа Вярхоўнага Совета СССР сустракае самае гарачае адабрэнне ўсяго вялікага совецкага народа.

## ЛІТАРАТУРА:

Перадавы—„Другая Сесія Вярхоўнага Совета СССР". „Праўда" ад 10/VIII 1938 г.
Перадавы — „Арганізаванасць і магутнасць совецкай дзяржавы". „Праўда" ад 22/VIII 1938 г.
СТАЛІН І. В. Даклад на VIII Надзвычайным з'ездзе советаў 25/XI 1936 г.
Канстытуцыя СССР. Канстытуцыя БССР.
Законы, прынятыя Вярхоўным Советам СССР. „Праўда" ад 24/VIII 1938 г.

# Закон аб адзіным дзяржаўным бюджэце Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік на 1938 год

Вярхоўны Совет Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць прадстаўлены Советам Народных Камісараў СССР адзіны дзяржаўны бюджэт СССР на 1938 год з прынятымі па дакладах Бюджэтных Камісій Совета Саюза і Совета Нацыянальнасцей зменамі, а іменна ўсяго па даходах—132.637.993 тыс. руб. і ўсяго па расходах—131.137.993 тыс. руб. з перавышэннем даходаў над расходамі ў суме—1.500.000 тыс. руб.

2. У адпаведнасці з артыкулам 1-м гэтага закона зацвердзіць даходы і расходы саюзнага бюджэта па даходах у суме—97.878.963 тыс. руб. і па расходах у суме—96.378.963 тыс. руб. з перавышэннем даходаў над расходамі ў суме 1.500.000 тыс. руб.

3. Зацвердзіць дзяржаўныя бюджэты саюзных рэспублік на 1938 год у наступных сумах:

| | Па даходах (у тыс. руб.) | Па расходах (у тыс. руб.) |
|---|---|---|
| Расійская Совецкая Федэратыўная Соцыялістычная Рэспубліка . . . . . . | 21.406.731 | 21.406.731 |
| З іх: | | |
| Рэспубліканскі бюджэт. . . . . | 15.480.076 | 3.844.894 |
| Мясцовыя бюджэты . . . . . . | 5.926.655 | 17.561.837 |
| Украінская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка | 5.977.218 | 5.977.218 |
| З іх: | | |
| Рэспубліканскі бюджэт. . . . . | 4.462.583 | 1.451.792 |
| Мясцовыя бюджэты . . . . . . | 1.514.635 | 4.525.426 |
| Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка | 1.167.210 | 1.167.210 |
| З іх: | | |
| Рэспубліканскі бюджэт. . . . . | 1.022.220 | 460.827 |
| Мясцовыя бюджэты . . . . . . . | 144.990 | 706.383 |
| Азербайджанская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка . . . . . . . | 915.723 | 915 723 |
| З іх: | | |
| Рэспубліканскі бюджэт . . . . . | 762 496 | 356.207 |
| Мясцовыя бюджэты . . . . . . | 153.227 | 559.516 |
| Грузінская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка | 1 068.637 | 1.068.637 |
| З іх: | | |
| Рэспубліканскі бюджэт . . . . . | 914.568 | 466.711 |
| Мясцовыя бюджэты . . . . . . | 154.069 | 601.926 |
| Армянская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка | 388.427 | 388.427 |

| | | |
|---|---|---|
| З іх: | | |
| Рэспубліканскі бюджэт | 348.216 | 182.861 |
| Мясцовыя бюджэты | 40 211 | 205.566 |
| Туркменская Совецкая Социялістычная Рэспубліка | 441.284 | 441.284 |
| З іх: | | |
| Рэспубліканскі бюджэт | 383 906 | 206 427 |
| Мясцовыя бюджэты | 57.378 | 234.857 |
| Узбекская Совецкая Социялістычная Рэспубліка | 1.314.693 | 1 314 693 |
| З іх: | | |
| Рэспубліканскі бюджэт | 1 100 402 | 613.765 |
| Мясцовыя бюджэты | 214.291 | 700.928 |
| Таджыкская Совецкая Социялістычная Рэспубліка | 448.928 | 448.928 |
| З іх: | | |
| Рэспубліканскі бюджэт | 407.148 | 211.286 |
| Мясцовыя бюджэты | 41.780 | 237 642 |
| Казахская Совецкая Социялістычная Рэспубліка | 1.282.602 | 1 282.602 |
| З іх: | | |
| Рэспубліканскі бюджэт | 1.157.903 | 466 469 |
| Мясцовыя бюджэты | 124.699 | 816.133 |
| Кіргізская Совецкая Социялістычная Рэспубліка | 347.577 | 347.577 |
| З іх: | | |
| Рэспубліканскі бюджэт | 312.844 | 153.797 |
| Мясцовыя бюджэты | 34.733 | 193 780 |
| Разам па дзяржаўных бюджэтах Союзных рэспублік | 34.759.030 | 34.759·030 |
| З іх: | | |
| Рэспубліканскія бюджэты | 26 352.362 | 8.415.036 |
| Мясцовыя бюджэты | 8 406 668 | 26.343.994 |

4. Зацвердзіць адлічэнні з рэспубліканскіх бюджэтаў у бюджэты АССР і мясцовых советаў у наступных сумах:

| | У тыс. руб. |
|---|---|
| Расійская Совецкая Федэратыўная Социялістычная Рэспубліка | 11·635.182 |
| Украінская Совецкая Социялістычная Рэспубліка | 3 010.791 |
| Беларуская Совецкая Социялістычная Рэспубліка | 561.393 |
| Азербайджанская Совецкая Социялістычная Рэспубліка | 406.289 |
| Грузінская Совецкая Социялістычная Рэспубліка | 447.857 |
| Армянская Совецкая Социялістычная Рэспубліка | 165.355 |
| Туркменская Совецкая Социялістычная Рэспубліка | 177 479 |
| Узбекская Совецкая Социялістычная Рэспубліка | 486.637 |
| Таджыкская Совецкая Социялістычная Рэспубліка | 195.862 |
| Казахская Совецкая Социялістычная Рэспубліка | 691.434 |
| Кіргізская Совецкая Социялістычная Рэспубліка | 159 047 |
| РАЗАМ | 17.937.326 |

5. Устанавіць на 1938 год адлічэнні ад агульнасаюзных дзяржаўных падаткаў у рэспубліканскія і мясцовыя бюджэты ў наступных размерах:

а) ад збору ў гарадах на патрэбы жыллёвага і культурна-бытавога будаўніцтва па РСФСР, Украінскай ССР, Беларускай ССР, Азербайджанскай ССР, Грузінскай ССР, Армянскай ССР і Узбекскай ССР—50 проц. і па астатніх саюзных рэспубліках—100 проц.

б) ад збору на патрэбы жыллёвага і культурна-бытавога будаўніцтва ў сельскіх мясцовасцях па ўсіх саюзных рэспубліках—100 проц.;

в) ад паступленняў па падаходнаму падатку з калгасаў і сельскагаспадарчаму падатку з калгаснікаў і аднаасобнікаў па РСФСР, УССР і БССР—75 працантаў і па астатніх рэспубліках—100 проц.

6. Даручыць Совету Народных Камісараў СССР у адпаведнасці з зацверджанымі Вярхоўным Советам СССР сумамі адлічэнняў саюзным рэспублікам ад падатку з абароту ўстанавіць па кожнай саюзнай рэспубліцы працанты адлічэнняў ад гэтага падатку.

7. Адзначыць нездавальняючую арганізацыю спагнання Наркамфінам СССР і яго мясцовымі органамі ўстаноўленых законам сельскіх падаткаў і збораў у 1937 годзе.

Абавязаць Наркамфін СССР і мясцовыя совецкія органы прыняць меры да паляпшэння работы фінансавых органаў.

8. Прапанаваць Совету Народных Камісараў СССР унесці на зацвярджэнне наступнай Сесіі Вярхоўнага Совета СССР праект закона аб адзіным дзяржаўным бюджэце СССР, які прадугледжвае ўстанаўленне больш устойлівых крыніц даходаў па рэспубліканскіх і мясцовых бюджэтах.

9. Даручыць Совету Народных Камісараў СССР прадставіць у Вярхоўны Совет СССР не пазней 15 снежня 1938 года праект адзінага дзяржаўнага бюджэта СССР на 1939 год.

10. Зацвердзіць справаздачу аб выкананні дзяржаўнага бюджэта СССР за 1936 год па даходах—83.760.252.898 руб. і па расходах—81.827.108.678 руб., з перавышэннем даходаў над расходамі ў суме 1.933.144.220 рублёў.

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР **М Калінін.**

Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР **А. Горкін.**

Масква, Крэмль.
14 жніўня 1938 г.

# Закон аб судаўстройстве СССР, саюзных і аўтаномных рэспублік

## I

### Агульнае палажэнне

**Артыкул 1.** У адпаведнасці з арт. 102 Канстытуцыі СССР правасуддзе ў СССР ажыццяўляецца Вярхоўным Судом СССР, Вярхоўнымі Судамі саюзных рэспублік, краявымі і абласнымі судамі, судамі аўтаномных рэспублік і аўтаномных абласцей, акруговымі судамі, спецыяльнымі судамі СССР, ствараемымі паводле пастановы Вярхоўнага Совета СССР, народнымі судамі.

**Артыкул 2.** Правасуддзе ў СССР мае сваёй задачай абарону ад усякіх пасяганняў:

а) устаноўленага Канстытуцыяй СССР і канстытуцыямі саюзных і аўтаномных рэспублік грамадскага і дзяржаўнага ўстройства СССР, соцыялістычнай сістэмы гаспадаркі і соцыялістычнай уласнасці;

б) палітычных, працоўных, жыллёвых і іншых асабістых і маемасных праў і інтарэсаў грамадзян СССР, гарантаваных Канстытуцыяй СССР і канстытуцыямі саюзных і аўтаномных рэспублік;

в) праў і ахоўваемых законам інтарэсаў дзяржаўных устаноў, прадпрыемстваў, калгасаў, кааператыўных і іншых грамадскіх арганізацый.

Правасуддзе ў СССР мае сваёй задачай забяспечанне дакладнага і няўхільнага выканання совецкіх законаў усімі ўстановамі, арганізацыямі, пасаднымі асобамі і грамадзянамі СССР.

**Артыкул 3.** Совецкі суд, прымяняючы меры крымінальнага пакарання, не толькі карае злачынцаў, але таксама мае сваёй мэтай выпраўленне і перавыхаванне злачынцаў.

Усёй сваёй дзейнасцю суд выхоўвае грамадзян СССР у духу адданасці радзіме і справе соцыялізма, у духу дакладнага і няўхільнага выканання совецкіх законаў, беражлівых адносін да соцыялістычнай уласнасці, дысцыпліны працы, чэсных адносін да дзяржаўнага і грамадскага абавязку, павагі да правіл соцыялістычнага агульнажыцця.

**Артыкул 4.** Указаныя ў арт. 2 гэтага закона задачы суды ў СССР ажыццяўляюць шляхам:

а) разбірацельства ў судовых пасяджэннях крымінальных спраў і прымянення ўстаноўленых законам мер пакарання да здраднікаў радзімы, шкоднікаў, раскрадальнікаў соцыялістычнай уласнасці і іншых ворагаў народа, а таксама да грабежнікаў, зладзеяў, хуліганаў і іншых злачынцаў;

б) разбірацельства і вырашэння ў судовых пасяджэннях спраў па спрэчках, якія закранаюць правы і інтарэсы грамадзян, дзяржаўных установ, прадпрыемстваў, калгасаў і іншых грамадскіх арганізацый.

**Артыкул 5.** Правасуддзе ў СССР ажыццяўляецца на пачатках:

а) адзінага і роўнага для ўсіх грамадзян суда, незалежна ад сацыяльнага, маемаснага і службовага становішча грамадзян, іх нацыянальнай і расавай прыналежнасці;

б) адзінага і абавязковага для ўсіх судоў крымінальнага, грамадзянскага і працэсуальнага законадаўства СССР.

**Артыкул 6.** Суддзі незалежны і падпарадкуюцца толькі закону (арт. 112 Канстытуцыі СССР).

**Артыкул 7.** У адпаведнасці з арт. 110 Канстытуцыі СССР судапраізводства ў СССР вядзецца на мове саюзнай або аўтаномнай рэспублікі або аўтаномнай вобласці з забеспячэннем для асоб, не валодаючых гэтай мовай, поўнага азнаямлення з матэрыяламі справы праз перакладчыка, а таксама права выступаць на судзе на роднай мове.

**Артыкул 8.** У адпаведнасці з арт. 111 Канстытуцыі СССР разбірацельства спраў ва ўсіх судах СССР адкрытае, паколькі законам не прадугледжаны выключэнні з забеспячэннем абвінавачваемаму права на абарону.

**Артыкул 9.** У адпаведнасці з арт. 103 Канстытуцыі СССР разгляд спраў ва ўсіх судах СССР ажыццяўляецца з удзелам народных засядацеляў, апрача выпадкаў, спецыяльна прадугледжаных законам.

**Артыкул 10.** У адпаведнасці з арт. арт. 105, 106, 107, 108 і 109 Канстытуцыі СССР суды ў СССР утвараюцца на пачатках выбарнасці ў парадку, устаноўленым гэтым законам.

**Артыкул 11.** Суддзямі і народнымі засядацелямі могуць быць усе грамадзяне, якія карыстаюцца выбарчымі правамі.

**Артыкул 12.** Народныя засядацелі заклікаюцца да выканання сваіх абавязкаў у судах у парадку чарговасці па спіску не больш, чым на 10 дзён у годзе, апрача выпадкаў, калі прадоўжанне гэтага тэрміну выклікаецца неабходнасцю ўдзелу народных засядацеляў у разглядзе судовай справы.

У часе выканання сваіх абавязкаў у судзе народныя засядацелі карыстаюцца ўсімі правамі суддзі.

**Артыкул 13.** За народнымі засядацелямі з ліку рабочых і служачых на ўвесь час выканання імі абавязкаў у судзе захоўваецца іх заработная плата.

Ва ўсіх астатніх выпадках аплата народным засядацелям расходаў, звязаных з выкананнем іх абавязкаў у судзе, праводзіцца ў парадку, устанаўліваемым законадаўствам саюзных рэспублік.

**Артыкул 14.** Разгляд спраў ва ўсіх судах ажыццяўляецца ў саставе суддзі і двух народных засядацеляў, апрача выпадкаў, спецыяльна прадугледжаных законам, калі гэтае разбірацельства ажыццяўляецца трыма членамі суда.

**Артыкул 15.** Прыгаворы, рашэнні і вызначэнні ўсіх судоў, апрача Вярхоўнага Суда СССР і Вярхоўных судоў саюзных рэспублік, могуць быць ва ўстаноўленым законам парадку абскарджаны асуджанымі, іх абаронцамі, істцамі, адказчыкамі і прадстаўнікамі іх інтарэсаў ці апратэставаны пракурорам у вышэйстаячы суд.

Пры разглядзе скарг і пратэстаў вышэйстаячы суд па наяўных у справе і прадстаўленых сторанамі матэрыялах правярае законнасць і абгрунтаванасць вынесенага ніжэйстаячым судом прыгавору ці рашэння.

**Артыкул 16.** Судовыя прыгаворы, рашэнні і вызначэнні, уступіўшыя ў законную сілу, могуць быць апратэстованы толькі Пракурорам СССР ці пракурорам саюзнай рэспублікі, старшынёй Вярхоўнага Суда СССР і старшынёй Вярхоўнага Суда саюзнай рэспублікі, у адпаведнасці з арт. арт. 51, 64, 74 гэтага закона.

**Артыкул 17.** Вызваленне суддзяў ад пасады і народных засядацеляў ад іх абавязкаў дапускаецца не інакш, як па адкліканню выбаршчыкаў або ў сілу адбыўшагася аб іх прыгавору суда.

**Артыкул 18.** Узбуджэнне супроць суддзяў крымінальнага праследвання, адстраненне іх у сувязі з гэтым ад пасады і адданне суду робіцца:

у адносінах народных суддзяў, членаў краявых, абласных, акруговых судоў, судоў аўтаномных абласцей, членаў Вярхоўных Судоў саюзных і аўтаномных рэспублік—па пастанове пракурора саюзнай рэспублікі з санкцыі Прэзідыума Вярхоўнага Совета саюзнай рэспублікі;

у адносінах членаў Вярхоўнага Суда СССР і спецыяльных судоў СССР—па пастанове Пракурора СССР з санкцыі Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР.

**Артыкул 19.** У выпадку часовай адсутнасці народнага суддзі (хваробы, водпуску і т. д.) выкананне абавязкаў суддзі на час яго адсутнасці ўскладаецца раённым советам дэпутатаў працоўных на аднаго з народных засядацеляў.

**Артыкул 20.** У выпадку выбыцця народнага суддзі да сканчэння тэрміну яго поўнамоцтваў новыя выбары народнага суддзі арганізуюцца не пазней двухмесячнага тэрміну з дня выбыцця.

Новыя выбары народнага суддзі арганізуюцца Народным камісарыятам юстыцыі саюзнай рэспублікі, а ў аўтаномнай рэспубліцы—Народным камісарыятам юстыцыі аўтаномнай рэспублікі.

У выпадку выбыцця членаў акруговых, краявых абласных і Вярхоўных Судоў саюзных і аўтаномных рэспублік, а таксама членаў спецыяльных судоў і Вярхоўнага Суда СССР, выбары новых членаў судоў праводзяцца на чарговай сесіі Советаў дэпутатаў працоўных вобласці, края, акругі, Вярхоўнага Совета саюзнай і аўтаномнай рэспублікі, Вярхоўнага Совета СССР.

## II

## Народны суд

**Артыкул 21.** Народны суд разглядае:

а) крымінальныя справы—

аб злачынствах супроць жыцця, здароўя, свабоды і дастоінства грамадзян—аб забойствах, нанясенні цялесных пашкоджанняў, утварэнні незаконных абортаў, незаконным пазбаўленні свабоды, згвалтаванні, злосным неплацяжы аліментаў, знявазе, хуліганстве, паклёпе;

аб маемасных злачынствах—разбоі, грабяжы, пакражах, машэнніцтве, вымаганні;

аб службовых злачынствах пасадных асоб—злоўжыванні ўладай, перавышэнні ўлады, бяздзейнасці ўлады, растратах, безгаспадарчасці, падлогах, абважванні і абмерванні, перавышэнні цэн;

аб злачынствах супроць парадку кіравання—парушэнні выбарчага закона, злосным неплацяжы ўстаноўленых законам падаткаў і збораў, адмаўленні ад выканання дзяржаўных паставак і павіннасцей, ухіленні ад прызыва і ад абавязкаў ваеннай службы, парушэнні законных распараджэнняў органаў улады;

б) грамадзянскія справы—

паісках аб маемасці,

паісках, звязаных з парушэннем законаў аб працы,

паісках аб уплаце аліментаў;

паісках аб спадчыне,

і іншыя крымінальныя і грамадзянскія справы, аднесеныя законам да яго ведання.

**Артыкул 22.** На падставе артыкула 109 Канстытуцыі СССР народныя суды выбіраюцца грамадзянамі раёна на аснове ўсеагульнага, прамога і роўнага выбарчага права пры тайным галасаванні тэрмінам на 3 гады.

**Артыкул 23.** Народныя суддзі і народныя засядацелі выбіраюцца грамадзянамі раёнаў па выбарчых акругах. Выбарчая акруга па выбарах народных суддзяў і народных засядацеляў ахапляе ўсё насельніцтва, пражываючае на тэрыторыі дзейнасці данага народнага суда.

**Артыкул 24.** Права выстаўлення кандыдатаў у народныя суддзі і народныя засядацелі забяспечваецца за грамадскімі арганізацыямі і таварыствамі працоўных: комуністычнымі партыйнымі арганізацыямі, прафесіянальнымі саюзамі, кааператывамі, арганізацыямі моладзі, культурнымі таварыствамі, а таксама агульнымі сходамі рабочых і служачых—па прадпрыемствах, ваеннаслужачых—па вайсковых часцях, агульнымі сходамі сялян—па калгасах, рабочых і служачых соўгасаў—па соўгасах.

**Артыкул 25.** Парадак рэгістрацыі кандыдатаў і апублікавання спіскаў кандыдатаў у народныя суддзі і народныя засядацелі, а таксама тэрміны і парадак іх выбараў вызначаюцца «Палажэннямі аб выбарах суддзяў і народных засядацеляў», зацвярджаемымі Вярхоўнымі Советамі саюзных рэспублік.

**Артыкул 26.** Колькасць народных судоў для кожнага раёна ўстанаўліваецца Советам Народных Камісараў саюзнай рэспублікі па прадстаўленню Народнага камісара юстыцыі саюзнай рэспублікі. У аўтаномных рэспубліках колькасць народных судоў для кожнага раёна ўстанаўліваецца Советам Народных Камісараў аўтаномнай рэспублікі па прадстаўленню Народнага камісара юстыцыі аўтаномнай рэспублікі.

**Артыкул 27.** Народны суд да разгляду справы ў судовым пасяджэнні:

а) зацвярджае абвінаваўчае заключэнне, прадстаўленае пракурорам. Пры нязгодзе з абвінаваўчым заключэннем, народны суд мае права вярнуць справу пракурору на даследванне, або спыніць справу праізводствам пры наяўнасці да гэтага дастатковых падстаў;

б) вырашае пытанне аб заключэнні абвінавачваемага пад варту або аслабаненні яго з-пад варты;

в) выносіць рашэнне аб абавязковым удзеле пры разглядзе справы абаронцы і пракурора.

**Артыкул 28.** Народны суддзя:

а) па паступіўшых скаргах і заявах выносіць пастанову аб узбуджэнні крымінальнага праследвання, ці аб адмове ў гэтым;

б) у выпадку неабходнасці, накіроўвае заявы ці скаргі следчым органам для расследвання;

в) назначае справы да слухання;

г) робіць распараджэнні аб выкліку ў суд абвінавачваемых, сведак, экспертаў і паведамляе аб часе разгляду справы істцоў і адказчыкаў;

д) старшынствуе ў пасяджэннях народнага суда.

**Артыкул 29.** Народныя суддзі адчытваюцца перад выбаршчыкамі ў сваёй рабоце і рабоце народнага суда.

## III

## Краявы, абласны, акругавы суд і суд аўтаномнай вобласці

**Артыкул 30.** У адпаведнасці з арт. 108 Канстытуцыі СССР краявы, абласны, акруговы суд і суд аўтаномнай вобласці выбіраецца краявым, абласным, акруговым советам дэпутатаў працоўных або советам дэпутатаў працоўных аўтаномнай вобласці тэрмінам на пяць год.

**Артыкул 31.** Краявы, абласны, акруговы суд і суд аўтаномнай вобласці складаецца з старшыні, намеснікаў старшыні, членаў суда і народных засядацеляў, заклікаемых для ўдзелу ў разглядзе судовых спраў.

**Артыкул 32.** Краявы, абласны, акруговы суд і суд аўтаномнай вобласці разглядаюць аднесеныя законам да іх ведання крымінальныя справы аб контррэволюцыйных злачынствах, аб асабліва небяспечных злачынствах супроць дзяржаўнага кіравання, аб раскраданнях соцыялістычнай уласнасці, аб асабліва важных пасадных і гаспадарчых злачынствах, а таксама аднесеныя законам да іх ведання грамадзянскія справы па спрэчках паміж дзяржаўнымі і грамадскімі ўстановамі, прадпрыемствамі і арганізацыямі.

Краявы, абласны, акруговы суд і суд аўтаномнай вобласці разглядаюць апрача таго скаргі і пратэсты на прыгаворы, рашэнні і вызначэнні народных судоў.

**Артыкул 33.** У саставе краявога, абласнога, акруговага суда і суда аўтаномнай вобласці дзейнічаюць:

а) судовая калегія па крымінальных справах—для разгляду крымінальных спраў, падсудных краявому, абласному, акруговаму суду і суду аўтаномнай вобласці, а таксама для разгляду скарг і пратэстаў на прыгаворы і вызначэнні народных судоў;

б) судовая калегія па грамадзянскіх справах—для разгляду грамадзянскіх спраў, падсудных краявому, абласному, акруговаму суду і суду аўтаномнай вобласці, а таксама для разгляду скарг і пратэстаў на рашэнні і вызначэнні народных судоў.

**Артыкул 34.** Судовыя калегіі краявога, абласнога, акруговага суда і суда аўтаномнай вобласці разглядаюць крымінальныя і грамадзянскія справы ў саставе старшынствуючага—старшыні ці члена суда і двух народных засядацеляў.

**Артыкул 35.** Судовыя калегіі краявога, абласнога, акруговага суда, суда аўтаномнай вобласці разглядаюць скаргі і пратэсты на прыгаворы, рашэнні і вызначэнні народных судоў у саставе трох членаў адпаведнага суда.

**Артыкул 36.** У абласцях, якія ўваходзяць у састаў края, акруговыя і абласныя суды дзейнічаюць у тым-жа саставе, што і краявы суд.

**Артыкул 37.** Старшыня краявога, абласнога, акруговага суда і суда аўтаномнай вобласці старшынствуе ў судовых паседжаннях або назначае для старшынствавання ў судовых пасяджэннях члена краявога, абласнога, акруговага суда і суда аўтаномнай вобласці, назначае справы да слухання, дае распараджэнні аб выкліку ў суд абвінавачваемых, сведак, экспертаў і паведамляе аб часе разгляду справы істцоў і адказчыкаў.

## IV

## Вярхоўны суд аўтаномнай рэспублікі

**Артыкул 38.** У адпаведнасці з арт. 107 Канстытуцыі СССР Вярхоўны Суд аўтаномнай рэспублікі выбіраецца Вярхоўным Советам аўтаномнай рэспублікі тэрмінам на 5 год.

**Артыкул 39.** Вярхоўны Суд аўтаномнай рэспублікі складаецца з старшыні, намеснікаў старшыні, членаў суда і народных засядацеляў, заклікаемых да ўдзелу ў разглядзе судовых спраў.

**Артыкул 40.** Вярхоўны Суд аўтаномнай рэспублікі разглядае аднесеныя законам да яго ведання крымінальныя справы аб контррэволюцыйных злачынствах, аб асабліва небяспечных злачынствах супроць дзяржаўнага кіравання, аб раскраданнях соцыялістычнай уласнасці, аб асабліва важных пасадных і гаспадарчых злачынствах, а таксама аднесеныя законам да яго ведання грамадзянскія справы па спрэчках паміж дзяржаўнымі і грамадскімі ўстановамі, прадпрыемствамі і арганізацыямі.

Вярхоўны Суд аўтаномнай рэспублікі разглядае апрача таго скаргі і пратэсты на прыгаворы, рашэнні і вызначэнні народных судоў.

**Артыкул 41.** У саставе Вярхоўнага Суда аўтаномнай рэспублікі дзейнічаюць:

а) судовая калегія па крымінальных справах для разгляду крымінальных спраў, аднесеных законам да ведання Вярхоўнага Суда аўтаномнай рэспублікі, а таксама для разгляду скарг і пратэстаў на прыгаворы і вызначэнні народных судоў;

б) судовая калегія па грамадзянскіх справах для разгляду грамадзянскіх спраў, аднесеных законам да ведання Вярхоўнага Суда аўтаномнай рэспублікі, а таксама для разгляду скарг і пратэстаў на рашэнні і вызначэнні народных судоў.

**Артыкул 42.** Судовыя калегіі Вярхоўнага Суда аўтаномнай рэспублікі разглядаюць справы ў саставе старшынствуючага—старшыні ці члена Вярхоўнага Суда і двух народных засядацеляў.

**Артыкул 43.** Судовыя калегіі Вярхоўнага Суда аўтаномнай рэспублікі разглядаюць скаргі і пратэсты на прыгаворы, рашэнні і вызначэнні народных судоў у саставе трох членаў Вярхоўнага Суда аўтаномнай рэспублікі.

**Артыкул 44.** Старшыня Вярхоўнага Суда аўтаномнай рэспублікі старшынствуе ў судовых пасяджэннях або назначае для старшынствавання ў судовых пасяджэннях члена Вярхоўнага Суда аўтаномнай рэспублікі, назначае справы да слухання, дае распараджэнні аб выкліку ў суд абвінавачваемых, сведак, экспертаў і паведамляе аб часе разгляду справы істцоў і адказчыкаў.

## V

## Вярхоўны суд саюзнай рэспублікі

**Артыкул 45.** Вярхоўны Суд саюзнай рэспублікі з'яўляецца вышэйшым судовым органам саюзнай рэспублікі. На Вярхоўны Суд саюзнай рэспублікі ўскладаецца нагляд за судовай дзейнасцю ўсіх судовых органаў саюзнай рэспублікі аўтаномных рэспублік, краёў, абласцей і акруг, якія ўваходзяць у састаў данай саюзнай рэспублікі.

**Артыкул 46.** У адпаведнасці з арт. 106 Канстытуцыі СССР Вярхоўны Суд саюзнай рэспублікі выбіраецца Вярхоўным Советам саюзнай рэспублікі тэрмінам на 5 год.

**Артыкул 47.** Вярхоўны Суд саюзнай рэспублікі складаецца з старшыні, намеснікаў старшыні, членаў суда і народных засядацеляў, заклікаемых да ўдзелу ў разглядзе судовых спраў.

**Артыкул 48.** Вярхоўны Суд саюзнай рэспублікі дзейнічае ў саставе:

а) судовай калегіі па крымінальных справах для разгляду крымінальных спраў, аднесеных законам да ведання Вярхоўнага Суда саюзнай рэспублікі, а таксама для разгляду скарг і пратэстаў на прыгаворы і вызначэнні краявых, абласных і іншых судоў саюзнай рэспублікі;

б) судовай калегіі па грамадзянскіх справах для разгляду грамадзянскіх спраў, аднесеных законам да ведання Вярхоўнага Суда саюзнай рэспублікі, а таксама для разгляду скарг і пратэстаў на рашэнні і вызначэнні краявых, абласных і іншых судоў саюзнай рэспублікі.

**Артыкул 49.** Судовыя калегіі Вярхоўнага Суда саюзнай рэспублікі разглядаюць справы ў саставе старшынствуючага—старшыні ці члена Вярхоўнага Суда і двух народных засядацеляў.

**Артыкул 50.** Судовыя калегіі Вярхоўнага Суда саюзнай рэспублікі разглядаюць скаргі і пратэсты на прыгаворы, рашэнні і вызначэнні краявых, абласных і іншых судоў саюзнай рэспублікі ў саставе трох членаў Вярхоўнага Суда.

**Артыкул 51.** Вярхоўны Суд саюзнай рэспублікі ажыццяўляе нагляд за судовай дзейнасцю судоў рэспублікі шляхам:

а) разгляду пратэстаў Пракурора СССР, Пракурора саюзнай рэспублікі, Старшыні Вярхоўнага Суда СССР, старшыні Вярхоўнага Суда саюзнай рэспублікі на прыгаворы, рашэнні і вызначэнні, уступіўшыя ў законную сілу;

б) разгляду ў судовых пасяджэннях скарг і пратэстаў па справах, вырашаных судамі саюзнай рэспублікі.

**Артыкул 52.** Старшыня Вярхоўнага Суда саюзнай рэспублікі старшынствуе ў судовых пасяджэннях або назначае для старшынства-

вання ў судовых пасяджэннях члена Вярхоўнага Суда саюзнай рэспублікі, назначае справы да слухання, дае распараджэнне аб выкліканні ў суд абвінавачваемых, сведак, экспертаў і паведамляе аб часе разгляду справы істцоў і адказчыкаў.

## VI

## Спецыяльныя суды СССР

**Артыкул 53.** На падставе арт. 102 Канстытуцыі СССР дзейнічаюць наступныя спецыяльныя суды СССР:

а) ваенныя трыбуналы;

б) лінейныя суды чыгуначнага транспарта;

в) лінейныя суды воднага транспарта.

**Артыкул 54.** У адпаведнасці з арт. 105 Канстытуцыі СССР старшыня, намеснікі старшыні, члены спецыяльных судоў СССР выбіраюцца Вярхоўным Советам СССР тэрмінам на пяць год.

**Артыкул 55.** Для ўдзелу ў судовых пасяджэннях ваенных трыбуналаў, лінейных судоў чыгуначнага і воднага транспарта прыцягваюцца народныя засядацелі, выбіраемыя краявымі і абласнымі советамі дэпутатаў працоўных і Вярхоўнымі Советамі саюзных і аўтаномных рэспублік.

**Артыкул 56.** Ваенныя трыбуналы, лінейныя суды чыгуначнага і воднага транспарта разглядаюць справы ў саставе старшынствуючага—старшыні або члена суда і двух народных засядацеляў, апрача выпадкаў, калі па закону справы разглядаюцца ў саставе трох членаў адпаведнага суда.

**Артыкул 57.** Ваенныя трыбуналы арганізуюцца:

а) пры ваенных акругах, фронтах і марскіх флотах;

б) пры арміях, карпусах, іншых воінскіх злучэннях і ваенізаваных установах.

**Артыкул 58.** Ваенныя трыбуналы разглядаюць справы аб воінскіх злачынствах, а таксама аб іншых злачынствах, аднесеных законам да іх ведання.

**Артыкул 59.** Ваенныя трыбуналы пры акругах, фронтах і марскіх флотах разглядаюць крымінальныя справы, аднесеныя законам да іх ведання, а таксама разглядаюць скаргі і пратэсты на прыгаворы па справах, разгледжаных ваеннымі трыбуналамі армій, карпусоў, іншых воінскіх злучэнняў і ваенізаваных устаноў.

**Артыкул 60.** Лінейныя суды чыгуначнага і воднага транспарта разглядаюць аднесеныя законам да іх ведання справы аб злачынствах, накіраваных на падрыў працоўнай дысцыпліны на транспарце, і аб іншых злачынствах, парушаючых нармальную работу транспарта.

**Артыкул 61.** Лінейныя суды чыгуначнага і воднага транспарта арганізуюцца адпаведна на чыгунках і водных шляхах зносін.

**Артыкул 62.** Старшыні ваенных трыбуналаў, лінейных судоў чыгуначнага і воднага транспарта старшынствуюць у судовых пасяджэннях або назначаюць для старшынствавання ў судовых пасяджэннях членаў ваенных трыбуналаў і лінейных судоў, назначаюць справы да слухання, даюць распараджэнні аб выкліку ў суд абвінавачваемых, сведак і экспертаў.

## VII

## Вярхоўны Суд СССР

**Артыкул 63.** У адпаведнасці з арт. арт. 104 і 105 Канстытуцыі СССР Вярхоўны Суд СССР з'яўляецца вышэйшым судовым органам і выбіраецца Вярхоўным Советам СССР тэрмінам на пяць год.

На Вярхоўны Суд СССР ускладаецца нагляд за судовай дзейнасцю ўсіх судовых органаў СССР і Саюзных рэспублік.

**Артыкул 64.** Нагляд за судовай дзейнасцю ўсіх судовых органаў СССР і саюзных рэспублік Вярхоўны Суд ажыццяўляе шляхам:

а) разгляду пратэстаў Пракурора СССР і Старшыні Вярхоўнага Суда СССР на прыгаворы, рашэнні і вызначэнні судоў, увайшоўшыя ў законную сілу;

б) разгляду скарг і пратэстаў па справах, разгледжаных ваеннымі трыбуналамі, лінейнымі судамі чыгуначнага і воднага транспарта.

**Артыкул 65.** Вярхоўны Суд СССР складаецца са Старшыні, намеснікаў Старшыні, членаў Вярхоўнага Суда і народных засядацеляў, заклікаемых да ўдзелу ў разглядзе судовых спраў, і дзейнічае ў саставе:

а) судовай калегіі па крымінальных справах;
б) судовай калегіі па грамадзянскіх справах;
в) ваеннай калегіі;
г) чыгуначнай калегіі;
д) водна-транспартнай калегіі.

**Артыкул 66.** Судовая калегія Вярхоўнага Суда СССР па крымінальных справах разглядае крымінальныя справы, аднесеныя законам да яе ведання, а таксама разглядае пратэсты на прыгаворы і вызначэнні Вярхоўных Судоў саюзных рэспублік.

**Артыкул 67.** Судовая калегія Вярхоўнага Суда СССР па грамадзянскіх справах разглядае грамадзянскія справы, аднесеныя законам да яе ведання, а таксама разглядае пратэсты на рашэнні і вызначэнні Вярхоўных Судоў саюзных рэспублік.

**Артыкул 68.** Судовыя калегіі Вярхоўнага Суда СССР па крымінальных і грамадзянскіх справах разглядаюць справы ў саставе старшынствуючага—старшыні або члена Вярхоўнага Суда СССР і двух народных засядацеляў.

Судовыя калегіі Вярхоўнага Суда СССР па крымінальных і грамадзянскіх справах разглядаюць пратэсты на прыгаворы, вызначэнні і рашэнні Вярхоўных Судоў саюзных рэспублік у саставе трох членаў Вярхоўнага Суда СССР.

**Артыкул 69.** Ваенная калегія Вярхоўнага Суда СССР разглядае справы, аднесеныя законам да яе ведання, а таксама разглядае пратэсты і скаргі на прыгаворы і вызначэнні ваенных трыбуналаў.

**Артыкул 70.** Ваенная калегія Вярхоўнага Суда СССР разглядае справы ў саставе старшынствуючага—старшыні або члена ваеннай калегіі Вярхоўнага Суда СССР і двух народных засядацеляў, апрача выпадкаў, спецыяльна прадугледжаных крымінальна-працэсуальным кодэксам, калі справы разглядаюцца ў саставе трох членаў ваеннай калегіі.

Ваенная калегія Вярхоўнага Суда СССР разглядае пратэсты і скаргі на прыгаворы і вызначэнні ваенных трыбуналаў у саставе трох членаў ваеннай калегіі Вярхоўнага Суда СССР.

**Артыкул 71.** Чыгуначная і водна-транспартная калегіі Вярхоўнага Суда СССР разглядаюць справы аб злачынствах, аднесеных законам да іх ведання, а таксама разглядаюць пратэсты і скаргі, прынасімыя на прыгаворы і вызначэнні лінейных судоў чыгуначнага і воднага транспарта.

**Артыкул 72.** Чыгуначная і водна-транспартная калегіі Вярхоўнага Суда СССР разглядаюць справы ў саставе старшынствуючага—старшыні або члена адпаведнай калегіі і двух народных засядацеляў.

**Артыкул 73.** Чыгуначная і водна-транспартная калегіі Вярхоўнага Суда СССР разглядаюць пратэсты і скаргі, прынасімыя на прыгаворы і вызначэнні лінейных судоў чыгуначнага і воднага транспарта, у саставе трох членаў адпаведнай калегіі Вярхоўнага Суда СССР.

**Артыкул 74.** Старшыня Вярхоўнага Суда СССР можа прыняць на сябе старшынстваванне па любой справе, якая знаходзіцца на разглядзе калегіі Вярхоўнага Суда СССР.

Старшыня Вярхоўнага Суда СССР і Пракурор СССР маюць права вытрабаваць любую справу з любога суда СССР або саюзных рэспублік і ўнесці па гэтай справе свой пратэст ва ўстаноўленым законам парадку.

**Артыкул 75.** Для разгляду прынасімых старшынёй Вярхоўнага Суда СССР або Пракурорам СССР пратэстаў на прыгаворы, рашэнні і вызначэнні калегій Вярхоўнага Суда СССР склікаецца Пленум Вярхоўнага Суда СССР, які таксама дае кіруючыя ўказанні па пытаннях судовай практыкі на падставе рашэнняў, прынятых па разгледжаных Вярхоўным Судом СССР судовых справах.

**Артыкул 76.** Пленум Вярхоўнага Суда СССР складаецца са старшыні Вярхоўнага Суда СССР, яго намеснікаў і ўсіх членаў Вярхоўнага Суда СССР.

Удзел Пракурора СССР у Пленуме абавязковы.

У пасяджэнні Пленума Вярхоўнага Суда СССР удзельнічае Народны Камісар Юстыцыі СССР.

**Артыкул 77.** Пасяджэнні Пленума Вярхоўнага Суда СССР склікаюцца не радзей аднаго разу ў два месяцы.

## VIII

## Судовыя выканаўцы

**Артыкул 78.** Выкананне рашэнняў і вызначэнняў па грамадзянскіх справах і выкананне прыгавораў па крымінальных справах у частцы маемасных спагнанняў праводзіцца судовымі выканаўцамі.

**Артыкул 79.** Судовыя выканаўцы састаяць пры народных судах, пры акруговых, краявых, абласных судах, судах аўтаномных абласцей, Вярхоўных Судах аўтаномных і саюзных рэспублік і назначаюцца Народным Камісарыятам Юстыцыі саюзнай рэспублікі, а ў аўтаномных рэспубліках—Народным Камісарыятам Юстыцыі аўтаномнай рэспублікі.

**Артыкул 80.** Прад'яўляемыя судовымі выканаўцамі патрабаванні па выкананню судовых прыгавораў, рашэнняў і вызначэнняў абавязковы для ўсіх пасадавых асоб і грамадзян.

**Старшыня прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР М. КАЛІНІН.**

**Сакратар прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР А. Горкін.**

Масква, Крэмль. 16 жніўня 1938 г.

# Аб выбранні Вярхоўнага Суда Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік

Вярхоўны Совет Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік **пастанаўляе:**

Выбраць Вярхоўны Суд Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік у наступным саставе:

**СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА СУДА СССР—**

1. **Галякоў** Іван Царэнцьевіч.

**ЧЛЕНЫ ВЯРХОЎНАГА СУДА СССР:**

2. **Аляксееў** Георгій Аляксеевіч.
3. **Абдурахманаў** Усман.
4. **Алексанян** Алексан Агабекавіч.
5. **Баяркін** Міхаіл Аляксеевіч.
6. **Буленкоў** Аляксей Аляксеевіч.
7. **Буканаў** Васілій Васільевіч.
8. **Волк** Екацерына Архіпаўна.
9. **Гусеў** Андрэй Грыгор'евіч.
10. **Дзецістаў** Іван Васільевіч.
11. **Дзмітрыеў** Леанід Дзмітрыевіч.
12. **Жукаў** Дзмітрый Якаўлевіч.
13. **Заранаў** Іван Міхеевіч.
14. **Іеўлеў** Барыс Іванавіч.
15. **Камерон** Пётр Аляксеевіч.
16. **Караджаева** Нуры.
17. **Клімін** Фёдар Арсеньевіч.
18. **Корнеў** Іван Владзіміравіч.
19. **Каробко** Раіса Якаўлеўна.
20. **Кандыбін** Дзмітрый Якаўлевіч.
21. **Лодысеў** Сяргей Цярэнцьевіч.
22. **Малініна** Марыя Нікалаеўна.
23. **Матулевіч** Іван Осіпавіч.
24. **Наумаў** Нікалай Аляксандравіч.
25. **Нікітчэнка** Іона Цімафеевіч.
26. **Назарава** Анна Назараўна.
27. **Орлоўскі** Павел Ефімавіч.
28. **Огурцоў** Іван Канстанцінавіч.
29. **Орлоў** Аляксандр Майсеевіч.
30. **Панкратаў** Канстанцін Аляксандравіч.
31. **Рахімаў** Гаджы Мамедавіч.
32. **Раманава** Анна Аляксандраўна.
33. **Раманычэў** Міхаіл Грыгор'евіч.
34. **Сакіеў** Тюгульбай.
35. **Саладзілаў** Андрэй Пятровіч.
36. **Сауленка** Любоў Карнееўна.
37. **Смірнова** Еўдакія Васільеўна.
38. **Суслін** Андрэй Грыгор'евіч.
39. **Саланіцын** Нікалай Аляксеевіч.
40. **Ульрых** Васілій Васільевіч.
41. **Успенскі** Владзімір Аляксеевіч.
42. **Чагіраў** Баймухамед.
43. **Чэпцоў** Аляксандр Аляксандравіч.
44. **Чхэціані** Афанасій Леванавіч.
45. **Шарыфаў** Зарыф.

**НАРОДНЫЯ ЗАСЯДАЦЕЛІ ВЯРХОЎНАГА СУДА СССР:**

1. **Авезава** Мастура.
2. **Алдабергенаў** Тулеў.
3. **Барышэў** Сцяпан Нікіціч.
4. **Белан** Раман Васільевіч.
5. **Дзюканаў** Мірон Дзмітрыевіч.
6. **Ільін** Грыгорый Маркелавіч.
7. **Леонава** Ольга Фёдараўна.
8. **Малюшын** Нікалай Цімафеевіч.
9. **Мінаеў** Васілій Сцяпанавіч.
10. **Мірзаеў** Тішабай.
11. **Мір Касімаў** Мір Асадула Мір Алескер оглы.
12. **Малякоў** Васілій Фёдаравіч.
13. **Огнёў** Аляксандр Сцяпанавіч.
14. **Орлоў** Пётр Сямёнавіч.
15. **Сметанін** Нікалай Сцяпанавіч.
16. **Цатуран** Цатур Алекавіч.
17. **Цыклаўры** Андрэй Васільевіч.
18. **Чулетаў** Мурад.
19. **Шамсутдзінаў** Галім Шамсутдзінавіч.
20. **Якуш** Пелагея Остапаўна.

**Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР М. КАЛІНІН.**

**Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР А. ГОРКІН.**

Масква, Крэмль. 17 жніўня 1938 г.

# Закон аб грамадзянстве Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік

**Артыкул 1.** На падставе арт 21 Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік для грамадзян СССР устанаўліваецца адзінае саюзнае грамадзянства.

Кожны грамадзянін Саюзнай Рэспублікі з'яўляецца грамадзянінам СССР.

**Артыкул 2.** Грамадзянамі СССР з'яўляюцца:

а) усе састаяўшыя да 7 лістапада 1917 года падданымі былой Расійскай імперыі і не ўтраціўшыя савецкага грамадзянства;

б) асобы, якія набылі савецкае грамадзянства ва ўстаноўленым законам парадку.

**Артыкул 3.** Іншакраінцы, незалежна ад іх нацыянальнасці і расы, прымаюцца ў грамадзянства СССР па іх хадайніцтву Прэзідыумам Вярхоўнага Савета СССР або Прэзідыумам Вярхоўнага Савета Саюзнай Рэспублікі, у межах якой яны пражываюць.

**Артыкул 4.** Выхад з грамадзянства СССР дазваляецца Прэзідыумам Вярхоўнага Савета СССР.

**Артыкул 5.** Уступленне ў брак грамадзяніна або грамадзянкі СССР з асобай, не маючай грамадзянства СССР, не цягне змены грамадзянства.

**Артыкул 6.** Пры змене грамадзянства бацькоў, у выніку якога абодва становяцца грамадзянамі СССР або абодва выходзяць з грамадзянства СССР, змяняецца адпаведна грамадзянства іх дзяцей, не дасягнуўшых 14-гадовага ўзросту. Змена грамадзянства дзяцей ва ўзросце ад 14 да 18 год можа паследаваць толькі з іх згоды.

У іншых выпадках змена грамадзянства дзяцей, не дасягнуўшых 18 год, можа паследаваць толькі ў агульным парадку.

**Артыкул 7.** Пазбаўленне грамадзянства СССР можа мець месца:

а) па прыгавору суда—у выпадках, прадугледжаных законам;

б) у сілу асобага ў кожным выпадку указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.

**Артыкул 8.** Асобы, пражываючыя на тэрыторыі СССР, не з'яўляючыся ў сілу гэтага Закона грамадзянамі СССР і не маючыя доказаў сваёй прыналежнасці да замежнага грамадзянства, лічацца асобамі без грамадзянства.

**Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. КАЛІНІН.**

**Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР А. ГОРКІН.**

Масква. Крэмль.
19 жніўня 1938 г.

## Закон аб парадку ратыфікацыі і дэнансацыі міжнародных дагавораў СССР

**Артыкул 1.** У адпаведнасці з пунктам «м» артыкула 49 Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, ратыфікацыя міжнародных дагавораў утвараецца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета СССР.

**Артыкул 2.** Ратыфікацыі падлягаюць заключаемыя Саюзам Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік мірныя дагаворы, дагаворы аб узаемнай абароне ад агрэсіі, дагаворы аб узаемным ненападзе.

Роўным чынам, ратыфікацыі падлягаюць міжнародныя дагаворы, пры заключэнні якіх стораны ўмовіліся аб наступнай ратыфікацыі.

**Артыкул 3.** Дэнансацыя ратыфікаваных міжнародных дагавораў утвараецца на падставе ўказаў Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР.

**Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР М. КАЛІНІН.**

**Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР А. ГОРКІН.**

Масква. Крэмль.
20 жніўня 1938 г.

# Закон аб дзяржаўным падатку на коней аднаасобных гаспадарак

У сувязі з тым, што па сведчанню калгаснікаў коні ў аднаасобных сялянскіх гаспадарках звычайна скарыстоўваюцца не для сельскагаспадарчых работ у сваёй гаспадарцы, а ў мэтах спекуляцыйнай нажывы па-за сваёй гаспадаркай, Вярхоўны Совет Саюза Совецкіх Социялістычных Рэспублік, ідучы насустрач пажаданням калгаснікаў, **пастанаўляе:**

1. Увесці асобы дзяржаўны падатак на коней аднаасобных гаспадарак.

2. Стаўкі дзяржаўнага падатку з аднаасобных гаспадарак, маючых коней, устанавіць па асобных рэспубліках, краях і абласцях у наступных размерах:

| Рэспублікі, краі і вобласці | За аднаго каня | За кожнага наступнага каня звыш аднэй галавы |
|---|---|---|
| 1. РСФСР (за выключэннем указаных ніжэй краёў, абласцей і АССР), Украінская ССР, Беларуская ССР | 1-я група раёнаў —400 руб.<br>2-я група раёнаў —500 руб. | 1-я група раёнаў —700 руб.<br>2-я група раёнаў —800 руб. |
| 2. Азербайджанская, Грузінская, Армянская, Туркменская, Узбекская, Таджыкская, Казахская і Кіргізская ССР; Далёкаўсходні і Краснаярскі краі; Іркуцкая і Чыцінская вобласці; Дагестанская, Бурат-Мангольская, Кабардзіна - Балкарская, Калмыцкая, Карэльская, Комі, Паўночна-Осецінская, Чэчэна-Інгушская і Якуцкая АССР. | 1-я група раёнаў —275 руб.<br>2-я група раёнаў —350 руб. | 1-я група раёнаў —450 руб.<br>2-я група раёнаў —550 руб. |

3. Ускласці на Краявыя і Абласныя Выканаўчыя Камітэты Советаў дэпутатаў працоўных, а ў аўтаномных рэспубліках і саюзных рэспубліках, не маючых абласнога дзялення, на Советы Народных Камісараў аднясенне тых або іншых раёнаў або акруг па стаўках падатку да 1-й і 2-й груп у залежнасці ад размера даходаў, атрымліваемых ад скарыстання каня.

4. Падатак на коней уплачваюць усе аднаасобныя гаспадаркі, маючыя к моманту апублікавання закона коней ва ўзросце ад трох год і вышэй. Продаж коней пасля апублікавання закона не аслабаняе ад уплаты падатку за бягучы год.

5. Устанавіць тэрмін уплаты падатку—15 кастрычніка.

6. Гаспадаркі, уступіўшыя ў калгасы да 15 кастрычніка 1938 г. і здаўшыя ў калгасы сваіх коней, аслабаняюцца ад уплаты дзяржаўнага падатку на коней.

7. Паступленні ад падатку на коней аднаасобных гаспадарак накіроўваюцца: 25 проц. у бюджэты саюзных рэспублік; 25 проц. у бюджэты краёў, абласцей і аўтаномных рэспублік і 50 проц. у раённыя бюджэты.

**Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. КАЛІНІН.**

**Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР А. ГОРКІН.**

Масква. Крэмль.
21 жніўня 1938 г.

# Закон аб Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы

Вярхоўны Совет СССР адзначае велізарнае значэнне арганізуемай па рашэнню Ўрада Ўсесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі ў справе далейшага ўздыму соцыялістычнай сельскай гаспадаркі ў СССР.

Усесаюзная сельскагаспадарчая выстаўка, якая заклікана дастойна адлюстраваць вялікія дасягненні соцыялістычнай сельскай гаспадаркі ў СССР, паказаць лепшыя ўзоры ўсіх галін сельскай гаспадаркі, прадэманстраваць ва ўсёй рознастайнасці магутнасць і багацце сельскай гаспадаркі рэспублік, краёў і абласцей Совецкага Саюза,—павінна даць магутны штуршок соцыялістычнаму спаборніцтву калгасаў і калгаснікаў і ўсіх работнікаў сельскай гаспадаркі для памнажэння дасягненняў сельскай гаспадаркі, будзе садзейнічаць падцягванню ўсёй масы калгасаў і соўгасаў да ўзроўню перадавых з тым, каб забяспечыць далейшы няўхільны ўздым сельскай гаспадаркі, рост багацця сельскагаспадарчых прадуктаў, заможнасці і культурнасці калгасных мас.

Вярхоўны Совет разам з тым адзначае нездавальняючае становішча падрыхтоўкі сельскагаспадарчай выстаўкі. Да гэтага часу Наркамземам і Наркомсоўгасаў СССР яшчэ не ўстаноўлены дыферэнцыяваныя паказальнікі для адбору ўдзельнікаў выстаўкі прымяняльна да рознастайных асаблівасцей сельскагаспадарчай вытворчасці ў розных па кліматычных, глебавых і іншых умовах раёнах СССР, не закончаны работы па будаўніцтву выстаўкі, а асобныя павільёны, пабудаваныя ўжо, яўна не адказваюць тым патрабаванням, якія пастаўлены перад Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкай.

У мэтах выпраўлення ўказаных сур'ёзных недахопаў у падрыхтоўцы да адкрыцця выстаўкі і ў мэтах яе найлепшай арганізацыі, а таксама ў інтарэсах шырокага разгортвання соцыялістычнага спаборніцтва ў калгасах, соўгасах, машына-трактарных станцыях і калгасных таварных фермах на права ўдзелу ва Ўсесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы Вярхоўны Совет Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік **пастанаўляе:**

1. Прапанаваць Наркамзему і Наркомсоўгасаў СССР неадкладна выправіць указаныя памылкі і недахопы ў арганізацыі Ўсесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі.

2. Перанесці адкрыццё Ўсесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі на 1939 год, назначыўшы адкрыццё яе на 1 жніўня 1939 года.

**Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР М. КАЛІНІН.**

**Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР А. ГОРКІН.**

Масква. Крэмль.
21 жніўня 1938 г.

## Аб змене і дапаўненні артыкулаў 22 і 23 Канстытуцыі (Асноўнага Закона) СССР

Вярхоўны Совет Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць утварэнне ў саставе Расійскай Совецкай Федэратыўнай Соцыялістычнай Рэспублікі Мурманскай вобласці.

У адпаведнасці з гэтым ізлажыць артыкул 22 Канстытуцыі СССР наступным чынам:

«**Артыкул 22.** Расійская Совецкая Федэратыўная Соцыялістычная Рэспубліка складаецца з краёў: Алтайскага, Далёкаўсходняга, Краснадарскага, Краснаярскага, Орджанікідзеўскага; абласцей: Архангельскай, Валагодскай, Варонежскай, Горкаўскай, Іванаўскай, Іркуцкай, Калінінскай, Кіраўскай, Куйбышэўскай, Курскай, Ленінградскай, Маскоўскай, Мурманскай, Новасібірскай, Омскай, Орэнбургскай, Орлоўскай, Растоўскай, Разанскай, Саратаўскай, Свердлоўскай, Смаленскай, Сталінградскай, Тамбоўскай, Тульскай, Чэлябінскай, Чыцінскай, Яраслаўскай, аўтаномных совецкіх соцыялістычных рэспублік: Татарскай, Башкірскай, Дагестанскай, Бурат-Мангольскай, Кабардзіна-Балкарскай, Калмыцкай, Карэльскай, Комі, Крымскай, Марыйскай, Мардоўскай, Немцаў Паволжа, Паўночна-Осецінскай, Удмурцкай, Чэчэна-Інгушскай, Чувашскай, Якуцкай; аўтаномных абласцей: Адыгейскай, Яўрэйскай, Карачаеўскай, Ойроцкай, Хакаскай, Чэркескай».

2. Зацвердзіць утварэнне ў саставе Украінскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі абласцей: Сталінскай і Варашылаўградскай.

У адпаведнасці з гэтым ізлажыць артыкул 23 Канстытуцыі СССР наступным чынам:

«**Артыкул 23.** Украінская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка складаецца з абласцей: Вінніцкай, Варашылаўградскай, Днепрапетроўскай, Жытомірскай, Каменец-Па-

дольскай, Кіеўскай, Нікалаеўскай, Одэскай, Палтаўскай, Сталінскай, Харкаўскай, Чэрнігаўскай і Малдаўскай Аўтаномнай Совецкай Социялістычнай Рэспублікі».

**Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР М. КАЛІНІН.**

**Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР А. ГОРКІН.**

Масква. Крэмль.
21 жніўня 1938 г.

Уп. Галоўліта БССР № 4518.
Тыраж 7.000 экз.
324.400 друк. зн. (6¼ арк.)
Здана ў набор 20/VIII—38 г.
Падпісана да друку 14/IX—38 г.

*РЭДКАЛЕГІЯ.*

Друкарня імя Сталіна. Менск, Дом Друку. Зак. № 3783.

